–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
9
КРАСАВІКА
1993 г.
№ 14 (3684)
КОШТ
3 рублі



*Жанчына ўтрымлівае й дасканаліць свет вакол сябе — увогуле; Этэль Таер, гераіні Аляксандры Клімавай, руліць свет маленькага дамка на Залатым возеры, — у прыватнасці; Аляксандра Клімава воляю рэжысёра і драматурга вядзе рэй у спектаклі «На Залатым возеры», — перадусім з падтрымкі партнёра, Расціслава Янкоўскага...*

*...На тэатральных абвестках іх назвалі «зорным дуэтам», — іх, Аляксандру Клімаву ды Расціслава Янкоўскага. Не з дужа вялікім густам, трэба зазначыць, назвалі, але даруйма ўсеагульнаму тутэйшаму няўменню рабіць рэкламу. Пільней зважым на сутнасць з'явы-вобраза: яны, Аляксандра Клімава ды Расціслаў Янкоўскі, і напраўду зоркі першай велічыні. Шчырым золатам свайго залатога веку — веку майстэрства й слугавання мастацтву — яны рассыпаюцца ў спектаклі, дзе іхняму зорнаму дуэту належыць свяціць ясна, ззяць, мігцець, успыхваць, выбухаць апошнім золатам пачуццяў ды знічкамі адкрытасці крэсліць апошнія дарогі сваіх персанажаў, Нормана Таера ды ягонае жонкі Этэль... На малой сцэне Рускага тэатра Беларусі, ператоранай рэжысёрам Аляксандрам Карпавым-малодшым і мастаком Яўгенам Волкавым у славутае Залатое возера, доўжыцца прыхаваная трагедыя адыходу — чалавечага адыходу не ўпрочкі — назаўжды...*

*Сакавіцкая прэм'ера малой сцэны Рускага тэатра вымагае... сэрца. Усміхаецеся? I я пасміхалася, пакуль не пайшла адтуль... без вачэй, даверыўшыся насоўцы /бадай, другі раз у жыцці/. Развіццё падзей ды сцэнічнае жыццё герояў /а ў ролях, акрамя Аляксандры Клімавай ды Расціслава Янкоўскага, занятыя Зінаіда Асмолава і Вольга Клебановіч, Уладзімір Шэлестаў, Яўген Лявонцеў ды Ягор Фядотаў/ мае на ўвазе, так бы мовіць, сузіральны саўдзел гледачоў: асацыяцыі, згадкі, досведы, выбудоўваючыся ў ланцужкі, мусяць паланіць уражлівага чалавека ў зале ды падпарадкаваць яго... зорнаму святлу, — тое, адбіўшыся ў глядацкіх зрэнках, памкне ў свой — зорны свет...*

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

Фота Аляксея ІЛЬІНА

## «ЛіМ» — другое паўгоддзе

З 1 красавіка па 20 мая праводзіцца падпіска на газеты і часопісы на другую палову 1993 года. Хочацца спадзявацца, шаноўныя чытачы, што мы застанёмся з вамі добрымі сябрамі і надалей. **Кошт лімаўскай падпіскі — 240 рублёў на шэсць месяцаў** /адпаведна на 3 месяцы - 120, на 1 месяц - 40 рублёў/

**Нагадаем: індэкс штотыднёвіка — 63856.**

**Калі ласка, завітайце ў бліжэйшае аддзяленне сувязі і аформіце падпіску на «ЛіМ». Не адкладвайце гэта на апошнія дні.**

## ХОЦЬ ГЭТА ВЫ ЎСВЕДАМЛЯЕЦЕ?

***Анатоль ЛЯЎКОВІЧ: «У суверэннай, незалежнай рэспубліцы раскручваюць жорны антынацыянальнай кампаніі. Апалагеты «інтэрнацыяналізму» абяцаюць нам узмацніць «святую» барацьбу з «нацыяналізмам». Яны ніяк не могуць уцяміць тое, што ведаюць усе цывілізаваныя людзі свету — культура кожнай нацыі прыносіць карысць агульначалавечай культуры».***

СТАРОНКІ 3-4

## АСАНА МІНУЛАМУ І ЯГО ПРАВАДЫРАМ?

***Пасляслоўе да аднаго інтэрв'ю***

СТАРОНКІ 5, 12

## АД ЖАЛЮ І «ЛЮБОВІ ЛЮТАЙ...»

***Гутарка пісьменніка Андрэя ФЕДАРЭНКІ і журналіста Юрася ЗАЛОСКІ***

СТАРОНКІ 6-7

## СУМ ПА ДУХОЎНЫМ ПАНТЭОНЕ

***Новыя старонкі Масеевай кнігі***

СТАРОНКІ 8-9

## НАША АКАДЭМІЯ НАВУК

***Нататкі Уладзіміра КАЗБЕРУКА***

СТАРОНКІ 14-15

## УСЁ ВЫРАШАЕ САМА ЦАРКВА...

***Валянціна ДЫШЫНЕВІЧ: «Імкненне шукаць ворагаў і весці бясконцую барацьбу — ад бязбожнага мінулага, і калі мы сапраўды хочам будаваць сваю дзяржаву на фундаменце хрысціянскага гуманізму, то трэба як мага трымацца запаветаў Хрыста...»***

СТАРОНКА 16

# КОЛА ДЗЁН

*Чарговая агульнарэспубліканская палітычная мітрэнга, звязаная з разглядам у Вярхоўным Савеце пытання аб далучэнні да дагавора аб калектыўнай бяспецы краін СНД, выклікала ўсплёск палітычных эмоцый, заяў і дэкларацый /з імі чытач меў магчымасць пазнаёміцца ў штодзённым друку/. Пытанне, бадай, сталася адмысловай лакмусавай паперкай, што дазволіла яшчэ раз выявіць «нутро» розных сіл і рухаў, ініцыіравала шырокія выказванні ў друку. Трэшчына прайшла паміж двума полюсамі: прыхільнікамі /чытай, ініцыятарамі/ ваеннага блоку з Расіяй і іх супрацоўнікамі, староннікамі нейтральнага і бяз'ядзернага статуса рэспублікі. На адным полюсе — урад, вядомая большасць у Вярхоўным Савеце, партыі-ўдзельніцы г.зв. Народнага руху, Саюз афіцэраў і іншыя фармаванні; на супрацьлеглым полюсе — парламенцкая апазіцыя БНФ, блок дэмакратычных партый, што выступілі з сумеснай заявай супраць ваеннай ініцыятывы ўрада /гл. «Народную газету» за 7.04.93/, шматлікія культурна-асветніцкія арганізацыі, у тым ліку з адпаведнай заявай выступіла пашыраная Рада Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Нават незалежна ад вынікаў галасавання /ці не праклянуць нашчадкі яго пераможцаў? — ставіць слушнае, хоць і рытарычнае пытанне агладальнік «НГ» Сяргей Плыткевіч/ тыднёвы напал страсцей, на наш погляд, адыграў увогуле пазітыўную ролю ў справе выбару грамадзянскай пазіцыі, і найперш пазіцыі інтэлігенцыі. Сапраўды, развіццё падзей паказвае, наколькі палітычна жудасную ролю дзеля лёсу краіны і ўласнага лёсу можа адыграць г.зв. апалітызм, маўклівая згода з дзеяннямі ўладу маючых. «Бойцеся маўклівых», — чамусьці згадваўся ў гэтыя дні вядомы афарызм.*

## ЗАЯВА ТЫДНЯ

«У выпадку крызісу і хаосу ў Расіі ў Літву могуць быць уведзены «блакітныя каскі» ААН ці НАТА», — заявіў, выступаючы на брыфінгу ў літоўскім сейме, лідэр правай апазіцыі В.Ландсбергіс.

## ФОРУМ ТЫДНЯ

6—7 красавіка прайшоў першы нацыянальны кангрэс маладых палітыкаў Беларусі. Выступаючы на ім, С.Шушкевіч засцярог маладых прыхільнікаў дэмакратыі «ад памылак і хібаў, якімі поўніцца шлях да высокай палітыкі». Магчыма, такое ранняе гуртаванне палітычных дзеячаў сапраўды паспрыяе фармаванню прававой дзяржаўнасці ў краіне. Дарэчы, маладыя палітыкі ўжо апрабавалі свой голас: у прынятай заяве удзельнікі кангрэсу выказаліся за захаванне нейтралітэту Беларусі.

## ДЭЗІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

Неспадзяваная недакладнасць прайшла ў дакладзе Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Шушкевіча на нечарговай адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета. Крытыкуючы дзейнасць Міністэрства замежных спраў — і крытыкуючы, адзначым, аб'ектыўна, напрыклад, дыпламатычныя промахі МЗС у пытанні паніжэння ўнёсак Беларусі ў ААН, — Старшыня паведаміў, што Арменіі ўдалося набыць статус краіны, пацярпелай у выніку экалагічнага бедства, і вызваліцца ад уплаты членскіх ўнёсак у ААН. Як высветлілася з ліста Паўнамоцнага Прадстаўніка Беларусі пры ААН Г.Бураўкіна, такое паведамленне не адпавядае сапраўднасці — Арменія нават не ставіла падобнае пытанне ў ААН.

## ЦЭНЫ ТЫДНЯ

З пятага красавіка рашэннем Дзяржэканомплана павышаны рознічныя цэны на хлеб і хлебабулачныя вырабы, малако і малочную прадукцыю — у сярэднім у 3 разы, і на масла — на 70 працэнтаў.

## «ЧП» ТЫДНЯ

У выніку кароткага замыкання на лініі электраперадач аўтаматычна адключыўся турбагенератар другога блока Ігналінскай АЭС. Віноўніцаю аварыі стала ... варона.

## НЯЎДАЧА ТЫДНЯ

Дзякуючы пільнасці УКДБ па Гродзенскай вобласці не пасмеў узляцець самалёт, што меўся незаконна вывезці з рэспублікі каля 100 мл. наяўных расійскіх рублёў. Па факту вядзецца следства.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Думаю, у першую чаргу павінна паклапаціцца пра лёс Бацькаўшчыны авангардная частка грамадства, інтэлігенцыя. Узняць нацыю, адкрыць ёй вочы на тое, што яна можа і на што яна мае права, павінна інтэлігенцыя. На жаль, наша інтэлігенцыя аказалася не на вышыні. Што датычыць творчай інтэлігенцыі, то ў гэты лёсавызначальны момант яна наогул схавалася. У палітыцы яе няма, яе адтуль вывелі...», — сказаў у інтэрв'ю «Народнай газеце» Васіль Быкаў.

## ЖАРТЫ ТЫДНЯ

І красавіка польскае радыё перадало паведамленне аб тым, што, маўляў, прэм'ер-міністр Ганна Сухоцка аб'явіла аб адмене ўрадавай праграмы сацыяльнай прыватызацыі... А па «Беларускай маладзёжнай» у гэты дзень прагучаў «суровы дыктарскі голас»: «Праз некалькі хвілін чакаецца афіцыйнае паведамленне Савета Міністраў...» І гэты ж голас пасля павіншаваў слухачоў з 1-м красавіка. Толькі і ўсяго... На наступны дзень з'явіцца загад па Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі «Аб мерах, звязаных з выдачай у эфір перадачы радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная», згодна з якім часова адхіляюцца ад выканання абавязкаў галоўны рэдактар праграмы Ж.Літвіна і мадэратар першакрасавіцкага эфіру А.Радкевіч. Ды таго мала: да 9 красавіка спецыяльная камісія маецца разгледзець лёс «маладзёжкі». Такія вось жарты...




**Апошнія дні сакавіка ці не ўпершыню за нашу гісторыю азнаменаваліся ўрачыстасцямі з нагоды 75-ых угодак абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Яно пакуль што не дзяржаўнае, свята нашага нараджэння, але было адзначана шырока і велічна.**

**Гэтыя здымкі зроблены нашым фотакарэспандэнтам У.Панадам у дні святкавання ў зале філармоніі /там прайшоў урачысты вечар/, у Мінскай мастацкай вучэльні /там была наладжана выстава, прысвечаная ўгодкам БНР/ і на могілках Росы ў Вільні /там адбылося асвячэнне помнікаў на магілах братоў Івана і Антона Луцкевічаў/.**






ЛІСТ ТЫДНЯ

# БОЖА, ДАЙ НАМ АДЗІНСТВА!

Трапіць 25 сакавіка ў сталіцу рэспублікі — для правінцыяла вялікае шчасце. А трапіць увечары гэтага дня, хаця і без запрашэння, па-студэнцку, у залу філармоніі на святкаванне 75-годдзя БНР — шчасце невыказнае. Не ведаю, напэўна, тэлебачанне як заўжды праміне гэтую падзею, хоць тэлевізійшчыкі на ёй былі. А тут патрэбна не інфармацыя, не перадача на поўгадзінкі, а поўны запіс і поўны паказ свята на ўсю рэспубліку. Некалькі гэтых гадзін узлёту і царавання беларускай ідэі, беларускага духу зробяць для нацыянальнага адраджэння значна больш, чым дзесятак афіцыйных пастаноў, выціснутых чыноўнікамі скрозь зубы.

Але бяруся за пяро я з іншай прычыны. Паспрабую звязаць перад чытачамі ў ланцужок назіранні, перажыванні і высновы «прававернага» беларуса, не пазбаўленага, аднак, жыццёвага скепсісу.

Менчукі да гэтага даўно прывыклі, а вось для правінцыяла ўбачыць адразу поўную залу /нават ля сцен не было свабоднага месцейка/ свядомых беларусаў, пачуць са сцэны жывых прарокаў нашага адраджэння, адбіць далоні ў авацыях, дзесятак разоў разам з залай у адзіным парыве выдыхаць «Жыве Беларусь!» — вельмі і вельмі ўсцешна. У правінцыі ж такіх свядомых адзінкі, і калі нават кіне іх якая нагода ў збой — купка яна і ёсць купка.

Ды вось некалькі гадзін яднання, некалькі гадзін на вяршыні спасціжэння сваёй далучанасці да таго лепшага, што ёсць у роднай нацыі, мінуліся. Вечарына закончана. Плошча перад філармоніяй напоўнілася ўзбуджанымі, гаваркімі людзьмі. І вуха ловіць галоўную адметнасць гэтага натоўпу: усе размаўляюць па-беларуску. Беларускае слова, нязмушанае і вясёлае, гучыць яшчэ і на прыпынках. Нават у вагон метро пранікае яно з той вечарыны, праўда, ужо досыць разбаўленае стомленай і санлівай іншай гамонкай.

Але выйшаў на патрэбнай станцыі метро, перасеў у аўтобус. І ўжо адзін ты сярод звычнай і папраўдзе такой абрыдлай нашай трасянкі.

Як яшчэ мала, як яшчэ крыўдна мала гэтых беларусаў на сённяшняй беларускай зямлі!

А раніцой наступнага дня ў перапоўненым і світальна-сварлівым аўтобусе цябе павалачэ па праходзе, прыцісне да дзецюка ў кажуху, які цяпер называюць дублёнкамі. Дзяцюк будзе ўпарта ціснуць цябе сваім азадкам, перадам ашчадна навісаючы над скрыняй віна, што зманліва пабразгвае на сядзенні. Суседка, ужо немаладая і бляклая жанчына, балюча пхне локцем, выдзіраючы з натоўпу сваю сумачку...

Калі ж праз некалькі хвілін маўклівай язды ты запытаеш пра патрэбны прыпынак, жанчына нечакана стомлена ўсміхнецца і адкажа па-беларуску. А дзяцюк, калі прыйдзе яму час выходзіць, ухопіцца за скрыню і таксама скажа:

— Дазвольце, калі ласка.

І паспееш ты заўважыць, што ў

# ГАРАНТ — НЕЗАЛЕЖНАЯ ДЗЯРЖАВА

***26—27 сакавіка ў Доме літаратара праходзіў III з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны***

Мяркуючы па сённяшнім стане беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь, Вярхоўны Савет, які тры гады назад прымаў Закон аб дзяржаўнасці мовы, не збіраўся гэты закон выконваць /як сёння збіраецца выконваць тыя артыкулы Канстытуцыі нашай краіны, у якіх зацверджаны статус Беларусі як краіны нейтральнай.../. Гэта цалкам па-савецку, па-бальшавіцку. Паабяцаць і не выканаць, прыняць закон і тут жа забыць аб яго існаванні, абвясціць аб незалежнасці і чакаць дырэктыў з Масквы.

Праблема набывае яшчэ большы драматызм, калі браць да ўвагі тое, што сілы, якія нібыта папрыціхлі пасля паразы неабальшавіцкага путчу *ў жніўні 1991 года і знікнення* з палітычнай карты свету савецкай імперыі /вынік сустрэчы ў Віскулях/, зноў падымаюць галаву, імкнуцца адрадзіць Савецкі Саюз, хай нават пад іншай назвай. А якая мова ў гэтым новым Саюзе будзе дзяржаўнай? Зразумела ж, руская... Адсюль патрабаванні ўсяляхіх «славянских соборов» аб наданні мове, якую яны больш-менш ведаюць /на ўзроўні, дастатковым хіба каб лаяць беларускае Адраджэнне/, статуса мовы дзяржаўнай.

Пэўныя праблемы ёсць і ў самім ТБМ, бо ствараласяя таварыства ў свой час не без удзелу ЦК КПБ. Камуністы спадзяваліся супрацьпаставіць ТБМ Беларускаму народнаму фронту, «пераарыентаваць» інтэлігенцыю з палітычнай дзейнасці на выключна культурна-асветніцкую. Ды не атрымалася...

З'езд разгледзеў шэраг пытанняў. І сярод іх — дзейнасць Таварыства па ажыццяўленні Закона аб мовах у РБ. Прыняты рэкамендацыі па ўдасканаленні правапісу. З'езд прыняў зварот да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў РБ, сэнс якога такі: «Двухмоўю і ваеннаму саюзу з Расіяй — не!»

*Сапраўды, толькі незалежная* Беларуская дзяржава можа быць гарантам адраджэння мовы беларускага народа, захавання і развіцця ягонай самабытнай культуры. А прапанаваны т.Кебічам саюз непазбежна прывядзе да пераўтварэння Беларусі ў расійскую губерню. А якая мова ў Расіі дзяржаўная?

Старшынёю ТБМ імя Ф.Скарыны зноў быў абраны Ніл Гілевіч. Прычым абраны аднадушна.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

# ЗРУХІ ЁСЦЬ, АЛЕ...

**На чарговым пасяджэнні калегіі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь разгледжаны вынікі працы прадпрыемстваў і арганізацый галіны ў 1992 годзе.**

Адзначалася, што ажыццёўлены канкрэтныя захады па падтрымцы нацыянальнага кнігавыдання і перыядычнага друку, удасканальванню рэспубліканскага радыётэлевяшчання, кніжнага гандлю, сістэмы «Белдруку». У цэлым па рэспубліцы выкарыстанне паліграфічных магутнасцей забяспечана на ўзроўні 1991 года. *Пры гэтым павялічыўся выпуск* кніг і брашур на беларускай мове, а таксама падручнікаў. Усяго выпушчана прадукцыі і аказана паслуг, больш як на 3 мільярды рублёў, атрымана 611 мільёнаў рублёў прыбытку.

Аднак па многіх накірунках дзейнасці, і гэта асабліва падкрэслівалі ўдзельнікі пасяджэння, прыкметных зрухаў не адбылося, больш таго — не заўсёды ўдавалася прадухіліць некаторыя негатыўныя тэндэнцыі. Так, зменшыліся колькасць назваў, тыраж і аб'ёмы выданняў, якія выпускаліся дзяржаўнымі выдавецтвамі.

Са стварэннем Белтэлерадыёкампаніі зроблены крокі, накіраваныя на актывізацыю творчага працэсу. Між тым карэнных зрухаў, як адзначыла калегія, пакуль не адбылося. Творчы бок па-ранейшаму застаецца слабым месцам многіх тэлэ- і радыёпраграм.

Станаўленне суверэнітэту нашай рэспублікі, яе самастойны выхад на міжнародную арэну абумовіў пэўную пераарыентацыю дзейнасці Беларускага інфармацыйнага агенцтва. Пасляховае выкананне новых задач *магчыма пры ўмове эфектыўнай* дзейнасці кожнага структурнага падраздзялення калектыву, чаго, на думку ўдзельнікаў пасяджэння, забяспечыць яшчэ не ўдалося.

Вострая крытыка была выказана ў адрас кіраўніцтва фірмы «Белдрук», якая ў мінулым годзе не здолела належным чынам вырашыць праблему матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння галіны.

**Інфармацыйна-аналітычны аддзел Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

---

скрыні не «чарніла», а рэдкае цяпер белае сухое віно. І ўбачыш ты, што вясна адпусціла сёння гожы сонечны дзянёк, што нешта прыветнае ёсць у твары кожнага сустрэчнага менчука.

А ўсё-такі і кропля камень точыць!

Ну а калі праз нейкую гадзіну ў іншай ужо зале, таксама перапоўненай, таксама гаманлівай з самага пачатку III з'езда Таварыства беларускай мовы пачнецца амаль што сварка, тузаніна — збянтэжанасць ахопіць. Браточкі! Што мы робім? Няўжо нас так шмат, што можна ў гэты небяспечны для нашага адраджэння, нашай мовы час дазволіць канфрантацыю, раскол? Так, у рабоце кіраўніцтва ТБМ шмат недахопаў, так, уся гэта работа магла і павінна была мець іншы ўзровень. Але ж за наскокамі і спробамі «заваліць» бачылася найперш не жаданне ўдасканаліць работу, а жаданне прывесці да кіраўніцтва новых людзей, новую палітычную арыентацыю. І згаданы з'езд -- толькі адзін прыклад з многіх.

Мы ўсё менш разумеем адзін аднаго: сацыял-дэмакраты — бэнээфаўцаў, нацыянал-дэмакраты — сацыял-дэмакратаў, беспартыйныя беларусы — партыйных. Саюз пісьменнікаў раскалваецца па прыкладзе свайго маскоўскага «старэйшага брата». Мы ж, як тая вішня, выйшлі з аднаго кораня, мы толькі-толькі набылі больш- менш трывалую крону. Цяпер бы аб цвеце ды аб плёне далейшым дбаць. А ў нас адна галіна ўжо не прызнае за родную другую. Ёсць вялікая небяспека, што неўзабаве і сам ствол расколем. Як радасна, відаць, паціраюць рукі агенты «непарушнага СССР», якія не маглі не прысутнічаць на з'ездзе ТБМ. Яны маюць што далажыць свайму кіраўніцтву: у асяроддзі адраджэнцаў наспяваюць працэсы раз'яднання, яны ўжо пачынаюць дзяліць яшчэ не здабытае...

Мяне найбольш страшаць сёння не спробы ворагаў беларушчыны навязаць нам дзяржаўнае двухмоўе. Адаб'ёмся. Найбольш мяне страшыць тое, што з набліжэннем таго часу, калі перадвыбарчая бараццьба стане рэальнасцю жыцця, знешне пакуль што цэласны фронт беларусаў-патрыётаў разарве, як лёд на рацэ на крыгі. І паплывём мы, сутыкаючыся, ламаючы адзін аб аднаго бакі, губляючы сілы.

Божа! Дай нам адзінства.

**АЛЕСЬ КАСЦЕНЬ**

*г.Паставы*

---

**ЧАС І МЫ**

# ХОЦЬ ГЭТА ВЫ ЎСВЕДАМЛЯЕЦЕ?..

*«Логіка гістарычнага працэсу прыходзіць раней асабістай логікі чалавечых істот, якія прымаюць удзел у гістарычным працэсе».*

*Эрых ФРОМ.*

Напрыканцы XX стагоддзя здарылася тое, што павінна было раней ці пазней адбыцца па логіцы развіцця гістарычнага працэсу — развалілася апошняя ў Еўрапейска-Азіяцкім рэгіёне імперыя. Не стала былога Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

З'ява ў цэлым для гісторыі — станоўчая, бо ў свеце ні адна з былых імперый не здолела прынесці народам ні свабоды, ні роўнасці, ні справядлівасці, ні дабрабыту. Факт агульнавядомы.

Але калі для гісторыі крах імперыі з'ява станоўчая, то для народаў, якія апынуліся ў коле гэтага сацыяльнага водавароту, ён абарочваецца здабыткамі і *стратамі. Здабыткі — незалеж*насць, свабода, адраджэнне і гэтак далей. Страты — часовае зніжэнне дабрабыту, парушэнне сталых прынцыпаў і норм жыцця, узмацненне экстрэмізму і нават узнікненне гарачых кропак і ўзброенага процістаяння на абшарах былой імперыі.

Перад вызваленымі народамі паўстаюць нялёгкія пытанні пабудовы сваіх незалежных дзяржаў. Працэс складаны! Ён патрабуе вялікіх высілкаў і стратэгічна абдуманай нацыянальнай палітыкі, інтэгратыўнага вырашэння цэлага шэрагу праблем. Галоўныя з іх — пабудова грамадскіх і дзяржаўных інстытутаў, адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці праз *культуру і мову (у тых краінах,* дзе яны былі вынішчаны імперскай палітыкай прыгнечання), пабудова нацыянальнай эканомікі, якая б паступова змагла ўпісацца ў сусветную сістэму эканамічных адносін.

Першачарговая задача фармулюецца дастаткова проста — патрэбна зрабіць так, каб духоўным і матэрыяльным багаццем краіны мусілі распараджацца грамадзяне гэтай дзяржавы на карысць сабе і свайму народу.

Інтэгратыўнае (матэрыяльнае і духоўнае) адраджэнне нацыі — гэта імператыў станаўлення рэальнага суверэнітэту, стратэгічны шлях да незалежнасці і дабрабыту краіны. Нельга пабудаваць нацыянальнае жыццё без нацыянальнай эканомікі, ці, наадварот, нацыянальную эканоміку без нацыі, яе культурнага адраджэння.

Матэрыяльнае і духоўнае адраджэнне — гэта кампенсатарныя і ўзаемазвязаныя працэсы. Калі адзін з гэтых аспектаў застанецца ўбаку, мы панясём вялікія, непрадказальныя страты на шляху незалежнасці.

Нельга не ўлічваць тое, што набыло сёння назву «каўбаснай псіхалогіі». Апошняя — гэта не бязглуздзіца, а наяўная рэчаіснасць былога «інтэрнацыянальна-саўковага» жыцця, якое зрабіла многіх з нас манкуртамі і нацыянальнымі нігілістамі.

Відавочна, што гэтую дэнацыяналізаваную большасць наогул мала хвалююць нацыянальныя ідэі — беларусізацыі ці русіфікацыі. Калі «каўбасы» будзе ўсё меней і меней, яны выступяць на баку тых, хто супраць нацыянальнага руху. Зыходзячы з гэтай рэчаіснасці, лічу лозунгі «Лепей быць галодным, але свабодным», «Лепей мова, чым каўбаса» — антынацыянальнымі. Яны працуюць не на адраджэнне, а зусім наадварот — робяць «добрую» паслугу нядобразычліўцам беларушчыны. Адраджэнне нацыі ў такіх варунках можа быць знішчана выбухам «каўбаснай» гарматы. Лідэрам нацыянальна-культурнага адраджэння *патрэбна зразумець, што толькі* адзін нацыянальны рух не можа вырашыць усіх праблем рэальнага суверэнітэту нашай дзяржавы. Бо хутка сваім «павадырам» зрусіфікаваны натоўп пракрычыць: «Сначала дайте нам пожрать немного, а уж потом учите честно жить!..»

Іншая справа, што патрэбна рабіць усё магчымае, каб кожны грамадзянін нашай краіны добра ўсвядоміў, што без нацыянальна-культурнага адраджэння эканамічнага цуду не здарыцца. Ніхто, акрамя нас саміх, не ўздыме з руін імперыі нашу эканоміку і наш дабрабыт. Хутчэй выкараскаюцца тыя народы, якія дасканала распрацавалі праграму духоўнага і эканамічнага адраджэння, якія згуртаваліся і акрэслілі свае нацыянальныя мэты і спосабы стваральнай дзейнасці.

А цяпер спытаем сябе: ці ёсць *сёння ў нашых дзяржаўных* кіраўнікоў такая дакладная праграма духоўнага і эканамічнага адраджэння? Не, на мой погляд, няма! Кажу катэгарычна, бо так бачу.

А ці мы, большасць зрусіфікаванага насельніцтва Рэспублікі Беларусь, дастаткова сёння клапоцімся аб сваім духоўным адраджэнні, аб стварэнні дзейснай нацыянальнай эканомікі? Таксама — не!

Стваральная нацыянальная інтэнцыя назіраецца самае большае ў сотню тысяч, абуджаецца прыкладна ў столькі ж. Асноўная ж большасць дэнацыяналізаваных беларусаў па-ранейшаму глядзіць у бок «высокопрестольной», у бок Масквы, дзе сядзіць *старэйшы брат.*

Асабліва «пасняхова» гэты брат «папрацаваў», праўда, не сваімі рукамі (ён жа палітык!), у час бальшавіцкага панавання. Ён разагнаў БНР, неаднаразова перакройваў карту Беларусі, знішчаў сялянства, інтэлігенцыю, руйнаваў нацыянальныя святыні і помнікі, аплёўваў мінулае народа, яго гісторыю... Як вынік атрымаў тое, чаго больш за ўсё дабіваўся — беларуса з негатыўна-нацыянальным, а ў цяжкім клінічным выпадку — з агрэсіўнай, ментальнасцю да ўсяго свайго нацыянальнага. І таму не дзіўна, што больш варожа да нацыянальнага адраджэння часам ставяцца вялікадзяржаўнікі беларускага *паходжання,* чымсьці *расійскія.* Гэтыя абывацелі гатовы з апантанай лютасцю таптаць і плюндрыць культуру і мову свайго народа.

Небяспека нацыянальнай справе бачыцца яшчэ і з таго боку, што прадстаўнікі вялікадзяржаўнага менталітэту сёння арганізацыйна афармляюцца ў выглядзе партый і рухаў, накшталт «Славянскага сабору «Белая Русь» ды іншых.

Вось чаму справа адраджэння будзе нялёгкай і доўгай. Хто ж павінен стаяць на чале гэтай справы? Лідэры ёсць — яны агульнавядомыя. Але, каб зрухі былі відавочнымі, з лідэрамі побач павінны быць усе дэмакратычна настроеныя грамадзяне Беларусі, усе партыі і рухі, якіх аб'ядноўвае наш дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг.

Сёння вельмі важна зразумець, што ў неразрыўнай сувязі з *палітыкай нацыянальнага* вырачавання стаіць задача забеспячэння правоў нацыянальных меншасцей, асабліва тых, хто душой хварэе за наша нацыянальнае станаўленне, за адраджэнне пачуцця гаспадара зямлі сваёй. Вось чаму не толькі беларусы мусяць гаварыць пра свае справы, але і тыя грамадзяне нашай рэспублікі, якія рупліва ставяцца да беларушчыны. Мы разам павінны казаць: «Грамадзяне Беларусі, давайце будзем гаспадарамі на сваёй зямлі». Лёс Бацькаўшчыны вырашаецца сёння. І кожны павінен акрэсліцца: хто я, дзе я, з кім я?

У першую чаргу гэта пытанне тычыцца творчай інтэлігенцыі. Яна розная. Большая частка — пасіўна-абыякавая, меншая — рупліўцы беларушчыны. Ёсць вялікадзяржаўнікі і «інтэрнацыяналісты». Ставяцца яны па-рознаму да адраджэння.

*Вось прыклад з размовы,* якая адбылася ў мяне з інтэлігентам расійскага паходжання. Ён ужо не першы дзесятак гадоў жыве і працуе тут, у Берасці. Мы з ім калегі — выкладчыкі педінстытута. Яшчэ ўчора былі аднадумцамі ў агульнай справе супраць бальшавіцка-таталітарнай сістэмы. Сёння, і гэта вельмі прыкра, ён ужо бліжэй да тых, хто кліча сябе «Честь, ум и совесть нашей эпохи».

Дык што гэта за размова, якая змусіла мяне гэтак кваліфікаваць пазіцыю майго былога аднадумцы?

Калега абвінавачваў мяне, зрусіфікаванага беларуса, у нацыяналізме. І толькі на той падставе, што адстойваю *дзяржаўнасць беларускай мовы* ды ў меру сваіх магчымасцей вывучаю яе. На маю спробу неяк адстаяць сваю пазіцыю ён выпаліў: «Какой ты белорус! Что вы шебуршитесь! Вы без России никто и ничто!!!» Зразумела, я ведаю, што пыл палемікі зацямняе розум. Можа, не заўсёды так гаворыць мой калега. Але ж слова не верабей, вылецьць — не злавіш.

Калі не ён, дык падобныя да яго, разам з імперскімі функцыянерамі і вечна ўчарашнімі збіраюць сёння подпісы і дасылаюць у Вярхоўны Савет з патрабаваннем двухмоўя (і гэта ў суверэннай дзяржаве!). Яны, нядобразычліўцы беларушчыны, крычаць аб здрадзе *«простаму народу» і «великой стране».* Скліканюць «интерфронтовцев» і цягнуць назад у лагер за калючку. У іх прамовах так і скразніць «вялікі рускі дух».

Чаго хочуць дабіцца «інтэрнацыяналісты», якія задумалі карэкціраваць Закон аб

*(Працяг на стар. 4)*

# СВЕДЧАННІ ВІДАВОЧЦАЎ

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

У газеце «ЛіМ» (N 4 ад 22/I.1993 г.) змешчаны чытацкі ліст В.Міцкевіча з г.п. Крывічы «Развага з нагоды».

Аўтар ліста апісвае сустрэчу са сваім дзядзькам Якубам Коласам у Смольні, калі народны песняр наведаў родныя мясціны незадоўга да сваёй смерці.

Ліст пакідае ўражанне сваімі недакладнасцямі, памылкамі, хлуснёй і невуцтвам, дэмагогіяй і злосцю.

Прыязджалі мы туды 30 красавіка 1956 года, а не ў сярэдзіне мая, як піша аўтар. Усім вядомы вялікія змены ў стане прыроды за такі перыяд. У час нашага прыезду на дрэвах не было яшчэ ніводнага лісточка (што відно і на фатаграфіях). Кустоў ядлоўцу мы і не збіраліся выкопваць, а ездзілі набраць гліну для лячэння хворых рук. На сядзібе Коласа ў Мінску яны былі пасаджаны ў 1948—50 гг., прывозілі іх з навакольных мінскіх лясоў.

Ніякай гарэлкі і віна мы з сабою не бралі, паколькі па стану здароўя Коласа такое было катэгарычна забаронена дактарамі. Да таго ж «Сталічная» гарэлка з'явілася ў продажу ў 60 гадах — недзе гадоў праз 10 пасля нашага прыезду (газета «Рэспубліка», 16/I.93 г.).

Вось такая памяць у В.Міцкевіча. Але — гэта дробязі. Далей — болей.

У лісце В.Міцкевіч папракае Коласа, у якога было (як піша В.М.) «даволі напеваў былому праваддзіру». Ці можна згадзіцца з такімі папрокамі?

Сталін старанна маскіраваў свае злачынствы. З другога боку, ён прыпісваў сабе дасягненні, якія сапраўды былі ў нас. Ён быў адметным дэмагогам. Яго ўсхвалялі такія сусветна вядомыя пісьменнікі, як Анры Барбюс, Луі Арагон, Жан Рышар Блок, Рамэн Ралан, Іаганес Бехер, Ліон Фейхтвангер, Бернард Шоу і многія другія замежныя пісьменнікі і дзеячы культуры. Ужо гэтыя не баяліся ні рабства, ні ГУЛАГаў.

Яны не ведалі і не маглі ведаць усёй праўды, таксама як і не ведалі гэтага іх савецкія калегі.

У пачатку 1956 года адбыўся XX з'езд КПСС, дэлегатам якога быў і Якуб Колас. Упершыню на закрытым пасяджэнні з'езда Хрушчоў у дакладзе паведаміў дэлегатам звесткі пра злачынную дзейнасць Сталіна, але сказаў далёка не пра ўсё і ў асцярожнай, палавінчатай форме. Даклад чытаўся на закрытых сходах па ўстановах краіны.

Тым не менш, насуперак сцвярджэнням В.Міцкевіча, Колас разумеў усё. Вось што ён пісаў Петрусю Броўку 8 ліпеня 1956 года... «Проста ляжаў, сядзеў, думаў, пераадольваючы «культ личности». Вельмі шкада, што не пераадолелі яго раней, калі быў жывы сам «культар». Тлумачэнне, што тады нельга было пераадольваць, не пераканаўчае: ці мог стаяць высока ў вачах народа чалавек, які ўзяў на знішчэнне і здзек амаль па чалавеку з кожнай сям'і савецкіх людзей? Аўтарытэт яго быў штучны, узгадаваны на грунце страху за сваё жыццё, за свой дабрабыт. І мы так напалоханы, што не адважваемся адкрыта гаварыць пра гэта і цяпер. І, напэўна, ты, перачытваючы гэтыя радкі, ускінеш плечы, нахмурышся і падумаеш: «І навошта ён піша так?»...

Далей В.Міцкевіч «прыгадвае» выказванні Коласа пра «камуністычную партыю», прыпісваючы яму менавіта такую транскрыпцыю, прычым піша: «...Гэтыя развазанні я запомніў дасканала...» Гэта — відавочная хлусня. Як вядома, Колас усё сваё жыццё змагаўся за чысціню роднае мовы. Ніяк нельга ўводзіць у яго вусны жаргон люмпенаў, або нават некаторых малапісьменных яго пляменнікаў.

Пасля сыплюцца новыя абвінавачванні ў адрас Коласа (а заадно і Купалы). Ён і наіўны, і не жадае бачыць, што робіцца наўкол і, нават, адышоў ад Народа. Вось так! Мы ведаем зусім другое. Колас сістэматычна сустракаўся з людзьмі самых розных колаў грамадства. Да яго заўсёды прыходзілі і ў дом, і ў віцэ-прэзідэнцкі кабінет наведвальнікі з самымі рознымі пытаннямі. У фондах музея захоўваюцца тысячы пісем ад людзей са скаргамі, заявамі, просьбамі. Колас уважліва чытаў, звяртаўся ў розныя інстанцыі, своечасова пісаў адказы. Многім дапамагаў матэрыяльна, заступаўся за рэпрэсіраваных людзей, памагаў іх сем'ям. Часта ставіў перад вышэйшымі інстанцыямі рэспублікі многія важныя пытанні — ад збору каменняў з палёў і своечасовай уборкі ўраджаю да добраўпарадкавання магілак. А незадоўга да смерці напісаў вядомае цяпер пісьмо ў ЦК па пытаннях абароны беларускай мовы. Па тых часах гэта быў мужны ўчынак. Ніхто, апрача Коласа, пра такое не адважыўся б нават і падумаць.

Вось так ён «адышоў ад таго, што носіць назву Народ». Праўда, пасля В.Міцкевіч «тлумачыць» грахі Коласа і Купалы і нават «даруе» (якое шчасце!) ім гэтыя «грахі».

Далей у якасці прыкладаў прыводзіцца дзейнасць дзекабрыстаў, нарадавольцаў, Салжаніцына, Сахарава, Багушэвіча, Гаруна. Яскрава відаць, што паралелі і аналогіі аўтара ліста «Развагі з нагоды» неабгрунтаваныя і сведчаць пра няведанне ім гістарычных умоў. Яны, мякка кажучы, недарэчныя. (Здзіўляемся — чаму аўтар не прывёў яшчэ імёны Кастуся Каліноўскага, Тадэвуша Касцюшкі, Джузэпе Гарыбальдзі, Панча Вілы, Рабесп'ера з Маратам, Сандзіна, Алівера Кромвеля, Пугачова і Разіна і многіх іншых? З такім жа поспехам, з такой жа абгрунтаванасцю, з такой жа логікай...).

Толькі пасля XXII з'езда КПСС, у 1962 (г.зн. праз 6 гадоў), пачалося выкрыццё сталінскіх злачынстваў (дарэчы, далёка не поўнае), стваралася атмасфера, калі можна было адкрыта гаварыць пра культ Сталіна, праўда, яшчэ толькі напаўголасу. Пранейшаму партыя заставалася кіруючай, мудрай і роднай, а ЦК, хай сабе хрушчоўскі, брэжнеўскі, андропаўскі, чарненкаўскі ці гарбачоўскі — нязменна ленінскім. Тым не менш толькі тады стварыліся ўмовы, калі змаглі з'явіцца Салжаніцын, Сахараў, Віктар Някрасаў, іншыя змагары з таталітарызмам.

Вось такіх абставін і не ведае ці не разумее В.Міцкевіч.

У дзень нашага прыезду мы спыніліся ва Уладзіміра Іванавіча Міцкевіча, пляменніка паэта, сына яго роднай сястры, Міхаліны. Нас вельмі гасцінна прынялі, мы там паабедалі, праўда, без «Сталічнай» ці якой-небудзь другой з градусамі. Наша аўтамашына там загрузла, пакуль яе выцягвалі канём, прайшоў час. Мы спяшаліся ў Мінск, але вырашылі па дарозе дамоў наведаць Смольню, паглядзець гэту сядзібу, ліпы, якія пасадзіў Якуб Колас 45 гадоў таму назад, у 1911 годзе, пасля выхаду з турмы. Асаблівага жадання бачыць свайго брата Юзіка ў Коласа не было, пра што сведчаць такія вытрымкі з пісьмаў Коласа да яго: «Няпраўду гаворыш і ты, калі сцвярджаеш, што я памагаю табе, як памагаюць жабраку: па дзесяць тысяч жабракам не даюць. Апрач Коласавага брата, у Коласа ёсць і сёстры, сваякі і сваячкі. Ёсць многа і чужых людзей, сірот, што таксама патрабуюць дапамогі...»

«...У тваёй сям'і, відаць, склаліся недружалюбныя да мяне адносіны і не дужа добрым словам памінаюць мяне...»

Ці не гэта адно з тлумачэнняў матываў напісання ліста «Развага з нагоды» і нядобразычлівых выказванняў аўтара?

Узнікае пытанне: няўжо паважанай газеце абавязкова трэба публікаваць такія развагі з нагоды... непісьменнасці і злаславасці аўтара? Але ж і тым, хто рыхтаваў да друку памянёны ліст, не варта прымаць на веру пісанне якіх бы там ні было пляменнікаў.

**З павагай**
**Максім ЛУЖАНІН,**
**Даніла МІЦКЕВІЧ**

### АД РЭДАКЦЫІ

**Зусім не дзеля апраўдання, а выключна для аб'ектыўнасці павінны сказаць, што ліст В.Міцкевіча падаўся нам цікавым не столькі ўспамінамі пра Якуба Коласа, колькі роздумам чалавека, які, як і ўсе яго аднагодкі, зведаў на сабе «усяленскі духоўны здзек» таталітарнага ладу. Той час мы яшчэ доўга будзем згадваць і асэнсоўваць, і не толькі ў сувязі з літаратурай. Думаем, што сапраўды народны паэт Беларусі Якуб Колас не мае патрэбы ні ў чым заступніцтве — нават і з боку блізкіх яму людзей. І ўжо зусім не мае значэння, як звалася тады крамная гарэлка і ці выкопвалі для дзядзькі ядловец...**

# ХОЦЬ ГЭТА ВЫ ЎСВЕДАМЛЯЕЦЕ?..

*(Пачатак на стар. 3)*

мовах? Можа, яны не разумеюць, што падыгрываюць тым палітыкам, якія зацікаўлены ў расколе грамадства, якія ўжо гэта рабілі ў Прыбалтыцы і Малдове? Здабытак такой дзейнасці лёгка прагназуецца. Як толькі статус дзяржаўнай мовы будзе нададзены рускай, адразу могуць з'явіцца ўлёткі: «Рускія акупанты, ідзіце дамоў!» Каму патрэбен такі паварот? Каму патрэбна дэстабілізаванае грамадства? Зразумела, гэта патрэбна вечна ўчарашнім, тым, каму па-ранейшаму мроіцца «великая и неделимая». Пад прыкрыццём роўнасці дзвюх моў можна прадоўжваць русіфікацыю насельніцтва, каб зноў зрабіць яго зямлю «Северо-Западной окраиной» вялікай імперыі.

Мы паважаем і шануем кожнага, хто паважае нас, беларусаў. Не грэбуе не толькі нашай бульбай і салам, але і нашымі духоўнымі каштоўнасцямі. Мы ведаем багатую і прыгожую рускую мову. Запрашаем вас, інтэлігентаў расійскага паходжання, якія жывуць у нашай краіне, вывучаць нашу. Калі ж хто лічыць гэта ніжэйшым ягоных пачуццяў і пагарджае мовай людзей, сярод якіх жыве, то, згодна вызначэнню, гэта і ёсць нацыяналізм расійска-імперскага паходжання.

А цяпер колькі слоў аб вашым інтэрнацыяналізме. Гэта вельмі знаёмы інтэрнацыяналізм — бальшавіцкага, а пры маёй ужо памяці суслаўска-брэжнеўскага паходжання. Сутнасць яго ў варожасці ўсяму нацыянальнаму.

Практыка «интернационального воспитания» ўяўляла сабой палітыку планамернага і сістэмнага выкаранення прывязанасці беларуса да сваёй зямлі, мовы, культуры. Усё гэта падлягала асмяянню і панашэнку ў імя «великой цели». Аплёўвалася мінулае народа, яго гісторыя. Знішчаліся святыні і помнікі. Падобны бальшавіцкі інтэрнацыяналізм варты нацыяналізму.

Ці не пра гэты інтэрнацыяналізм вы, інтэлігент расійскага паходжання, распавядаеце нам сёння? Бо гэта толькі на першы погляд варыянт дзвюх дзяржаўных моў здаецца «дэмакратычным». Але ж любая праблема, і вы гэта як грамадазнаўца добра ведаеце, павінна ставіцца гістарычна. А гісторыя нам крыху вядома. Народу два стагоддзі выбівалі мазгі, а потым дамагаюцца ў яго разумнага адказу. Я гэта к тэме агульнанароднага рэферэндуму аб мовах. У гэтых гістарычных абставінах, калі беларускую мову патрэбна ратаваць, рэферэндум па гэтым пытанні — яшчэ адзін здзек з народа.

Ці ж гэта чэсна і адказна? Мова народа належыць не таму ці іншаму пакаленню, тым болей не палітыкам. Мова — гэта вечнае. Яна даецца народу ад бога і толькі адзін раз. Страціў мову — няма народа. Вы гэтага хочаце? Хочаце звесці ў нябыт цэлую культуру, цэлы этнас? Дык гэта — генацыд. Вы знішчаеце не мову, вы прагнеце знішчыць цэлы народ. Гэта вы хоць усведамляеце?!

У мяне паўстае да вас пытанне: «Навошта вы так натхнёна рушылі камуністычна-таталітарную сістэму, якая моцна бараніла вашы вялікадзяржаўныя погляды і пачуцці?» Вы ўчора кідаліся на партнаменклатуршчыкаў, а сёння накінуліся на рупліўцаў беларушчыны і сталі ў шэрагі барацьбітоў за дзяржаўнае двухмоўе, выконваючы сацыяльны заказ навяўленай партыі камуністаў Беларусі. Гэта яны, барацьбіты за «единую и неделимую», у сваёй праграме вызначылі: «Партия выступает за признание на территории Республики Беларусь в качестве государственных белорусского и русского языков».

А чаго варты «талерантныя» выказванні знаёмай выкладчыцы замежных моў аб тым, што нельга нават пачынаць чытаць лекцыі студэнтам на беларускай мове, пакуль не вывучыў яе дасканала. А гэта, на яе думку, станецца не раней, як у другім ці трэцім пакаленні.

Ці разумее яна, што такі падыход ставіць крыж на адраджэнні? Няўжо так цяжка зразумець — хочаш навучыцца плаваць, то лезь у ваду, другога выйсця няма.

Вось некалькі прыкладаў, якія лёгка можна падоўжыць. Але ж справа не ў іх. Справа ў вартасці і адказнасці за лёс сваёй зямлі, за лёс Бацькаўшчыны. А адказнасці нам, інтэлігентам, яшчэ пакуль што вельмі і вельмі не хапае. Ды і не толькі інтэлігентам.

Паглядзіце, што робяць некаторыя народныя абраннікі. Складаецца такое ўражанне, што ў гарачых спрэчках яны забываюць аб тым, што з'яўляюцца прадстаўнікамі беларускай дзяржавы і нацыі. Частка дэпутатаў вядзе перманентную вайну, хто пазіцыйную, а найбольш актыўныя наступальную (прычым гэта робіцца на ўсіх узроўнях: Вярхоўны Савет, абласны, гарадскі, раённы), супраць законаў імі ж прынятых, у тым ліку і Закона аб мовах. Скажыце, у якой дзяржаве свету сам заканатворца не выконвае законаў? Як можа існаваць такая дзяржава?

Я ведаю дэпутатаў, якія прайшлі ў Саветы пры падтрымцы дэмакратычнай плыні, на хвалі барацьбы з бальшавізмам, а сёння яны аб'ядноўваюцца з навяўленымі камуністамі за двухмоўе і супраць беларушчыны.

А радыё? А тэлебачанне? А прэса? Пытанні, пытанні...

Возьмем, напрыклад, наш берасцейскі «Вечерний Брест», орган гарадскога Савета (падкрэслю — Савета) і калектыву рэдакцыі. Такое ўражанне, што газету робяць людзі, для якіх незалежная Беларусь — гэта чырвоная хустка для бугая. У свядомасці гэтых людзей Беларусь так і засталася «Северо-Западным краем» вялікай імперыі. Яны самі, можа, і не забівалі асінавы кол у Віскулях (гэта рабілі «новыя» камуністы); але ж «наитончайшей критики» наконт прынятых там пагадненняў льюць нямала.

Настальгія, енк і скуголенне па былым «Союзе», былой «мощи страны великой» так і адчуваецца ці не ў кожным нумары газеты. Старая заезджаная пласцінка, як кажуць, па-старому і круціцца. Марна шукаць тут артыкулаў ці добрых звестак у падтрымку беларушчыны і яе рупліўцаў. Не знойдзеце звестак і аб партыях ці аб'яднаннях, якія згуртоўваюць наш дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг. У суверэннай, незалежнай рэспубліцы раскручваюць жорны антынацыянальнай кампаніі. Апалагеты «інтэрнацыяналізму» абяцаюць нам узмацніць «святую» барацьбу з «нацыяналізмам».Яны ніяк не могуць уцяміць тое, што ведаюць усе цывілізаваныя людзі свету — культура кожнай нацыі прыносіць карысць агульначалавечай культуры. Не могуць уцяміць, што перспектыва будучага свету не ў бальшавіцкім «інтэрнацыяналізме», а ў аб'яднанні нацыянальных і суверэнных дзяржаў на падставе дэмакратыі і роўнасці. Працэс, які мусіць мець два аспекты, на што звяртае ўвагу ў адным з лімаўскіх нумароў амерыканскі даследчык Дж.Фолэй. Першы — утварэнне сусветнай супольнасці і другі — раз'яднанне, звязанае з развіццём нацыянальнага жыцця, нацыянальнай культуры ўсіх народаў. Росквіт культуры ўсіх народаў меў бы вынікам узбагачэнне агульначалавечай сусветнай культуры, якая з культуры вялікіх дзяржаў і вялікіх народаў зрабілася б агульначалавечай.

**А.ЛЯЎКОВІЧ,**
**кандыдат філасофскіх навук, старшыня берасцейскай філіі, сябра Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады**

# АСАНА МІНУЛАМУ І ЯГО ПРАВАДЫРАМ?

## *ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА АДНАГО ІНТЭРВ'Ю*

***Сумнае ўражанне засталося ад інтэрв'ю, якое даў Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч журналістам Уладзіміру Вялічку і Васілю Драгаўцу з нагоды 75-й гадавіны з дня нараджэння былога вышэйшага кіраўніка БССР П.Машэрава. Гэтае інтэрв'ю пад двухсэнсоўнай назвай «Наш Пётр Міронавіч» растыражавана шэрагам рэспубліканскіх выданняў, а, магчыма, і некаторымі газетамі меншага рангу.***

Увесь змест, літара і дух інтэрв'ю скіраваны на бязмежнае ўсхваленне асобы Машэрава, яго саратнікаў па камуністычнай партыі і той эпохі, у якой яны дзейнічалі, бо «народ, дзяржава, што маюць такіх лідэраў, узнімаюцца да вяршынь дабрабыту» (!?). І прэм'ер, і журналісты не шкадуюць слоў і фарбаў, каб паказаць, *«які гэта быў чалавек і як выпрабоўваў яго лёс»*.

Вось некаторыя цытаты з інтэрв'ю: «Працаваў Пётр Міронавіч да сёмага поту»; «у гумовых ботах укладваў бетон у час суботніка»; «прайшоў вайну ад званка да званка»; «найбольш поўна раскрыў духоўную веліч нацыі»; «узняў рэспубліку з руін»; «быў вялікім аналітыкам, якія неардынарныя думкі былі ў яго галаве»; «бачыў эканоміку на ўзроўні прынцыповых праблем»; «яго *прамовы заўсёды прымаліся* людзьмі, яго прамоўніцкім майстэрствам захапляліся і ўсенародна любілі»; «гэта быў адзін з нямногіх людзей, якога хваляваў стан спраў у оперным тэатры, узыходжанне «Песняроў», здароўе класіка жывапісу Міхаіла Савіцкага»; «ён нястомна клапаціўся пра бытавыя ўмовы інтэлігенцыі»... — і яшчэ добры тузін гэтакіх жа гучных і не вельмі, на жаль, узважаных слоў і выказванняў пра нашага былога беларускага генсека.

Апошнім часам у сувязі з крызіснымі з'явамі ў эканоміцы і пагаршэннем сацыяльнага і матэрыяльнага становішча народа, што само па сабе заканамерна пры ломцы старой сістэмы і пераходзе яе з адной якасці ў другую, ажывіліся артадаксальныя камуністычныя сілы з былой партдзяржнаменклатуры і прымыкаючая да іх кансерватыўная частка грамадства з рознага сацыяльнага асяроддзя. Робіцца спроба рэанімаваць старую сістэму і нават праспяваць новую оду «гераічнаму мінуламу» савецкага народа, «развітому сацыялізму» і іх усесаюзным і нацыянальным правадырам. Быў скарыстаны для гэтага і юбілей П.Машэрава.

Мяне ніколькі не здзіўляе настальгія па мінулым тых, хто ў выніку глыбокіх перамен у былым савецкім грамадстве страціў свае высокія пасты, пазбавіўся неабмежаванай улады, апынуўся на абочыне гістарычнага працэсу, апусціўся «на дно», папоўніў шматмільённае асяроддзе простых смяротных. Але калі да такога ходу далучаецца кіраўнік урада, мне робіцца не па сабе, мяне пачынаюць усё больш агортваць думкі, хто ёсць хто і наколькі шчырыя яны ў *сваіх словах і ўчынках*.

Хочам таго ці не хочам, але, услаўляючы сёння Машэрава — шматгадовага кіраўніка Савецкай Беларусі, мы, нягледзячы на лёгкія (між іншым) агаворкі, услаўляем яго эпоху, спяваем асану савецка-сацыялістычнай сістэме. А сістэма была бюракратычная, нягібкая, спарахнелая, яна не вытрымала выпрабаванне практыкай і часам, трашчыць па ўсіх швах, развальваецца. Сістэма не мела жыццёвай энергіі і сілы, яна *была чужая народу і трымалася* выключна на волі і энергіі ўсемагутных органаў партыі — цэнтральных камітэтаў, абкомаў, гаркомаў, райкомаў. КПСС памерла, і сістэма дажывае свае дні. Сацыялізм ужо расцягваюць, прыватызацыя пайшла.

Пётр Міронавіч Машэраў быў не проста тыповы прадстаўнік гэтай сістэмы. Ён быў яе эталонам, завершаным увасабленнем, альфай і амегай. Яна яго нарадзіла, выхавала, і ён служыў ёй верай і праўдай, словам і справай. Па волі лёсу з маладых гадоў ён трапіў у кіруючую эліту — на працягу доўгага часу быў кіраўніком камсамола рэспублікі, затым на партыйнай *рабоце ў верхніх эшалонах* — у абкомах, у ЦК. Апошнія пятнаццаць гадоў свайго жыцця ўзначальваў ЦК КПБ і быў кандыдатам у члены Палітбюро ЦК КПСС. У Беларусі ў яго была неабмежаваная ўлада, і на гэтай уладзе трымаўся яго аўтарытэт. Усё яго жыццё і ўчынкі сведчаць аб бязмежнай любві і адданасці партыі, камуністычным ідэалам, савецкай уладзе.

Ды што гаварыць пра Машэрава! Усе мы былі выхаваны ці выхоўваліся ў такім абмежаваным, таталітарным, самаахвярным духу. Яе вялікасць Сістэма не любіла «вольнасці», усіх стрыгла пад адзін «грабеньчык», сурова карала кожнага, хто вагаўся і адхіляўся ад «генеральнай лініі партыі».

І мяне вельмі здзівілі словы Вячаслава Францавіча пра тое, што быццам бы Машэраў задоўга да Гарбачова насіўся з ідэяй перабудовы нашага грамадства. Вось як гучыць гэтая версія ў вуснах нашага прэм'ера: «П.М.Машэраў ужо ў тыя гады выношваў ідэі абнаўлення. Мне расказвалі *відавочцы, што незадоўга да трагічнай* гібелі Пётр Міронавіч грунтоўна абмяркоўваў праблемы перабудовы грамадства. Уся паўната ўлады, на яго думку, павінна перайсці да Саветаў. Галоўнае — як гэта зрабіць, каб не разбурыць існуючую сістэму кіравання краінай. Блізкія Пятру Міронавічу людзі сцвярджаюць, што ідэі перамен у апошнія гады жыцця займалі яго цалкам. Яны літаральна мучалі яго, не давалі спакою».

Зусім *не выключаю, што Машэраву* штосьці ў нашым грамадстве не падабалася і што ён яго хацеў удасканаліць. Але я зусім не разумею машэраўскую логіку: як можна сканцэнтраваць усю ўладу ў Саветах і ў той жа час не разбурыць існуючую сістэму кіравання? Якое месца ў палітычнай сістэме ён адводзіў партыі — ядру гэтай сістэмы, авангарду савецкага грамадства (канстытуцыйнае палажэнне)?

Перадаць усю паўнату ўлады ў рукі Саветаў *можна было толькі пазбавіўшы ўлады* КПСС. Малаверагодна, каб да такога «грунтоўнага абмеркавання» дайшоў Машэраў. У нас ужо быў цэлы легіён такіх «рэфарматараў», якія «мянялі» так, што нічога не мянялася. Хрушчоў, Брэжнеў, Касыгін, Андропаў спрабавалі замяніць нейкую гайку, нават цэлы агрэгат у дзяржаўнай машыне, нешта падфарбоўвалі, «пудрылі», але машына не мянялася. Гэта была гульня ў рэформы. Такія «рэформы» не прыносілі аніякай карысці, бо нічога істотна не мянялі, не закраналі саму аснову — вытворчыя адносіны, эканамічны базіс.

Усе нашы кіраўнікі да Гарбачова як зрэнку вока ахоўвалі і абаранялі ўсімі сіламі дзяржаўную форму ўласнасці на сродкі вытворчасці, партыйную манаполію на ўладу і ні на секунду не дапускалі думкі аб перадачы фабрык і заводаў рабочым, зямлі — сялянам, улады — народу. Савецкая ўлада адабрала ў людзей усё — мінеральную сыравіну, зямлю, лясы, прамысловыя прадпрыемствы. Народ не адчуваў сябе гаспадаром у сваёй краіне. Партыйная эліта сканцэнтравала ў сваіх кабінетах абсалютную ўладу і ні з кім не *хацела ёю дзяліцца*; на яе нельга было знайсці ўправы ні з боку радавых камуністаў, ні з боку народа.

Нідзе, ні ў адным дакладзе, ні ў адной прамове, гутарцы Машэраў не выказваецца за ўціхамірванне партыйнага монстра; наадварот, паслядоўна і мэтанакіравана дамагаецца павышэння авангарднай ролі КПСС, выступае за няспыннае ўдасканаленне стылю, формаў і метадаў дзяржаўнага кіраўніцтва пад пільным во*кам партыйных органаў*.

Захапляючыся Машэравым і ягоным часам, Вячаслаў Францавіч усклікае: паглядзіце, як тады развівалася Беларусь! Нацыянальны даход і валавы грамадскі прадукт патроіліся; рост аб'ёмаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі складалі адпаведна 417 і125 працэнтаў. Лічбы сапраўды ўнушальныя. Але чаму яны прыпісваюцца толькі Машэраву, Беларусі? У мяне ёсць дадзеныя, што ў той час (1965—80 гг.) Літва, Латвія, некаторыя іншыя рэспублікі мелі яшчэ больш высокія паказчыкі, ды і ў цэлым Савецкі Саюз у 8—9 пяцігодках развіваўся высокімі тэмпамі. Можа, тады Саюзам і рэспублікамі *кіравалі такія мудрыя, здольныя кіраўнікі*-арганізатары? Каля партыйнага руля былі адны і тыя ж людзі, якія займалі высокія пасады яшчэ пры Сталіне і Хрушчове. Не арганізатарскі талент нашых партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў абумовіў тагачасныя высокія тэмпы развіцця Савецкага Саюза, а спрыяльная ўнутраная і знешняя кан'юнктура. У сямідзесятых гадах СССР апрануў ганаровую майку сусветнага нафталідэра, ад нас у Еўропу хлынуў паток *«чорнага золата», а адтуль да нас — валю*та, адзенне, абутак, мэбля. На нафце трымаўся ўвесь наш дабрабыт, нізкія цэны, адносны дастатак прадуктаў харчавання. Нафтадолары дазволілі Брэжневу зрабіць «гістарычнай» важнасці выснову аб тым, што «Савецкі Саюз уступіў у эпоху развітога сацыялізму». Калі б у нас быў у запасе яшчэ адзін Саматлор, то і сёння мы спявалі б славу «развітому сацыялізму» і М.С.Гарбачову, а не крытыкавалі б яго за перабудову. якая некаторым вельмі не падабаецца.

Аўтары інтэрв'ю сцвярджаюць, што П.Машэраў вельмі клапаціўся аб беларускай вёсцы, «змог закласці ў рэспубліцы птушкагадоўчыя комплексы — маем і сёння на прылаўках мяса». Калі гэтыя клопаты праяўляліся ў будаўніцтве жывёлагадоўчых комплексаў, то ў нас на Брэстчыне сапраўды пабудавалі многа, па адным, а то і болей на раён. Затрацілі мільярды рублёў. Кожны комплекс разлічаны на тысячы, дзесяткі, сотні тысяч свіней і бычкоў. Для іх утрымання патрэбна велізарная колькасць збожжа. У Беларусі яго няма і, напэўна, не хутка будзе. Разлік быў на тое, што Масква будзе купляць збожжа за золата ў Амерыцы і пастаўляць у Беларусь. Цяпер у нас няма ні валюты, ні кармоў, і комплексы на мяжы банкруцтва. У дадатак такія комплексы небяспечныя для прыроды, яны пастаянна аказваюць велізарную нагрузку на навакольнае асяроддзе — на паветра, на глебу, на водны рэжым.

Арганізатарам і натхніцелем буйных жывёлагадоўчых комплексаў, альбо, як тады гаварылі, «фабрык мяса і малака» быў Машэраў. Ён ведаў, што рана ці позна прыйдзецца пераходзіць на свае ўласныя кармы. Масква не прымушала нашых кіраўнікоў будаваць такія комплексы. Яны самі дамагаліся ад урада СССР будаваць іх. Было вельмі прэстыжна мець у рэспубліцы высокаразвітую жывёлагадоўлю, нават на чужых кармах, казыраць высокімі паказчыкамі па вытворчасці малака і мяса, параўноўваць сябе з Амерыкай, Галандыяй, атрымліваць высокія дзяржаўныя ўзнагароды. За жывёлагадоўчыя комплексы першы сакратар Брэсцкага абкома партыі Я.Сакалоў удастоіўся звання Героя Сацыялістычнай Працы.

Уся жывёла з такіх комплексаў вывозілася на мясакамбінаты, забівалася, мяса перапрацоўвалася і вагонамі-рэфрыжэратарамі некуды адпраўлялася, і сяляне ад гэтых комплексаў не мелі ніякай карысці. Яны елі сваё мяса, тое, што самі гадавалі ў сваіх хлеўчуках.

П.Машэраў актыўна падтрымліваў меліярацыю Палесся. Без меліярацыі не абысціся, яна вельмі патрэбна, калі праводзіцца якасна і на навуковай аснове. Але ж тое канавакапанне, што было ў нас, з вялікай нацяжкай можна назваць меліярацыяй. Асушылі шмат, убралі вільгаць з мільёнаў гектараў. Стварылі хісткую раўнавагу ў прыродзе. У засушлівыя гады на меліяраваных балотах бушуюць пыльныя буры, торф выветрываецца, і калі і надалей вялікія плошчы будуць засяваць не травою, а збожжавымі і прапашнымі культурамі, будзе бяда, Палессе ператворыцца з «залатога дна» ў безжыццёвую пустыню, і новыя пакаленні палешукоў будуць слаць праклёны ў адрас «пакарыцеляў палескай цаліны».

Даводзіцца горка ўсміхацца, калі чытаеш у інтэрв'ю пра тое, як П.Машэраў вучыў хлебаробаў атрымліваць высокія ўраджаі, як ён «на актыве ў Брэсце раскрытыкаваў традыцыйныя погляды наконт таго, што наша беларуская зямля бедная, і сцвярджаў, што яна можа даваць не 7 цэнтнераў збожжа з гектара, а ў 3—4 разы болей. Зала палічыла яго фантазёрам». Сапраўды, не трэба фантазіраваць, спадары! П.Машэраў, бачыце, «на працягу некалькіх гадзін лагічна выкладаў эканамічныя фактары, раскрываў нявыкарыстаныя рэзервы, якія трэба прывесці ў дзеянне», бо старшыні калгасаў, прабачце, такія ўсе недарэкі, што толькі і чакалі таго часу, калі высокі начальнік з асфальтаванага Мінска прыедзе і падкажа ім, дзе шукаць «скрытыя рэзервы» ўраджайнасці.

А што «неардынарныя думкі» былі ў галаве П.Машэрава, то тут я згодзен з *прэм'ерам. Памятаю, адно лета было* моцна засушлівае, кармоў недабралі. Шукалі выйсце. Сабралі ў абкоме партыйны актыў. Сказалі: трэба раз'язджацца па раёнах і арганізоўваць нарыхтоўку галінкавага корму і касьбу траў на няўдобіцах. Папярэдзілі: справа сур'ёзная, на кантролі ў Машэрава.

Наладзілі форменную паказуху. Секлі лес, вязалі лазовыя і бярозавыя венікі... каровам. Тысячы рабочых з прамысловых прадпрыемстваў Брэста, Пінска, Кобрына, Лунінца, іншых гарадоў накіравалі на абшары непраходных Мерылінскіх балот у Столінскім раёне. Там сяляне-аднаасобнікі рэдка калі касілі сена: трава рэдзенькая, яе не вывезеш і стог не паставіш — няма дзе. Каманда была касіць і траву дастаўляць на сухі бераг саматугам. Касілі ўручную, затым траву клалі на брызент (палаткі) і волакам цягнулі за многія сотні метраў да сухога месца. Колькі можна нацягаць гэтакім чынам травы? Мізэр! Людзі хутка стамляліся, адбывалі павіннасць, спяшаліся ў кустоўе. А вечарам — гарэлка, закусь! Было ўказанне нарыхтоўшчыкаў сена не крыўдзіць, не адмаўляць ім ані ў чым. Прылятаў Пётр Міронавіч на верталёце — са світай, з кінааператарамі, падбадзёрваў, хваліў, даваў указанні. На справе, як потым высветлілася, аўчынка не варта была выдзелкі — выдаткі на ежу, на транспарт, на зарплату намнога пераўзышлі вартасць тых кармоў.

Засуха, бяскорміца здараюцца і на Захадзе, і ў Амерыцы. Фермеры бачаць адно выйсце: скарачаюць пагалоўе, бо невыгодна зберагаць статак любой цаной. А ў нас ЦК вырашыў захаваць пагалоўе, нягледзячы ні на што — і ўсё, для старшынь калгасаў гэта закон. Неслухаў чакала суровая кара — страта пасады ці партбілета (што тое ж самае).

Аўтары інтэрв'ю пішуць, што П.Машэраў ашчадна адносіўся да кадраў, «не сек з-за пляча», «псіхалогію кадравага корпуса мяняў метадам доказаў і перакананняў», «нястомна клапаціўся пра бытавыя ўмовы інтэлігенцыі». Не сумняваюся, што, пэўна, знойдзецца нямала фактаў ягонай дапамогі вучоным, пісьменнікам, артыстам атрымаць кватэру, ордэн, купіць без чаргі аўтамабіль і г.д. У многіх выпадках без ягонай волі нельга было атрымаць дзяржаўную прэмію, скажам, ці званне. Але пры гэтым не трэба забываць, што ў эпоху Машэрава беларуская кніга апынулася ў страшэнным заняпадзе, былі прыпынены беларускамоўныя дублі рэспубліканскіх газет «Калгасная праўда», часопіса «Сельская гаспадарка Беларусі», абласных газет «Заря» (Брэст) і «Гродзенская праўда». П.Машэраў быў першым сакратаром ЦК КПБ, калі ў канцы 60-х гадоў не без яго ведама ў БДУ быў учынены разгром групы маладых паэтаў-нацыяналістаў, і Алесь Разанаў апынуўся ў ссылцы, давучваўся ў Брэсцкім педінстытуце.

А што датычыць бацькоўскіх адносін П.Машэрава «да кадраў» і вялікай павагі *людзей да яго асобы* («*варта было* прызямліцца верталёту, як адразу ж збіраліся рабочыя і вяскоўцы»), то нагадаю адзін аблёт Машэрава Брэсцкай вобласці, здаецца, у 1977 годзе, напярэдадні веснавой сяўбы.

— Да нас ляціць Машэраў, будзьце напагатове! — тэрмінова тэлефанавалі з абкома партыі ў райкомы. — Папярэдзьце людзей!

Вядома ж, усе задрыжэлі, забегалі. Едзе вялікі рэвізор! Прыгавор можа ўчыніць на месцы!

Не ведалі, адкуль чакаць, з якога боку з'явіцца ягоны верталёт. Пасля аблёту палёў першы прыпынак П.Машэраў зрабіў у Баранавіцкім раёне і ўчыніў разнос раённаму начальству і старшыням калгасаў за тое, што... на палях стаяць сцірты леташняй саломы: яны, маўляў, будуць замінаць сяўбе. Зямля слухамі поўніцца. Не прайшло і некалькі гадзін, як у суседнім Пружанскім раёне ў некаторых гаспадарках сцірты ўспыхнулі, бы свечкі. Іх спалілі. Ад велізарных шматтонных сціртаў засталіся кучкі попелу і чорныя плямы.

Такі быў час, такі быў стыль кіраўніцтва. Калі вялікі начальнік кудысьці ехаў і нічога не заўважаў, не даваў «цэу», не ўчыняў «раскруткі», то што гэта быў за начальнік! Яго ніхто не баяўся, ён быў «недотёпа» і не

***(Працяг на стар. 12)***

ЛІМАЎСКІЯ ДЫЯЛОГІ

# АД ЖАЛЮ І «ЛЮБОВІ ЛЮТАЙ...»





***Гутарыць пісьменнік Андрэй ФЕДАРЭНКА і журналіст Юрась ЗАЛОСКА***

— Калі не памыляюся, Андрэй, крытыка ўжо ідэнтыфікуе Федарэнку як прадаўжальніка традыцыйнага метаду ў літаратуры, прозе. Ці падзяляеш, па-першае, само вызначэнне «традыцыйная літаратура»? Па-другое, ці згодзен з крытыкамі?

— Юрась, давай адразу дамовімся: ты запрасіў мяне на гэтую гутарку не як нейкую «з'яву», якую, бачыце, ужо «ідэнтыфікуе крытыка», а як звычайнага сярэдняга літаратара, што мала чым вылучаецца ад тых, з кім разам прыйшоў у літаратуру. Кепска, калі фальшывая сціпласць, але яшчэ горш, калі не трымацца межаў аніякай сціпласці... Проста, сапраўды, і звычайны сярэдні літаратар мае свае думкі пра жыццё, пра літаратуру, таму я, найперш, дзякую за гэтае запрашэнне выказацца. Ага, і яшчэ адно: я наперад кажу, што буду шмат «якаць», але гэта ад таго толькі, каб падкрэсліць, што адказы мае не аксіёмы, а ўласныя, толькі **мае** меркаванні.

Значыць, ці прадаўжальнік я «традыцыйнага метаду ў прозе»? Але ў якой прозе? Беларускай? У літаратуры кожнага народа свае традыцыйныя метады, і, нават, напрыклад, расейскія значна розняцца ад беларускіх. Мне спадабалася выказванне І.Жука на анкету «ЛіМа» да гадавіны М.Гарэцкага — калі расейскія пісьменнікі ў большасці сваёй ставілі пытанні «что делать?» і «кто виноват?», дык нашыя, у прыватнасці, Гарэцкі — «за што?» (цікава, што бадай адзіны твор Талстога на тэму беларуска-польскага паўстання 1830—31 гг. таксама называецца «За что?»). Дык вось, калі я прадаўжальнік традыцый **беларускай** прозы... не ведаю, хутчэй за ўсё, не згодзен. Справа ў тым, што ў беларускай прозе амаль скрозь дамінантаю была (і цяпер ёсць, толькі з іншым знакам) традыцыя сацыялістычнага рэалізму. Але я не пішу гэтым метадам. Я прыхільнік чыстага, аб'ектыўнага рэалізму, і хачу, у меру сваіх, вядома, здольнасцей, толькі «ставіць дыягназ». Я не выбіраў гэты метад неяк знарок, проста ён сам склаўся як найбольш адэкватны для майго мыслення, мне лягчэй так выказвацца. Але ў цэлым для мяне гэтае пытанне зусім няважнае; я, калі пішу, менш за ўсё думаю, традыцыяналіст я ці яшчэ нехта — проста пішу, як на душу кладзецца.

— Добра, такім чынам, ты «проста пішаш»... Але яшчэ рана ўздыхаць з палёгкаю! Цябе чакае іншы «шасток» у літаратуры — младалітаратарства. Творы А.Федарэнкі, напрыклад, нярэдка адносяць да «маладой прозы», а самога аўтара называюць «маладым літаратарам» альбо «пачынаючым пісьменнікам». Калі ты чуеш падобныя дэфініцыі, якія пачуцці ў цябе гэта выклікае: успрымаеш як належнае, як стэрэатып у тутэйшай літаратуршчыне — маю на ўвазе жаргон літарацкіх, рэдакцыйна-выдавецкіх дачыненняў, крыўдуеш?

— Успамінаецца, як раз прыбег у рэдакцыю «Полымя» Сыс і, сціскаючы свой пудовы кулак, казаў: «Калі хто-небудзь напіша яшчэ раз пра мяне малады паэта...» Можа, гэта і залішне, але, сапраўды, я ўспрымаю гэта як здзек, як неразумны жарт. Давайце тады пісаць так пра Абдзіраловіча, Багдановіча, Лермантава, Ясеніна, Бялінскага (37), Джэка Лондана (40), Эдгара По (40), Мапасана (43), Пушкіна (37), іншых «маладых празаікаў і паэтаў»... Уладзімір Клімовіч у 23 гады напісаў харошае, сур'ёзнае апавяданне «Бацька», а Даір Слаўковіч у 60 — «Талерку над Ёршыкамі». Якія пачуцці (асабліва пасля спіска, што я назваў) можа выклікаць прадмова да кніжкі з бібліятэчкі «Маладосці» «Гром на світанку» — «Малады пяцідзесяцігадовы празаік Іван Галубовіч нарадзіўся і вырас...»? Яшчэ можна змірыцца з «пачынаючым» — хоць слова якое! — а «маладая проза», для мяне, у прыватнасці, — да дваццаці гадоў, а там ужо гэта альбо проста проза, без прыставак, альбо нешта іншае.

— Але якую «прыстаўку» мець ці не мець ніякай, ці ў 50 год трываць младалітаратарства ці ў 25 уважацца ледзь не класікам, — тое ў найбольшай ступені залежыць не ад творца, а ад версіі крытыкі і, адпаведна, пагаласу ў творчым саюзе, дзе пісьменнікі гуртуюцца... Акрамя гэтай залежнасці, якую, увогуле, можна не браць пад увагу, даводзілася чуць выказванні пра залежнасць аб'ектыўную: маўляў, членства ў любой фармальнай суполцы можа негатыўна адбіцца на творчасці, «прычасаць» думкі, зніведяваць стыль... Скажы, наколькі папраўдзе такімі наступствамі «духу вольнаму» пагражае членства ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі?

— Кожны пісьменнік тут павінен сам выбіраць і сам за сябе адказваць. Асабіста я за два з паловаю гады свайго знаходжання ў Саюзе пісьменнікаў бачыў ад яго толькі дабро, ганаруся і ганарыўся, калі мяне ў гэты саюз прынялі. Да мяне проста не даходзіць, калі я чытаю альбо чую, як вядомыя пісьменнікі паліваюць гразёю арганізацыю, у якой самі ўсё жыццё карміліся і дзякуючы якой паўладкоўвалі сваіх дзяцей і ўнукаў. «Прычэсвае думкі...» Не ведаю, як «прычэсвалі думкі і стыль» члену Саюза пісьменнікаў М.Булгакаву, калі ён пісаў такія рэчы. Хоць, можа, раней, калі друкаваўся нейкі смелы твор, збіраліся, абмяркоўвалі, забаранялі друкаваць — як, скажам, было з Салжаніцыным... Але Салжаніцыну гэтая забарона яшчэ невядома якую службу саслужыла. Зрэшты, ні я, ні ты часоў тых не засталі, цяжка нешта казаць, а цяпер — ну якім чынам могуць «прычэсваць» цяпер? Я што, напісаўшы апавяданне, нясу яго ў СП на праверку Зуёнку?

На такія версіі хочацца адказаць словамі таго ж незабыўнага Булгакава: «Все это чепуха, уверяю вас!»

— З боку ідэолагаў «Тутэйшых» (у прыватнасці, Францішка Эн.) можна было пачуць закіды па адрасе «БСЛ» — «беларускай савецкай літаратуры» — наконт таго, што яна «амаль не ўплывае на духоўнае жыццё нацыі», знаходзіцца на яго перыферыі. Паколькі ты не толькі назіраеш літаратурны працэс звонку, але і **ўдзельнічаеш** у ім, бачыш яго знутры, — дык якое тваё меркаванне наконт уплыву літаратуры на «духоўнае жыццё нацыі» (хоць калі хочаш ведаць, то твой суразмоўца схільны ўважаць літаратуру як і кожны від мастацтва сферай самадастатковай і па сваім змесце **пазарэчаіснаснай**; на г.зв. «жыццё» літаратура можа ўплываць пастолькі, паколькі яна запатрабоўваецца гэтым самым «жыццём»; яшчэ лепш, калі літаратуру ніхто не «запатрабоўвае» (дзеля сацыяльных мэтаў), і яна развіваецца сама па сабе)?

— На духоўнае жыццё нацыі аказвае ўплыў не тое што беларуская савецкая літаратура, а нават забойства камара. Усім жа вядомае апавяданне Брэдберы, мой адзін з самых любімых твораў: як галоўны герой патрапіў у мінулае і выпадкова раздушыў матыля, а калі вярнуўся ў свой час, амаль нічога вакол не пазнаў... Я не ведаю — «ідэолагі «Тутэйшых», як ты кажаш, быццам не вучыліся ў школах, інстытутах, «універмагах», дзе выкладалася беларуская літаратура — няважна, на якім узроўні выкладалася, але няўжо не было ніякага ўплыву, хай сабе кепскага, хай станоўчага? Няўжо фільмы па творах Быкава, Шамякіна, Караткевіча, Дударава, Адамчыка, Мележа, Чыгрынава, Асташонка, Адамовіча — буду паўтараць, няважна, добрыя ці кепскія фільмы, захапляліся імі альбо не — няўжо яны не аказвалі і не аказваюць «амаль ніякага ўплыву»? Спектаклі, радыёпастаноўкі, барды, рокгурты... карацей, усё, так ці інакш з беларускай літаратурай звязанае? Дык гэта толькі прамы ўплыў, а ёсць жа яшчэ ўскосны, дзе беларускамоўнае выданне выступае як рэч, як аб'ект: людзі прыходзяць у кнігарні, падыходзяць да кіёскаў, прабягаюць вачыма па назвах і — няважна, радуюцца ці плююцца ў душы — ужо ўплыў нейкі ёсць.

Іншая справа, калі б «ідэолагі «Тутэйшых» выказаліся хоць бы так: БСЛ не аказвае **станоўчага** ўплыву на дух нацыі... Але тут ужо, прабачце, якая нацыя, такі й уплыў...

— Значыцца, уплыў усё-такі ёсць, хоць па большасці ўскосны. Добра. Але ў такім разе мы ані не можам прамінуць тэму элітарнай — масавай літаратуры (і, шырэй, культуры). Калі ты прымаеш такі падзел — мабыць, гэта так, — дык куды ты аднёс бы г.зв. традыцыйную літаратуру?

— Пытанне нібыта кароткае, але без канкрэтызацыі круціць яго можна да бясконцасці... Па-першае, трэба помніць, дзе мы жывём. Гэта рускія ці палякі могуць задаваць самі сабе і адказваць на такія пытанні. А ў нас — дзе тыя беларускія чытацкія масы?.. Ды ў нас, па логіцы, пару дзесяткаў слоў, звязаных сяк-так у абзац, ужо можна лічыць элітарнай літаратураю: большая частка нашых «масаў» яго, гэты абзац, проста фізічна не здолее прачытаць...

Але раз ты пытаешся асабіста маё меркаванне, паспрабую адказаць. Я падзяляю так: масавай беларускай літаратуры ў нас пакуль няма і невядома калі будзе, а самае галоўнае, на мой розум, яна і зусім непатрэбна. Тое, што ў нас ёсць, я падзяляю на добрую літаратуру і на кепскую. Добрая — гэта тая, што падабаецца як мага большаму колу людзей, як правіла, сюжэтная, па якой можна зняць фільм, паставіць спектакль, якая перадае нацыянальны дух, пэўныя нацыянальныя асаблівасці, не банальная, улічвае, па магчымасці, лепшыя здабыткі іншых літаратур, каб не паўтараць іх, якую зможа чытаць і інжынер, і селянін, і пісьменнік — і да т.п. Кепская — гэта літаратура бессюжэтная, касмапалітычная, зразумелая толькі маленькаму колу аднадумцаў, альбо літаратура традыцыйная ў горшым значэнні слова — г.зн. літаратура неначытанага пісьменніка. Апошняе патлумачу. Колісь Чэхаў, чытаючы Г.Сянкевіча, пасля некалькіх старонак адкінуў убок кніжку і напісаў сябру: «Гэта жахліва... Адразу бачу, што ён не чытаў Талстога, не чытаў «Карэнінай», а бярэцца апісваць жанчын...» Вось нешта падобнае адчуваю і я, калі чытаю, скажам, апавяданне пра вёску, і бачу, што аўтар не ведае ні прозы Пташнікава, ні Адамчыка, ні Мележа; чытаю гумарэску ў «Вожыку» і бачу, што аўтар дужа здзівіўся б, калі б пачуў, што жыў некалі на свеце такі Аверчанка...

Г.зв. традыцыйную літаратуру — а ў беларускай літаратуры традыцыйнай я называю сацрэалістычную — я адношу ў большасці сваёй да літаратуры добрай. Гэты метад даў свету вялікія творы і вялікіх пісьменнікаў...

— Пра «вялікія творы і вялікіх пісьменнікаў» патрэбна, мабыць, гаварыць з агаворкамі, ды тэма гэта, напэўна, вымагае асобнай гутаркі... А цяпер, бачу, мы пераключаемся на развагі аб прыродзе пісьменніцкай творчасці. Тваё папярэдняе разважанне нагадала мне адну тэорыю заходняй культуралогіі (К.Леві-Строс) — аб культурах «халодных» і «гарачых». Калі першыя функцыянуюць «на падставе самой сябе», бясконца паўтараючы ўжо вынайдзенае, — статычныя культуры, дык другія, «гарачыя», імкнуцца не паўтарыць знойдзенае і заўсёды шукаюць новае — дынамічныя культуры... Паспрабуем змадэляваць, зыходзячы з гэтага, сітуацыю літаратурнай творчасці: пісьменнік ва ўсе часы пастаўлены ў жорсткую сітуацыю выбару — альбо пісаць толькі пасля таго, як асвоіў усё напісанае да яго, папярэднюю пісьмовую спадчыну, — каб не паўтараць ужо напісанае, альбо асмеліцца пісаць «з сябе». У першым выпадку, шчыра памкнуўшыся засвойваць гісторыю духоўнай культуры, можна і разгубіцца перад акіянам ідэй, — і так і не асмеліцца ўзяць у рукі пяро... У другім выпадку небяспечны літаратурны авантурызм.

Мяне цікавіць тваё разуменне, адносіны да тлумачанай сітуацыі. І, прынамсі, калі яна ў тваім вопыце «мела месца», дык якім чынам ты вырашыў для сябе дылему «перш чытаць — пасля толькі пісаць сваё»?

— Ну, часткова я адказваў на гэта ў папярэднім пытанні... Але можна і развіць. Папытаю і я цябе: Камю — гэта што? Новае на голым месцы? Ды большая частка філасофіі Камю — гэта Талстой і Дастаеўскі, ён прама пра гэта піша. Прачытай пра ўплыў Тургенева на Мапасана. Хемінгуэй пісаў толькі з сябе? «У параўнанні з Талстым апісанне нашай грамадзянскай вайны ў Стывена Крэйна здавалася бліскучай выдумкай хворага хлопчыка...»

І «халодныя», і «гарачыя» культуры магчымы толькі пасля таго, як стваральнікамі гэтых культур будзе засвоена як мага большая папярэдняя пісьмовая спадчына. Неначытаны пісьменнік, што нібыта збіраецца пісаць толькі «з сябе», школьнага сачынення як след не напіша, не тое што «створыць нешта новае». Хоць, паўтаруся, я асабіста ведаю пісьменнікаў, якія разважаюць пра што хочаш, не ведаючы нават школьных скарочаных праграмных твораў. Зразумела, што для такога ўсё, што б ён ні напісаў, будзе лепшае і новае.

Каб не разгубіцца ў «акіяне ідэй», пісьменнік павінен ведаць, што ён хоча, павінен «цягнуць» нейкую сваю лінію, моцна верыць у нешта — нават не так важна, у што: у Бога, авангардызм, адраджэнне і г.д. — і круціцца вакол гэтага нечага; тады ў яго чытанні не будзе схаластыкі, ён сам выбера, што для яго можа быць карысным, а што можна прабегчы па дыяганалі.

— Выходзіць, пісьменнік сам творца свайго светапогляду і ў значнай ступені сам выбірае сабе духоўных, літаратурных настаўнікаў. Што ж, цудоўна! А каго ў якасці Настаўнікаў абраў сабе ты?

— Гэта небяспечнае пытанне. Менш за ўсё хачу, каб мяне да некага ці да нечага прывязвалі. Але што ж: **пэўныя** ўплывы на мяне былі і ёсць, як і ў кожнага, хто піша ці збіраецца пісаць. Напрыклад, у часопісе «Роднае слова» было такое: «У настаўнікі Федарэнка ўзяў сабе перш за ўсё Талстога і Дастаеўскага, прыхільнасць да якіх у творах маладога празаіка выяўляецца асабліва выразна»; таксама я чуў пра сябе мянушку, прыдуманую мастаком Пушкіным, «Талстаеўскі». Але Дастаеўскага я ніколі не любіў — найперш, за знарочыстыя няправільнасці ў мове, за таўталогію, за няведанне, нелюбоў да сялян: мне нічога не гавораць яго афарызмы-рэбусы з агульных слоў, а выказванне «красота спасёт мир», якое выдаецца як ледзь не найвышэйшая праява чалавечае думкі, для мяне і па сённяшні дзень — «пустыя згукі»: што

за «красота», як «спасать»? Ды самое слова «красота» мае тысячу вызначэнняў, ніхто і цяпер толкам не можа вызначыць, што гэта такое... У Талстым я захапляюся не столькі мастацтвам, колькі яго яснай філасофіяй, якая, лічу, увабрала ў сябе крытыкуі разгляд ці не ўсіх філасофій, што існавалі і існуюць на свеце. Пісалі, што ў мяне ёсць «бунінскія ноткі», але да Буніна я стаўлюся холадна. Блізкія мне, і пэўны ўплыў аказвалі і аказваюць Чэхаў, Мапасан, Купрын, Набокаў, Аверчанка, Булгакаў, Зошчанка; з беларусаў Мележ (раманы), Колас, Гарэцкі.

Успамінаецца выпадак, калі крытык С.Дубавец сказаў мне неяк: «Я цябе і твае месца ў беларускай літаратуры раскусіў: ты — Дамашэвіч». Не ведаю, што ўкладаў у гэтыя словы крытык, але гэта — лепшы камплімент за ўсю маю «творчую дзейнасць». Уладзіміра Максімавіча люблю і як пісьменніка, і як чалавека, лічу сваім Настаўнікам; дзякуючы яму, я прыйшоў у літаратуру.

— Але літаратар (як і журналіст, дарэчы) існуе ў пэўным асяроддзі, сутыкаецца з пэўнай рэдактурай, моўнымі шаблонамі рэдактуры — а гэта, трэба думаць, і шаблоны мыслення, — і калі рэдактар нешта не прыме чыста суб'ектыўна, дык заўсёды знойдзецца «філалагічнае» апраўданне рэдактарскага непрымання пэўнай думкі, сказа, слова... Гутарка пра літаратурны кантэкст, у якім наканавана фізічна існаваць кожнаму пісьменніку і які змушае пісьменніка зважаць на тое, што робіцца побач, — каб не вытыркнуцца, не парушыць «правілы ветлівага тону» ў літаратуры. А такое аглядванне навокал не можа не прэсінгаваць творцу, падрывае, на мой погляд, а с а б о в ы пачатак у літаратуры. В.Акудовіч у лімаўскім эсэ «Літаратура ў краіне Сакрэту» (1.01.1993 г.) малюе вобраз кантэксту як «сцяны, да якой прыкуты мастак, і самае большае, што ён можа — адбегчыся на даўжыню ланцуга».

Скажы, наколькі такая залежнасць мастака сапраўды існуе; наколькі табе ўдаецца ісці сваім шляхам у літаратуры?

— З сорамам мушу прызнацца, што гэтага артыкула я амаль не зразумеў, што увогуле не разумею большай часткі цяперашніх філасофскіх артыкулаў і эсэ, не разумею з-за простай прычыны: да мяне не даходзіць сэнс слоў. Чытаючы такія артыкулы, мне хочацца класці побач ліст паперы і «перакладаць» сказы і абзацы з артыкула на «сваю» мову. Няўжо самую найсур'ёзную думку нельга выказаць нармальнымі словамі, нармальным стылем? Але ж для гэтага патрэбна, як мінімум, каб аўтар сам добра ведаў, што хоча сказаць...

«Мастак бегае на даўжыню ланцуга...» Ну і што? — спытаю я. Што з гэтага мастаку? Я не жартуючы кажу: я зразумеў, вынес з гэтага артыкула для сябе толькі тое, што, аказваецца, камерцыйную групоўку Шайбака і Клімковіча зусім марна спалучаюць з Глёбусам і Сцяпанам. Ну, няхай, — можа, і такая праблема існуе... Адно толькі суцешыла, што ў канцы і аўтар стаў маім саюзнікам, падтрымаў мяне, лагічна заключыўшы, што гульня ў сістэматызацыю (разумей, галоўная думка артыкула) бясконцая, блытаная і не надта сур'ёзная.

Пісьменнік, які хоча сказаць сваё слова ў літаратуры, нешта новае, павінен дбаць у першую чаргу не пра «ланцугі», а пра чыста тэхнічныя рэчы: ці жывыя героі, цікавы сюжэт, ці ясная і простая мова, ці не зацягнуты, альбо, наадварот, ці не ўсечаны пачатак... А сядаць пісаць твор і адной часткай галавы думаць, што «вось я ствараю новую літаратуру, вось вырываюся з кантэксту, ірву ланцугі і г.д.», — тое ж самае, як справядліва заўважаў Леў Мікалаевіч, каб араты ішоў бы за плугам і выпісваў нагамі танцавальныя па. Таму, з твайго дазволу, перакладу «ланцуговыя прэсінгі кантэксту» на сваю мову: ты пытаеш, ці задавальняе мяне стыль, якім пішу, тэмы, і ці не хацелася мне іх неяк памяняць, паспрабаваць нечага іншага? За некаторыя свае «рэчы», скажу шчыра, мне проста сорамна (напр., апавяданне «Падстрэлены»), некаторыя лічу добрымі, і цяпер мала што паправіў бы (апавяданне «Малая»)... Але сапраўды — ну, сёння «малая», заўтра «малая»... Што далей? Нельга ж не бачыць, і многія, думаю, лепш за мяне бачаць, што часы «сацрэалістычных» аповесцяў і раманаў мінулі гадоў дзесяць назад і цяпер толькі — запаволеная інерцыя; што апавяданні, асабліва вялікія, таксама на ладан дыхаюць; узораў еўрапейскага мабільнага рамана пакуль няма і невядома калі з'явяцца; навел у іх сапраўдным значэнні (сціслась, інтрыга, нечаканы канец) лічаныя ўдалыя адзінкі... Не ведаю, куды ісці і што. Мяне асабіста заўсёды (а цяпер больш, чым калі) цягнула пісаць нешта вольнае, не думаючы, які гэта жанр, нічым сябе не скоўваючы, — нешта такое, накшталт сваёй, на жаль, недаканалай аповесці «Гісторыя хваробы»...

— Існуе думка, што прозы ў Беларусі зараз увогуле няма. Прадэкламаваў яе Сяргей Дубавец. Існуе таксама меркаванне, што ў беларускай прозе зараз мусіць адбыцца прарыў — прыход «новага Мележа». Ці магчыма, на твой погляд, падобнае ў нашай празаістыцы?

— С.Дубавец сказаў «няма прозы», а ты, напрыклад, можаш сказаць «ёсць проза», — і што? Усё гэта толькі «слова, слова» і, як амаль заўсёды, поўная адсутнасць доказаў і канкрэтыкі. Можа, няма **добрай** прозы, ці прозы, якую любіць, якую хацелася б бачыць Дубаўцу? Ды й ці такой няма? Дубаўцу, ведаю, падабаецца Быкаў — у першым нумары «Полымя» за гэты год змешчана новая аповесць Быкава; падабаюцца Арлоў і Б.Пятровіч — тры кнігі Арлова выйшлі ў 92-ім годзе і кніжка Б.Пятровіча... Зрэшты, Дубаўца яшчэ трэба ўмець чытаць. У адным месцы ён напіша, што прозы на Беларусі няма, у другім — што лепш за Навуменку сёння пішуць чалавек дзесяць плюс шматкроп'е ў канцы; у адным артыкуле ён параўнае кнігу белетрыстыкі Алеся Наварыча са Статутам ВКЛ — што лепш, у другім напіша, што Быкаў і Стральцоў — «хорошо», а Шамякін — «плохо», нібы і не разумеючы, што гэта тры рэалісты (смела скажу — сацрэалісты), якіх **рэзка** супастаўляць проста несур'ёзна — той жа рэалізм, той жа гуманізм, тая ж вера ў чалавека працы, і ў Шамякіна ёсць рэчы ані не слабейшыя за быкаўскія; нібы і не ведае С.Дубавец, што і Быкаў адгукаўся на творчасць Шамякіна, напрыклад, рэцэнзіяй «Улада праўды» на аповесць «Мост»... Крытэрыі Дубаўца «неисповедимы есть», так што не здзіўлюся, калі ён заўтра напіша, што проза на Беларусі ёсць, прычым самага высокага ўзроўню.

Наконт «прарыву, прыходу новага Мележа» нічога не магу сказаць — проста не ўяўляю сабе, як прыйдзе ў рэдакцыю малады чалавек і прынясе пад пахаю раман накшталт «Палескай хронікі»... Мележ для свайго часу сваю работу зрабіў, зрабіў на вышэйшым узроўні, і новага Мележа, думаю, не толькі не будзе, а ён і не трэба новы. Мне іншае цікава — як часта пачало гэтае імя згадваецца. Празаік Алесь Асташонак у «ЛіМе» аж двойчы, нібы смакуючы, паўтарыў амаль слова ў слова, што «аднымі Купаламі і Мележамі з іхнімі паслядоўнікамі, пры ўсёй нашай бясконцай да іх павазе, аўтарытэт нашай літаратуры не падымеш». Зноў-такі: што за наступнікі, хто? Гэта нейкая большасць у беларускай літаратуры, цэлая аднародная плынь? Для мяне, у прыватнасці, спадчына Мележа — гэта пластыка стылю, дзе ўсё на сваім месцы і нічога лішняга, кожнае слова «паспрабавана на зуб», гэта — тэхніка пісьма, яснасць, прастата, нацыянальны дух, цудоўныя дыялогі, калі пазнаеш героя без рэмарак... І можна падняць «аўтарытэт літаратуры», не ўлічваючы гэтую спадчыну? Не ўзяўшы ўсё лепшае, каб з гэтым набыткам рухацца ўжо далей, хоць да той жа «еўрапеізацыі», Бог з ёю?..

Наша бяда не ў тым, што ў нас дужа многа паслядоўнікаў Мележа, якія нібыта адны збіраюцца падымаць аўтарытэт літаратуры, выцясняючы сабою ўсіх іншых, а ў тым, што паслядоўнікаў у гэтым плане, на вялікі жаль, амаль няма. І на месцы шаноўнага А.Асташонка, тым больш ведаючы яго цэнтрысцкую ўвогуле пазіцыю, я сфармуляваў бы гэтую думку так: «Аднымі «еўрапеізатарамі» і г.д. нашу літаратуру не выратаваць».

— Ці задавальняюць цябе як пісьменніка магчымасці нашай мовы? Я, напрыклад, адчуваю пэўныя пустоты ў ёй, калі не собіць адэкватна выказаць складаную думку ці прыцягнуць нешта з сусветнай класікі (дакладней — з рускіх перакладаў сусветнай класікі). Ці мова цябе цалкам задавальняе і справа т о л ь к і ў здольнасці карыстацца ёю?

— Тут я згодзен, я таксама адчуваю пустоты такога роду, нейкія мёртвыя паўзы. Тады мне хочацца, на манер Дастаеўскага, знарок ламаць сказ, неяк няправільна пабудаваць яго, уставіць на самым відным месцы русізм... Але гэта не толькі ў беларускай, а і ў любой мове ёсць, я чытаў пра гэта ў многіх пісьменнікаў... Яшчэ адзін доказ, што наша мова ў цэлым такая ж, як і ўсе. Чаму ў цэлым? Найперш таму, што нашыя газеты, часопісы, пісьменнікі перакладаюць усё, што можна перакласці («Месячная саната», прыгажунька, бачна, «прыгажосць уратуе свет»...); мала таго, што гэтыя пераклады часта недарэчныя, недакладныя, гумарыстычныя — яны выстаўляюць вялікую беларускую мову правінцыяльнай і напаўмёртвай.

Другое: гэта нежаданне, боязь вярнуцца да мілагучнай, пластычнай мовы па граматыцы Тарашкевіча. Нядаўна адзін вядомы, паважаны пісьменнік казаў мне: «Усімі сіламі будзем змагацца з гэтымі мяккімі «эль», бо людзі, чытачы ад нас адвернуцца». І так і не мог я растлумачыць, што больш, чым ад нас адвернуцца, ужо немагчыма адвярнуцца, проста губляць няма чаго. Набыць жа можна многае. Ніколі не забуду, як мая напаўпісьменная матка казала: «Трэба памяняць **лягу**»; я спачатку нават не зразумеў — аказалася, «**лагу**», на якую сцелецца падлога! І гэта ў нас, на паўднёвым усходзе, дзе паляка жывога ніхто ў вочы не бачыў!

Асабіста я быў і ёсць прыхільнік гэтай мовы, усе мае чарнавікі, дзённікі, лісты пішуцца з мяккімі знакамі і з мяккім «эль», аповесць «Гісторыя хваробы» ў чарнавіках увогуле напісана лацінкаю. Яшчэ: ты, мабыць, звярнуў увагу, што стваральнікі часопіса «Бярозка», газеты «Наша Ніва», радыёпраграм "Беларускай маладзёжнай», якія карыстаюцца "тарашкевіцай», у асноўным — людзі гарадскія, якім не давялося вучыцца ў беларускамоўных школах, якія вучылі мову самі; я думаю, іхні пераход на "тарашкевіцу" не ад адного авангардызму-еўрапеізму, не толькі ад фронды, — яны, як людзі разумныя, убачылі, што іхняя гарадская беларуская мова ў цяперашнім варыянце, мякка кажучы, не зусім жывая. Граматычныя асаблівасці "тарашкевіцы" згладжваюць гэта, і мова гучыць як след.

— Кола твайго чытання. Што чытаеш штодзень? Ці чытаеш газеты?

Ёсць, бачыш, чытачы, якія прынцыпова чытаюць толькі беларускую літаратуру і перыядычныя выданні. Як у цябе? Я, напрыклад, мяркую, што **гэтакае** чытанне натуральнае хіба на нейкім часе, а калі ўвогуле, дык шмат якіх чытацкіх патрэб беларуская сучасная літаратура задаволіць не можа, найперш запатрабаванняў інтэлектуальных, культуралагічных, медытычных. І ніякая «самасць», перанесеная ў літаратуру, не кампенсавацьме браку адпаведнай літаратуры...

— Газет, акрамя «ЛіМа», не выпісваю і не чытаю ўжо даўно, але калі вакол пачынаюць гаварыць пра нешта цікавае, сенсацыйнае, тады знаходжу газету і чытаю. «ЛіМу» аддаю перавагу не таму, што друкуюся ў ім, а таму, што, акрамя літаратуры, мяне цяпер мала што цікавіць. Часопісы (беларускамоўныя) выпісваю альбо купляю і чытаю ўсе, асабліва падабаецца маладая «Тэатральная Беларусь»... Кола чытання прозы на кожны дзень — што пад руку, але адно проста прабягаю вачыма, другое чытаю яшчэ і з выпіскамі. Цяпер проста захапляюся г.зв. другой, незаўважанай хваляй расейцаў канца XIX ст.: Лазарэў-Грузінскі, Шчыглоў, Авілава, Патапенка, Лейкін, Білібін, Не-Буква, Ціханаў, Тэфі — «сярэднія пісьменнікі» чэхаўскай пары...

Да другой часткі пытання. Ну, вядома, беларуская сучасная літаратура не можа задаволіць чытацкіх патрэб — як не можа ні руская расейцаў, ні французская французаў і г.д. У сувязі з тваім пытаннем мне ўспомніўся цікавы выпадак. Аднойчы я ехаў разам у вагоне метро з адным, як у нас кажуць, «самашэчым», які голасна, на ўвесь вагон, даваў характарыстыкі ўсім, хто сядзеў насупраць. І вось, паказваючы пальцам на барадатага маладога мужчыну, ён закрычаў: «Ты, Міклуха-Маклай! Хочаш быць Міклуха-Маклаем?! — Будзь ім!» — і перайшоў да наступнай «ахвяры». Вось і ў нас з табой тое ж самае: хочаш задаволіць свае інтэлектуальныя, культуралагічныя і іншыя запатрабаванні — задаволь іх. Хоць на беларускай, хоць на японскай, хоць на любой іншай мове.

— Бачу, за час па напісанні апавядання «Заява» (здаецца, ці не 1988 год?), галоўны герой якога даволі заўзяты «беларусізатар», аўтарскае разуменне ролі мовы ў грамадстве змянілася...

— Апошнімі часамі я ясна зразумеў, што навучыць чалавека мове, тым больш беларуса, прымусіць яго палюбіць мову — абсалютна немагчыма — да тых часоў, пакуль ён з гэтага «капейку мець не будзе». У прынцыпе, гэта і раней было ясна, але раней я злаваўся на гэтых людзей і лічыў іх як бы непаўнацэннымі.

Памятаеш апавяданне У.Крупіна, дзе галоўны герой кажа: «Для того, чтобы не воровали, нужно сделать всех полковниками, тогда всем воровать будет стыдно, и воровство исчезнет»; калі яму заўважылі, што ўсіх жа не зробіш палкоўнікамі, ён адказаў: **«Тогда и не судить».** Вось гэты момант бачыцца мне геніяльнай мадэллю цяперашняй, ды і заўсёднай, моўнай сітуацыі на Беларусі. Для таго, каб уся Беларусь загаварыла па-беларуску, трэба рабіць усіх пісьменнікамі, але гэта немагчыма; тады, відаць, не варта і строга асуджаць людзей, якія ведаюць і разумеюць мову, але прынцыпова не хочуць на ёй размаўляць. Калі б нешта залежала ад мяне асабіста, я плаціў бы кожнаму беларускамоўнаму грамадзяніну двайны аклад. Без усялякіх жартаў. Паглядзі, на колькі дзесяцігоддзяў(!) разлічана г.зв. беларусізацыя, колькі сродкаў убухалі і ўбухаюць у гэтую, у большасці сваёй, шкодную справу! Калі б адну дзесятую ад гэтых сродкаў пусцілі на аплату беларускамоўным, праблема «беларусізацыі» вырашылася б за тры дні...

— Разумею, што праз гіпербалізацыю і гратэск выказваецца зручней, хоць і не зусім падзяляю такі прыём. Мяне больш цікавіць, як ты разумееш місію пісьменніка ў **такой** моўнай сітуацыі. Бо паколькі няма цэласнага нацыянальнага **быцця**, дык мова ўяўляецца ў такіх варунках больш чым мовай — гэта **само быццё** альбо голас неіснуючага быцця; сучасны беларускі пісьменнік — у большасці сваёй пасланец вёскі ў горад — і ёсць выказнік гэтага голасу, і ёсць творца сапраўднага быцця сваіх суродзічаў... Як сваю пісьменніцкую місію ўсведамляеш сабе ты?

— Я, з твайго дазволу, спынюся на «пасланцы вёскі»... Сапраўды, чым больш я жыву, чым больш чытаю, слухаю і бачу, тым больш пачынаю разумець, што вёска — гэта нешта адзіна сапраўднае, нейкі светлы разумны куточак у свеце вар'яцтва... І, калі ўжо так цяжка адарвацца ад Дастаеўскага, дык, па-мойму, «вёска ўратуе свет», а не нешта іншае. У маіх апавяданнях ёсць пра вёску і пра вясковых людзей жорсткія словы, але яны не ад няведання, не ад абыякавасці, а якраз ад жалю і, па выразу Буніна, «любові лютай»... Адзін шаноўны літаратар сказаў пра маю «Камандзіроўку»: «Гэта паклёп, гэта здзек з вясковых людзей... Як можна пісаць пра такія рэчы гумарыстычна?!» Зайшоў бы ён у любую вясковую краму ды паслухаў!.. Добры гумар: тут плакаць хочацца, калі бачыш гэтых пераязаных накрыж хусткамі баб і п'яных ад цяжкай працы і самагонкі мужычкоў з самакруткамі, якіх столькі ўжо часу так бязлітасна і ўпарта цягнуць да «рыначнай эканомікі еўрапейскага ўзроўню»; усё часцей і часцей лезе ў галаву перафразаванае радзішчаўскае: «Што ім скора астанецца — паветра?» Пра апавяданне «Бляха» даваўся пачуць, што гэта традыцыйная, добра скляпаная літаратурная выдумка, але ж такіх выпадкаў, які апісаны ў апавяданні, — тысячы; па вёсках Мазыршчыны дзень і ноч снуюць туды-сюды машыны, цягаючы падазроныя «странники» — і крадуць, крадуць бязбожна: веласіпеды, тэлевізары, сала з камораў, курэй, яйкі з-пад курэй, з агародаў бульбу, цыбулю — што вочы бачаць...

Ну, гэта матэрыя... А ў духоўным плане «місія тварыць быццё»... гэта можна сказаць, напрыклад, пра Караткевіча, Данчыка ці Сокалава-Воюша... Што пра сябе? Я атрымаў чатыры лісты ад незнаёмых людзей на аповесць «Гісторыя хваробы»; мне расказвалі, як на Мазырскім дрэваапрацоўчым камбінаце паміж рабочых перадаваўся «ЛіМ» з маёй «Камандзіроўкай»; прыемна было, што менавіта вясковае апавяданне «Пеля» атрымала першае месца на Усесаюзным конкурсе «Молодые дарования»... У гэтым плане, вяртаючыся да пытання, у меру сваіх здольнасцей, для суродзічаў, для беларускай літаратуры я сёе-тое раблю.

— Дзякуй, Андрэй, за гутарку, і дай Бог табе новых, нечаканых твораў.

Таіса БОНДАР



# МУЖНАСЦЬ, НЕ ПАКІНЬ МЯНЕ І ТЫ...

□

Так прагнула спакою, а спакой,
Прыйшоўшы,
не прынёс з сабой збавення:
Застыў, гнаіцца мёртваю ракой
Вакол былых спадзевак і сумненняў.

І ў затхласці яго — адно туга
І выжывае горыччу атрутнай...
Каго ад болю боль засцерагаў,
Хай скажа мне, знясіленай пакутай.

Калі ні рук, ні думак не сагрэць,
Калі для сэрца ўжо нішто не люба,
Я выпіла б да дна,
хай нават смерць
Уласнаручна падала мне кубак.

□

Баюся ўзненавідзець свет людзей,
Наскрозь ілжывы і наскрозь
бязбожны,
І тым міжволі падыграць бядзе
Якраз цяпер, у гэты час трывожны,

Вядома ж з вопыту, з жыцця: заўжды
Зло — проста зло,
і людзі — толькі людзі...
Хто, размяняўшы ўсе свае гады,
Сябе за тлум і спешку не асудзіць?

А вось жа зноўку паглынае тлум
І мары, і памкненні да свабоды,
І іскаркі сагрэтых небам дум,
Як ї раней, з агульнай нашай згоды.

Як і раней... Адчайней, чым раней.
Стагоддзе на вачах ва ўсіх канае,
І што яму да тых, чый час міне,
Чый час, куды ні павярні, мінае.

І каб хоць нейкі плён,
хоць нейкі след,
Які не ўгразне ў змрок, не абарвецца!
Баюся ўзненавідзець гэты свет,
І часам ненавіджу ўжо, здаецца.

□

Абрыдла дакука жыцця?
Знасілася, выцвіла неба?
Ні сілы змірыцца, ні срэбра,
Каб выкупіць сны ў забыцця.

У снах, у шчаслівых тых снах
Натхненне зычачвала долю
І ярка высвечвала шлях
Да славы. Да славы і волі.

Здавалася, часу няўцям,
Чыё там, наперадзе, свята,
А слава — звычайная плата
За радасны шал пачуцця.

Здавалася, імем жыцця
Закляты гады, і стагоддзі...
А тут невядома, ці знойдзе
Хоць міг гэты недзе працяг.

□

З кім Бог, той не слугуе сатане,
Любому яго срэбраніку рады.

Дык з кім жа Ён?
У кім, калі ў цане
Хлусня і здрада,
зноў — хлусня і здрада?

Няма ўжо, здэцца, тых сярод людзей,
Хто б іншаму, суседу, не падгадзіў,
Пагрэўшы рукі на чужой бядзе,
Знайшоўшы апраўданне ўласнай
здрадзе.

Хоць здраджваў не такому ж, як і сам,
Гаротніку зямной, пакутнай долі,
А ўсім наступнікам і тым часам,
Якім не нарадзіцца ўжо ніколі.

Так, так, бо не народзіцца святло
Памкненняў чыстых,
спадзяванняў светлых,
А ўсё астатняе ў нас — попел, тло...
Мы знаем гэта й паміраем з гэтым.

Мінае ўсё, што так ці йнакш міне,
І хтосьці ж дажыве да горкай праўды:
З кім Бог, той не слугуе сатане,
Любому яго срэбраніку рады.

□

Ратуюся музыкай...
Знаю, яна не ўратуе:
Прадонне азвалася,
Стыне прасцяг нада мной,
І вецер праз дзіркі
Ў яго абалонцы зямной
Выплёўвае долю
Гадоў мішуру залатую.

*Нацыянальнае будаўніцтва пачынаецца з Духу. Не з эканамічнага базісу, а з Духу, як жыватворчага пачатку. Без такога пачатку, без Духу, як прымату, нельга ўявіць жыцця нацыі. Дух — гэта тое, што цэментуе нацыю і вызначае ейную (адметную) сутнасць. Дух — гэта тое, што актывізуе стваральную дзейнасць нацыі, больш таго — Дух фармуе нацыю. Дух — гэта паводле яўрэйскага «руах» — п а в е ў , што, як вецер, ахоплівае нас. Гэтым Духам-павевам прычашчаецца нацыя.*

*Ці ёсць у нас, беларусаў, такі Дух, такі павеў, якім бы мы прычашчаліся? Ёсць. Безумоўна, ёсць. Ён дадзены нам звыш. Мы нарадзіліся з ім, такім, які маем, Духам. Ён, гэты Дух, не набыў толькі ў нас дастатковага гарту. Яго трэба гартаваць. Закаляць, як тую сталь. Апостал Павел заклікаў «духам палымнець». Мы яшчэ гэтым духам не палымнеем. Мы яшчэ чакаем узруху гэтага Духу, узруху, што перайшоў бы ў рух.*

*У нас няма скарбонкі Духу. Свайго нацыянальнага Пантэона, Храма. Ён толькі яшчэ ў зародку. Гаворка ідзе тут не аб каменным, а аб духоўным Пантэоне ці Храме. Без яго цяжка ўявіць нацыянальнае адраджэнне. Наш Пантэон заселены толькі паганскімі багамі і дзіўна — у нашым адраджэнскім руху заўважаецца апошнім часам паварот да пантэізму, зварот у дахрысціянскую пару (Дзяды,Купалле, іншыя культы). І гэта ў той час, калі мы гаворым аб духоўным адраджэнні нашага народа.*

*Падчас вайны давялося мне пабачыць на нейкім ушчэнт разбітым вакзале ў Нямеччыне прыбітую высока на сцяне карціну: уся Нямеччына ляжыць у руінах і толькі над гэтымі руінамі, як запэўненне нязломнасці Духу — вобраз-выява Гётэ.*

*У нашым духоўным Пантэоне няма яшчэ свайго Гётэ. Над нашымі руінамі не ўзняўся сімвалам выратавання — беларускі Гётэ. У нас яшчэ адбываецца працэс накаплення Духу, нясмелае заснаванне яго. Наш нацыянальны Дух не набыў яшчэ той палымянасці, аб якой гаварыў апостал Павел. Мы знаходзімся цяпер у пошуках той іскры, што запаліла б паходню нашага Духу. Над нашай пакутнай зямлёй мусіць узняцца Агонь Духу. У гэтым Агні і адбудзецца другое нараджэнне нашай нацыі, ейнае ўваскрашэнне.*

Масей СЯДНЁЎ

# СУМ ПА ДУХОЎНЫМ ПАНТЭОНЕ

## *Новыя старонкі «Масеевай кнігі»*



## *МОВА ЛУКАША КАЛЮГІ*

Як, можа, ні ў кога, у Лукаша Калюгі мова самая адметная, самая своеасаблівая. Нават у Кузьмы Чорнага, блізкага паводле мовы Калюгу, мы не назіраем такой апрычонай, самастойнай лінгвістычнай пазіцыі. Чым жа адрозніваецца беларуская мова Лукаша Калюгі ад звычайнай, агульнаўжывальнай літаратурнай мовы? Якія рысы робяць яе адметнай і наколькі гэтая адметнасць мовы Калюгі служыць яму, як пісьменніку-мастаку? Нарэшце, гэтая адметнасць, гэтая асаблівасць — плюс ці мінус?

Найперш, мова Калюгі — гэта не літаратурная мова ў звычайным сэнсе. Гэта мова Калюгі, асабістая мова. Але гэта адначасна і мова ягоных герояў. Мы назіраем у Калюгі рэдкую, амаль абсалютную тоеснасць мовы пісьменніка і мовы ягоных персанажаў, зліццё гэтых моў. Вы не можаце сказаць з пэўнасцю, хто гаворыць: аўтар ці персанаж. Мы назіраем **зродненасць** аўтара з ягонымі дзеючымі асобамі. Уражанне такое, быццам у аўтара і няма сваёй мовы, быццам ён паслугоўваецца мовай таго ці іншага свайго героя. Але гэта ілюзія: за кожным персанажам стаіць аўтар, толькі мы не заўважаем ягонай прысутнасці, у гэтым якраз і палягае надзвычайная здольнасць Калюгі-пісьменніка.

Мова Калюгі псіхалагічна дакладная. Яна настолькі дакладная, што ў кожнай рэпліцы, у кожным руху, у кожным жэсце вы не заўважаеце фальшу: пісьменнік забяспечвае свайго персанажа ягонай **прыватнай** мовай. Праз гэтую мову раскрываецца духоўны свет героя, ягоная псіхалогія і нават ідэалогія.

Адсюль іншая асаблівасць мовы Лукаша Калюгі — ягоны сінтаксіс. Гэта не той сінтаксіс, да якога мы прывыклі. Гэта Калюгаў сінтаксіс і адначасна сінтаксіс ягоных дзеючых асобаў. Своеасаблівая канструкцыя фразы як найлепш выдае, раскрывае асобу, ейную псіхалогію, яна агаляецца, паўстае перад намі жывой, незамаскаванай мовай — агульнай, неперсанальнай. Сінтаксіс Калюгі настолькі адрозны ад агульнага, наколькі адрозніваецца — псіхалагічна, ментальна — абраная ім для даследавання сацыяльная праслойка ад ментальнасці сярэдняга тыпу нашай нацыі. Не забывайма, што ў такіх сваіх творах, як «Нядоля Заблоцкіх» і «Ні госць, ні гаспадар», Калюга ўзяў блізкі яму матэрыял — людзей з уплывамі польскай культуры, псіхалагічна ў нечым адрозных ад стандартнага нашага тыпу. У мове гэтай праслойкі мы назіраем паланізмы, асабліва звароты, хутчэй блізкія польскай мове. І Калюга нічога не мяняе ў моўным ладзе сваіх персанажаў, сінтаксічна аўтар арганічна зросся з сваімі дзеючымі асобамі. І гэта не загана, а наадварот — выключная здольнасць пісьменніка ў спасціжэнні абраных іх герояў. Падгані Лукаш Калюга мову сваіх герояў пад агульны, неасабовы сінтаксіс, у ягоных творах мы пабачылі б не жывых людзей, а манекенаў. І не было б пісьменніка Лукаша Калюгі.

Канешне, асаблівасці стылю Лукаша Калюгі могуць і знеахвочваць чытача. Не кожны, узяўшыся чытаць твор Калюгі, дачытае яго да канца. Чытанне твораў Калюгі не лёгкае — запаволенасць, цягучасць, аналітычнасць не даюць магчымасці **прабегчы** вачыма твор Калюгі, за адзін прысядак праглынуць яго, затое хто здолее твор Калюгі, той адкрые для сябе нешта новае, дасюль неадкрытае, духоўна ўзбагаціць сябе, адчуе на сабе эстэтычнае ўздзеянне мастацкага слова выдатнага пісьменніка.

## *ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА*

Уявім сабе такую недарэчнасць: што было б, калі б у Прыродзе не было чалавека? Адзіна магчымым адказам на пытанне было б: не было б самое Прыроды. Яе не было б у нашай свядомасці. Прырода для нас не існавала б. Мы нічога не ведалі б пра Яе. Яна існуе, паколькі мы ёсць у Ёй. Нас жа Прырода не ведае, не ўспрымае, не ўсведамляе — у Яе ж няма свядомасці. Ёй усё роўна: ёсць мы ці няма. Ёй мы непатрэбны. Гэта яна нам патрэбна.

Мы сказалі, Прырода не мае свядомасці, адсюль — Яна не мае і болю, нават калі мы нішчым Яе. Гэта толькі ў нас боль за Яе. Прыродзе было б лепей без нас. Але хто тады ўспрымаў бы Яе? Ніхто.

Ды вернемся зноў да пытання: што было б, калі б нас не было ў Прыродзе? Дзе б мы тады былі? Адзіна магчымы адказ: нідзе. Гэта значыць, нас не было б наогул. Мы можам быць толькі там, дзе мы ёсць. Мы ёсць у **нашым** свеце — у іншым нас нельга ўявіць. У нас няма прарыву — мы заклятыя быць на гэтым свеце. Прырода — гэта і ёсць наш свет. Але мы самі не прырода. Калі б мы былі прыродай, мы зліліся б з Ёю і не былі б здольныя ўспрымаць Яе. Мы выдзеленыя з Прыроды і стаім над Ёю. Мы ў Ёй пануем. Мы можам нат сказаць: Прырода без нас — Нішто. Але ці можам мы сказаць, што мы самі — Нішто? Вось гэтага, на жаль, нам не дадзена пазнаць. Адно толькі пэўна: на працягу ўсёй сваёй гісторыі чалавецтва вядзе няспыннае змаганне, каб сцвердзіць сябе, каб **узняцца** над тым **«Нішто»**.

## *КАЛЯНДАР*

Калі ў мяне не было ніякага календара — ні адрыўнога, ні настольнага, мне было добра: мне не трэба было глядзець на каляндар, каб даведацца, якое сёння чысло, я жыў як бы па-за часам, свабодны, каб рупіцца, як называецца дзень, у якім я жыву, тыя дні міналі неўпрыкметку, час нічым у мяне не

**Адзззялі, адтанчылі,
Не заўважаючы тых,
Хто ў звоне іх прагнуў пачуць
І сваё бласлаўленне.
Каго весялілі?
Чым выжывалі маленнем,
Каб не азірнуцца
І ззяць пасярод пустаты?**

**Нікога. Нічога,
Што стала б вяхою дасвеццю,
Як потым — світанню
І новаму, лепшаму дню.
І мне гэту ноч, гэты сум
Не даверыць агню...
Ратуюся музыкай.
Чую, як вецер смяецца.**

□

**Прыйшлі шкадаванні — і скруха
Больш не пакідае мяне.
Ну, што ёй — гадоў завіруха?
Аціхне. Раней ці пазней...**

**Раней ці пазней. І хоць спрэчна,
Што смерцю сам шлях спакушаў,
Падступіцца, расступіцца вечнасць
І згіне ў ёй, цёмнай, душа.**

**Душа, ўзгадаваная целам,
Згарбелым пад ношкай жыцця...
Я гэтага, ўрэшце, хацела,
Мне гэта мой лёс абяцаў?**

**Не знаю. Нічога не маю
З таго, чым дагэтуль жыла,**

**А ўсё ж не прыму, не прымаю
Ні жменькі чужога святла.**

**Служыла не целу, а духу,
І справа зусім не ў цане,
Бо што ўжо там як, але скруха
Цяпер не пакіне мяне.**

□

**Адбітак поўні ў глыбіні акна,
На стылых хвалях дрогкага паветра,
То калыхаўся, то зусім знікаў
Пад сумныя, цяжкія ўздыхі ветра.**

**На кожны ўздых, на кожны гэты
ўздых,
Сцінаючыся, абмірала сэрца
Ці то ад спадзяванняў маладых,
Ці то ад прадчування блізкай смерці.**

**Канала ноч? Гукала вышыня,
Наперад знаючы развязку драмы?
Не я, маё жыццё ў чаканні дня
Малілася на крыж аконнай рамы.**

□

**Мужнасць, не пакінь мяне і ты...
Колькі той дарогі засталося,
Каб баяцца гулкай пустаты
Навакол, ужо наскрозь праз восень.**

**Хай абрынецца і, пад сабой
Пахаваўшы, нечы гнеў здаволіць,
Толькі не атрутны гэты боль,
Толькі не бяссілле перад болем!**

**Сказана: які б хто крыж ні нёс,
Сіла дадзена яго данесці...
А калі нясеш зламаны лёс?
А калі канцоў жыцця не звесці?**

**Знаю, што бязбожніца й грашу,
Болей не аплакваючы страты, —
Не патолі, а суда прашу:
Перад кім і ў чым я вінавата?**

□

**Жыццё нагадвае жыццё ў дурдоме,
Дзе кожны — цар сваёй пустой душы,
Хоць кроку не зрабіць,
каб над прадоннем
Кубло гадзюк-гадоў не зварушыць.**

**Зварушыш — распаўзаючыся, мкнуцца
Кусацца, джаліць, множыцца ўваччу.
І вось — хто смерці просіць:
«Што ж вы, людцы?!»,
Хто вушы затыкае, каб не чуць.**

**А хто, сляпы й глухі ад нараджэння,
Смяецца, дужа рады, што жыве...
О, Божа, як займець не суцяшэнне,
А сілу ўспомніць след Твой на траве?**

**Ты ж быў. Ты ж паказаў усім дарогу.
Усім — і мне...
А ўкруг — сцяна людзей,
І тоне ў гуле галасоў трывога,
І коціцца ў прадонне новы дзень.**

вымяраўся і не вызначаўся — ён быў часам сам па сабе, для мяне ж ён не існаваў.

Цяпер жа ў мяне на сцяне адрыўны каляндар і мне клопат з ім: я мушу зірнуць на яго, якое сягоння чысло, менавіта чысло, а не дзень. Чысло (сама лічба) набывае для мяне нейкае сімвалічнае, нат містычнае значэнне. Чысло глядзіць на мяне цэлы дзень, аж пакуль увечары не адарву тое чысло-лісток з календара. Але мне здаецца, што, адрываючы лісток-лічбу, я адрываю, выкрэсліваю і адзін дзень з майго жыцця. Мала таго, я заглядваю ўжо ў наступны дзень-лісток, што там, у тым лістку, мне хочацца ўжо і яго адарваць. Я падлічваю, колькі дзён засталося да канца месяца, мяркую, калі пачнецца наступны месяц, я спяшаюся жыць, каляндар падганяе мяне і ў гэтай гонцы — няўхільная думка: колькі ж тых дзён засталося табе?

Не, лепей жыць без календара, не падлічваць дні, не глядзець на чысло.

## ЦЯПЕРАШНІМІ ВАЧЫМА

### Дзесяць дзён у Мюнхене

Захацеў было вярнуцца ў мінулае — паехаў у Мюнхен, дзе я некалі пражыў не малую часціну свайго жыцця. Увечары абышоў знаёмыя мне раней мясціны. Агледзеў таксама той дом, дзе я некалі жыў разам з сваёй сям'ёй. Усё, ці бадай усё тут засталося такім, якім было калісьці. Але ўсё яно цяпер не радавала мяне, хутчэй засмучала. Тое мінулае, тое калісьці азвалася шчымлівым болем. І я зразумеў — у мінулае нельга вярнуцца, нельга вярнуцца ў тое, што было.

●

Не выглядаў ужо для мяне, як раней, і Англійскі парк у Мюнхене — мне ён падаўся нейкім усяленскім смуткам, вавілонскай вежай: парк быў перапоўнены людзьмі розных нацыянальнасцяў і расаў, пераважна моладдзю. Яна б'е ў бубен, спявае, гандлюе, чуеш чужую музыку, у тым ліку афрыканскую, а скрозь усё гэта — страчанасць, сум. Праз весялосць — сум. Яна нечага шукае, але не знаходзіць. Надыдзе вечар і яна схлыне. І парк не будзе помніць яе, стаптаны ёю. Дзе тыя жывыя німфы, што некалі панавалі ў гэтым парку? Куды яны адышлі?

●

У Тыятынэркірсе ішла якраз служба. Калі я бываю ў Мюнхене, я ніколі не мінаю яе — хаваюся ў ёй ад свету. Цяпер яна поўная людзьмі, старымі і маладымі. Адчуў яднанне немцаў: у Бозе і яднанне як нацыі, як народа. На вокліч святара адказвалі маліцвенна дружна, як адно цэлае. І міжволі падумалася: калі такое яднанне наступіць у нас, беларусаў?

●

Адсюль, з Нямеччыны, думаю пра сваю Беларусь і якой жа ніякай, даруйце, яна выглядае адсюль: у ёй няма яшчэ свайго духу, свайго розуму, інтэлектуальнай моцы, веры ў сябе. У вачах маіх яна заслоненая Чарнобылем. І гэта не песімізм, гэта — закаханасць да яе.

●

Мае думкі пераважна адмоўныя. Я не ўмею сцвярджаць, толькі — адмаўляць. Я адмоўны чалавек.

●

Цяпер у Нямеччыне забастоўка. Цікава — немцы і ў забастоўцы дысцыплінаваныя: абвясцілі яе — і яны бастуюць, загадалі перапыніць — і яны яе спыняюць. Класічныя выканаўцы загадаў!

●

Усюды цяжка, але тут, у гэтай краіне, яшчэ цяжэй утрымліваць сваю, індывідуальную самастойнасць, суверэннасць: вялікая спакуса паддацца ўплыву добраўпарадкаванай краіны пагражае табе. Страціў гэтую суверэннасць — і цябе няма.

●

Фактычна я не ведаю ніякай мовы, апрача беларускай. Англійскую, нямецкую нібы і ведаю — нават перакладаю з гэтых моў, але застаюцца яны для мяне чужымі, малазразумелымі. Ды што там англійская, нямецкая? Нават расейская застаецца ўжо на ўзбочча. Я застаюся фактычна толькі з адной мовай — беларускай. Яна сталася ўжо маёй доляй.

●

Возера Штанберг. Гэта недалёка ад Мюнхена. Набярэжная застаўлена лаўкамі. Яны ўсе занятыя старымі. Божа мой, колькі тут старых! Толькі зрэдку прадэфілююць маладыя дзяўчаты ў ультракароткіх сукенках. Жудасны кантраст: тыя, што адыходзяць, і тыя, што пруць ва ўсю! Я паглынуты ўсім тым, што бачу, але праз гэтае «бачу» мігцяць у падсведамасці вобразы-постаці і засланяюць тое, што бачу,— мігціць мой літаратурны Менск: Сачанкі, Савік, Хомчанка, Тычка, Чыгрынаў, Андраюк, Брыль, Каржанеўская. Я ўжо не на возеры Штанберг, я ў нейкім іншым вымярэнні — плыву. Думкі лёгкія, не творчыя і мне з імі добра, такімі.

●

Не думаў, што мая знаёмая, Анналіза, такая рашучая, адважная, хуткая, вострая, гатовая загаварыць з кім хочаш. У мяне нават варухнулася непрыязь да яе. Зрэшты, яна грае. Гэтай ігрою-гульнёю засланяе сябе, сапраўдную. У яе, жанчыны, ёсць і нешта — кінулася толькі цяпер — ад мужчынскага характару. Ды я магу і памыляцца. Я невялікі знаўца жанчын: маё захапленне імі пазбаўляе мяне такой здольнасці.

●

Цяпер ужо пэўна: у Іспанію не палячу. Баюся туды ляцець: не веру самалёту.

●

Перад ад'ездам пайшоў на канцэрт, у Геркулесзал. У праграме: Давід, Бетховен, Моцарт, Вагнер. Магічнае ўздзеянне музыкі. Пад уплывам яе перастаю быць ранейшым. На перапынку чытаю ў праграме, што сказаў пра сябе Бетховен: «Я выношваю свае думкі доўга, часам вельмі доўга перад тым, як іх запісаць. Абраная мной тэма не пакідае мяне — часамі застаецца праз гады. Перад маімі вачыма паўстаюць вобразы, я іх бачу, чую, гатовы схапіць іх рукамі, яны плывуць, як ліцце, і мне застаецца іх толькі запісаць. У паэта гэта перадаецца ў слове, у мяне — у гуку, тоне. Запытаецеся, адкуль я бяру свае ідэі? З пэўнасцю не магу адказаць. Яны прыходзяць непаклiканыя. Яны ўзнікаюць у мяне падчас прагулкі, у начной цішы, раніцаю, у лесе, ў прыродзе, ператвараюцца ў гукі, тыя гукі, тоны звіняць, бунтуюць, гамоняць, аж пакуль не застынуць у нотах».

Чытаю далей у праграме пра Моцарта: «Ці не мусяць змоўкнуць усякія прамовы, усякія словы перад музыкай, перад узнёслым тонам, перад тым **Нешта**, што цябе заварожвае, маніць, забірае ўсяго. У гэтым **Нешта** няма нічога выразнага, нічога такога, што можна было б вытлумачыць рацыянальна, і дзіву даешся, адкуль яно ўзнікае, адкуль гэты чар музыкі Моцарта, што вось ужо 200 год зачароўвае нас. Здаецца, што сышоў сам Бог Апалон. Тут чысціня, узнёсласць духу, тут пераадоленне сілы цяжару. Тут нічога няма рэвалюцыйнага: усё грубае адчужана, знята лёгкай рукой. Чыя тут перамога? Смерці над жыццём? Жыцця над смерцю? Гэта антычны трыумф прыгажосці над недастатковасцю, у выніку чаго недасягальнае робіцца дасягальным, дасканалае ўзвышаецца на апалонавых крылах. Мы ў палоне найбольш чалавечага, найбольш гуманнага».

●

Хацеў наведаць іншыя канцэрты — гэта мая жарсць, — але ў мяне не хапае ўжо часу: трэба вяртацца дахаты, дні мае ў Мюнхене абрываюцца. Я не паспеў ужыцца ў знаёмае мне мінулае. Не паспеў зведаць нязведанае. Вунь далёка на далягля дзе ўзвышаюцца перада мною — я бачу іх з трынаццатага паверха — магутныя горы, дзе-нідзе яшчэ заснежаныя. Яны клічуць мяне вярнуцца да іх. Вяршынямі, здаецца, ківаюць мне, дрыготкія ў сонечным бляску. Гэта быў бы час маіх вандровак у гарах, майго роздуму і ўзвышэння. Але ў мяне няма ўжо часу.

Змоўкнуць для мяне званы касцёлаў у Мюнхене. Не ўчую музыкі арганаў. На Пляцы Марыі з далоні не буду карміць галубоў.

Шкада.

*1992 г.*

## УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

***Ігар Пракаповіч нарадзіўся і настаўнічае ў Паставах — выкладае геаграфію ў СШ N 1. Пасля заканчэння БДУ ён працаваў у складзе навуковай экспедыцыі, аб'ездзіў амаль усю Беларусь. Цікавіцца краязнаўствам, тапанімікай. Быў удзельнікам рэспубліканскага семінара маладых паэтаў.***



**Ігар ПРАКАПОВІЧ**

□

**Сонца ўзыходзіць пазней і пазней,
З птушак вароны адны засталіся,
Яблыкі ўсе на зямлю абтрасліся,
Многа расстанняў і мала надзей.**

**Кіне зіма свой лядак у ваду,
Вея ля хат заскуголіць тужліва,
Рысачкі крокаў працягнуцца крыва
Ў снежныя мроі, нібыта ў бяду.**

**Роспачы крык як у ваце аглух.
Вечнасць адрэзана белай сцяною.
Толькі адно засталося са мною —
Змораны, але не скораны Дух...**

## ДЗЕ ТАЯ КРАІНА?

**Памяць...
Чырвоная стужка на белым фоне,
Як кропля крыві на скуры.
Яна — пекла.
І яна — паратунак.
Лычы здраднікаў вытыркаюцца з бруду.
Лікі святых беларускіх
праплываюць сярод аблачын.
Згорбленая бабулька-Доля
безнадзейна блукае на мяжы
Расеі і Польшчы.
Дзе тая краіна, што шукала шчасця?
Дзе той народ, які абвясціў, што ідзе?**

□

**Ля возера Доўжа — гаючая ціша,
Мядовыя травы і водар духмяны.
Лянівы вятрыска люстэрка калыша,
З балотаў да возера льюцца туманы.**

**У гэтую казку ўвойдзе не кожны,
Вячэрнія песні не кожны пачуе.
О як жа тут пахнуць смалістыя сосны!
О як тут салоўка над песняй шчыруе!**

**Хай нехта не любіць прыгожага слова,
Хай нехта прывык да праклёнцаў і матаў,
А я ачышчаюся пахам вясновым,
Я веру людзям, я сябрамі багаты.**

**На чыстыя гукі душа адгукнецца
І здасца жыццё наша годным і вольным.
... Над возерам Доўжа адкрытае сэрца
Ляціць, нібы птушка, пад зорным
вуголлем.**

**Мінаюць надзеі, праходзяць жанчыны.
Ад полымя плавяцца кволыя душы.
Адзін спадарожнік мой верны — Айчына
Не здрадзіць, не кіне, не выстудзіць
сцюжай.**

**Я сумны шукальнік зняважаных ісцін
Кахання і шчасця, сумлення і волі.
Я вельмі наіўны — збіраюся выйсці
Да нейкіх святых абсалютных гармоній.**

**Ніхто не знайшоў, дык і я — не апошні.
Жыццё — таямніца з чароўнай усмешкай.
Іду па дарозе... Абапал, як пожня,
Ляжыць невядомая роўнядзь бязмежжа.**

*г.Паставы*

ФЕСТЫВАЛІ

# ЦІ ЁСЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ СЛОВА «ДЖАЗ»?

***У гісторыі джазавых фестываляў, што адбываліся ў Мінску, былі самыя розныя канцэрты, але калі казаць наогул, дык у апошнія гады можна назіраць паступовае выцясненне джаза з філарманічнай сцэны і зніжэнне аўтарытэту фестывалю. Замест таго, каб умацоўваць яго ўглыб і ўшыр, кіраўніцтва Беларускай дзяржаўнай філармоніі праяўляе куды большае жаданне прыгожа паразважаць пра значэнне джаза і нават паслухаць яго, але толькі ў тым выпадку, калі нехта возьме і арганізуе фестываль. І калі б не рэжысёр канцэртнай залы В.Уколаў, сёлета мы б не здолелі паслухаць і тры (толькі тры!) канцэрты джаза — тое, што засталося ад некалі саліднага фестывалю.***

Разам з тым сёлета сярод трох канцэртаў быў адзін, які, на маю думку, зрабіў у музычным свеце Беларусі істотныя карэктывы. Нагадаю: год назад з беларускіх калектываў у трох канцэртах удзельнічаў толькі Дзяржаўны канцэртны аркестр. Сёлета аркестр не выступаў, затое спадар М.Фінберг выставіў аж чатыры малыя інструментальныя склады, што працуюць пры аркестры. Такім чынам, Дні джаза «Студзень-93» адкрыліся выступленнем пяці (!) беларускіх джазавых калектываў і саліста А.Пыталева. Калі ж дадаць, што ў апошнім канцэрце сваю праграму паказала і група «Камерата», дык можна сцвярджаць, што быў зроблены нейкі крок у напрамку арганізацыі на базе філармоніі рэгулярнага фестывалю нацыянальнага джаза, адкрытага для ўдзелу музыкантаў з суседніх краін і Еўропы.

А пакуль да гэтага дойдзе справа, спынюся на тым, што прагучала на канцэрце, слушна названым канцэртам майстроў беларускага джаза. Так, у асноўным выступалі дасведчаныя выканаўцы, ды разам з тым канцэрт яскрава засведчыў, колькі за апошні час з'явілася ў нас сапраўды таленавітых імправізатараў, ужо сёння здольных прапанаваць уласнае адметнае бачанне джазавай музыкі.

У Мінскім джаз-квартэце якраз і спалучыліся вопыт і здаровыя амбіцыі. Лідэра квартэта з крыху авансавай назвай Яўгена Уладзімірава мінскія аматары джаза ведалі ўжо дастаткова даўно як музыканта-фанатыка, апантанага трамбаніста, які жыве адным — джазам. Сёння ён далучыў да сябе яшчэ больш маладых музыкантаў, сярод якіх вылучаецца К.Гарачы. Гэты піяніст — такое ўражанне — сам ужо гатовы зрабіцца лідэрам уласнага калектыву і сказаць сваё слова той музыкай, якую на Беларусі, здаецца, яшчэ ніхто і не выконвае. Што да Я.Уладзімірава, дык ягоны квартэт можа годна глядзецца на кожным з джаз-фестываляў, што адбываюцца ў Прыбалтыцы і ў гарадах СНД. Аўтарскі джаз лідэра квартэта — цікавы, пераканальны, глыбокі матэрыял, які лёгка знайшоў водгук у слухачоў.

Пачаў жа канцэрт дыксіленд «Рэнесанс» М.Лапцёнка. Вось і яшчэ адзін факт, які сведчыць пра тое, што фестываль нацыянальнага джаза на сцэне філармоніі, магчыма, адбудзецца, але не хутка. «Рэнесанс» існуе ўжо 16 гадоў, але гэтае выступленне для дыксіленда (дарэчы, не самае лепшае з тых, што я чуў) было для яго ў філармоніі **першым**. Лягчэй за ўсё разважаць пра перспектывы беларускай джазавай музыкі. Цяжэй за ўсё забяспечыць жыццядзейнасць калектываў і выканаўцаў, даючы ім хоць самае элементарнае — магчымасць паказаць сябе на сцэне.

Год назад на фестывалі літоўскага джаза ў Бірштанасе, куды беларускіх джазменаў запрашаюць абавязкова, я быў сведкам таго, як літоўская публіка прымусіла бісіраваць нашага піяніста Андрэя Пыталева. Біс у Бірштанасе наогул выключэнне з рэгламенту, тым не менш... Андрэй з вялікім поспехам выступіў на фестывалях у Ніжнім Ноўгарадзе, Пецярбурзе, але ці шмат людзей ведае яго ў



*Выступае Мінскі джаз-квартэт -- Я.Уладзіміраў (трамбон), С.Шутро (бас-гітара)*

Мінску, дзе піяніст мае ўжо ўласных вучняў? Дык не — І.Брыль можа выступіць з уласнымі вучнямі, а Пыталеў — пачакае. Дзякаваць Богу, што ён выступіў хоць сола. Пластычнасць, настрой, гнуткі джазавы піянізм, змястоўнасць музыкі — пералічэнне можна працягваць. Ды вось што думаю: а што было б цяпер з Андрэем, калі б гадоў з пяць назад не ўдалося пераканаць арганізатараў канцэрта дазволіць яму выйсці на сцэну літаральна на пятнаццаць хвілін?

З асаблівай нецярплівасцю чакалі выступленне квартэта найбольш, хіба, заслужанага ў беларускім джазе музыканта Аркадзя Эскіна. Ён застаўся верны некалі абранай музыцы — мэйнстрыму, класічнаму джазу, і мне было проста цікава назіраць, як хваляваўся перад выхадам на сцэну гэты музыкант, які пабачыў, здаецца, усё і ўся. Ён здолеў стварыць атмасферу поўнай утульнасці, у якую з задавальненнем паглыбіліся і яговыя партнёры, а ад усяго выступлення калектыву засталося такое ж уражанне, як ад глытка добрага віна, якое, на жаль, цяпер цяжка адшукаць нават у камерцыйных кіёсках...

Дзяржаўны канцэртны аркестр быў прадстаўлены яшчэ двума калектывамі. Група Ігара Сацэвіча — цалкам новая з'ява на небасхіле беларускага джаза, аднак канцэрт не сапсавала. Наадварот, надала яму пэўную перспектыву, таму што прагучала музыка сучасная. Група працуе згодна даўно вядомай у Еўропе схеме, калі лідэр у залежнасці ад пастаўленай задачы падбірае сабе партнёраў. Ды ці то партнёраў было крыху больш, чым трэба, ці то выступленне было такое кароткае, але вобраз групы застаўся трошкі размыты. Разам з тым адзначу ўпэўненае валоданне стылістыкай, схільнасць паказаць матэрыял, што нарадзіўся непасрэдна ў калектыве.

Нарэшце, «Пяты вугал» — таксама калектыў энігматычнага плана. На гэты раз ягоным лідэрам выступіў Барыс Бернштэйн, а праграма ў цэлым была падабрана з прыцэлам на Валерыя Дайнеку, які ў якасці джазавага вакаліста ўпершыню паказаўся ў Мінску на вялікай сцэне. Грунтоўнасць і стылёвасць — вось два азначэнні, якія найперш прыходзяць у галаву, калі згадваю выступленне «Пятага вугла» («Пятага кута»?). Уладзімір Ткачэнка, які яшчэ не здолеў адысці ад напружанай працы ў Італіі, упэўнена выканаў «Караван» і крыху збіўся пры выкананні складанай Прэлюдыі до мінор Баха. Але ўжо тое, што ён выбраў такі віртуозны твор для ўвасаблення з дапамогай рэдкай гітарнай тэхнікі, заслугоўвае ўсялякай увагі. А Валерый Дайнека... Што ж, ён у які ўжо раз даказаў, што з'яўляецца універсальным спеваком, здольным узняць практычна любы матэрыял, а тым больш у такой прыемнай кампаніі.

Нарэшце, «Камерата», якая закрывала Дні джаза. Для мяне гэтае выступленне было ўзрушэннем, нягледзячы на тое, што Алег Шыкуноў зноў застаўся незадаволены гучаннем. Знутры, магчыма, яно відаць лепш. Але што могуць зрабіць аднымі толькі галасамі шэсць чалавек! Найбольш бліскучы момант — п'еса ў выразным індыйскім настроі, калі «Камерата» віртуозна намалявала ўсю палітру гучан-

СПАДЧЫНА

# ПРЫГАДАЕМ РЫГОРА САМОХІНА

У справаздачы прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады прафесара Радаслава Астроўскага на ІІ Усебеларускім Кангрэсе адзначалася, што «беларускімі кампазітарамі напісана і ўлучана ў рэпертуар звыш 60 новых музычных твораў, сярод іх балет кампазітара А.Туранкова «У лясным гушчары». Заканчваюцца: кампазітарам М.Шчагловым беларуская аперэта «З выраю» /на лібрэта Н.Арсеневай/, кампазітарам М.Равенскім аперэта «Залёты» /на лібрэта Д.Марцінкевіча/, кампазітарам М.Івановым — дзіцячая опера «Мухамор», кампазітарам Р.Самохіным — новая сімфанічная паэма і г.д.». А ў нарысе Міколы Куліковіча-Шчаглова «Савецкая беларуская опера» /«Спадчына», 1991, N 6/ прачытаў: «Кантракты, прыватныя парады, уласнае жаданне пабуджалі далучыцца да опернага творства такіх кампазітараў, як Туранкоў, Цікоцкі, Шчаглоў, Залатароў, Багатыроў, Самохін, Палонскі ды Іваноў». Тут ёсць і такія радкі: «...падчас нямецкай акупацыі Беларусі /1941—1944/, у цяжкіх варунках ваеннага часу, былі напісаныя наступныя оперы: «На Купалле» Туранкова, «Лясное возера» й «Усяслаў Чарадзей» Шчаглова. «Залёты» Равенскага й «Каваль-ваявода» М.Самохіна былі ў працэсе напісання».

З усіх пералічаных беларускіх кампазітараў прозвішча, відаць, толькі аднаго застаецца ў пасляваенныя гады загадкай. Гэта імя кампазітара Рыгора Самохіна.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Рыгор Самохін застаўся ў акупаваным немцамі Мінску. Тут ён арганізаваў і ўзначаліў цымбальны ансамбль. Працаваў не толькі як умелы і здольны кіраўнік, але і сам пісаў музычныя творы, у якіх трапна выкарыстоўваў гукавыя фарбы і асаблівасці тэмбру цымбалаў. Самы буйны твор Р.Самохіна ў гэтым жанры — «Сюіта для цымбальнага ансамбля». Яна складаецца з чатырох частак, кожная з якіх — самастойны музычны вобраз.

Кампазітарская дзейнасць Рыгора Самохіна была шырокая і разнастайная: шматлікія апрацоўкі беларускіх народных песень, рамансы на словы беларускіх паэтаў, Капрычыо, Уверцюра, Беларуская рапсодыя, дзве Сюіты на тэмы беларускіх народных песень для аркестраў народных інструментаў, Трыо-фантазія для скрыпкі, віяланчэлі і фартэпіяна. Тэма з варыяцыямі для сімфанічнага аркестра, і Сімфонія...

Беларускую народную песню ён добра ведаў і ўмеў апрацоўваць для голасу. У гэтых апрацоўках заўсёды імкнуўся захаваць своеасаблівасць народных мелодый, знаходзячы адпаведныя сродкі гарманізацыі, якія не перагружалі мелодыю чужымі ёй гучаннямі. Адметная аранжыровачная фактура, напрыклад, у напевах «Ды ўжо сонейка», «Ой пад дубам». «Я ўчора п'яна была», «Каліна-малінушка» і інш.

А цяпер — пра жыццёвы шлях Р.Самохіна. Нарадзіўся ў 1911 годзе ў Горках Магілёўскай вобласці ў сям'і агранома. Пачатковую адукацыю атрымаў у Горацкай царкоўнапрыходскай школе, пасля ў Аршанскай сямігодцы. Менавіта ў Оршу ягонага бацьку перавялі на працу, сюды пераехала і ўся сям'я



Самохіных. На жаль, музычнае жыццё тут амаль адсутнічала, толькі было некалькі музычных самадзейных гурткоў, якія і наведваў Рыгор.

У 1928 г. ён едзе ў Мінск з жаданнем паступіць на аддзяленне тэорыі і кампазіцыі Мінскага музычнага тэхнікума. Але ведаў было мала, і Р.Самохіна залічылі толькі ў клас кантрабасу прафесара Славачэўскага. Вучоба давалася яму лёгка, таму хутка маладому музыканту дазволілі адначасова наведваць і клас кампазіцыі прафесара М.Аладава. У 1932 годзе ў Мінску адкрываецца кансерваторыя, і Рыгора Самохіна пераводзяць туды ў клас кампазіцыі прафесара В.Залатарова.

Атрымаўшы добрую музычную адукацыю, Р.Самохін пачаў працаваць пры Мінскім радыё кіраўніком домравага ансамбля і ў сімфанічным аркестры опернай студыі як кантрабасіст. Пасля — у філармоніі як дырыжор аркестра народных інструментаў...

Пасля вайны Рыгор Самохін жыў на эміграцыі, а, мабыць, яшчэ і жыве. Там, кажуць, напісаў дзіцячую оперу,, іншыя музычныя творы. Хочацца спадзявацца, што пасля сённяшняй публікацыі адгукнецца той, хто што-кольвек ведае пра гэтага беларускага кампазітара.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

МУЗЫКА

# ЦІ ПАТРЭБНЫ СЁННЯ ДЗЯРЖЗАКАЗ?

## З нагоды прэм'еры оперы «Князь Наваградскі»

Пытанне гэтае ўзнікла ў кулуарах Дзяржаўнага тэатра оперы і балета падчас прэм'еры «Князя Наваградскага»... Калі нараджаецца значная грамадска-мастацкая з'ява, магчыма, тады і таму ўсім хочацца быць бліжэй да стваральнікаў гэтай з'явы, зведаць пачуццё далучанасці да падзеі. І мне, як прадстаўніку дзяржаўнага органа, карціць сказаць: «Напачатку быў дзяржзаказ». У той жа час, за многія гады дзяржаўная рэгламентацыя гэтак уелася ва ўсе поры духоўнага жыцця, што ўзнікае натуральная падазронасць: а ці можа па заказе з'яўляцца таленавіты твор мастацтва, ці не ёсць праца па заказе гэткім прыхаваным самазабойствам Мастака?

Размова з нагоды апошняй опернай прэм'еры дазваляе крыху паразважаць на гэтую тэму, тым больш, што ў межах опернага жанру ёсць і агульныя для мастацтва заканамернасці, і тая спецыфіка формы грамадскага самапазнання, якая дазваляе адказаць на гэтае далёка не рытарычнае пытанне.

**Па-першае, мастак — таксама чалавек.** Уся гісторыя опернага мастацтва сведчыць /у пераважнай большасці/ пра імкненне мастака-кампазітара атрымаць заказ ад тэатра, каб можна было на працягу некалькіх месяцаў, не турбуючыся пра хлеб надзённы, любіць ды паміраць разам з героямі свайго будучага твора. Таму заказ — гэта нармальная, натуральная форма авансавання творчай працы.

Аднак мы на прэм'еры сёння, увесну 1993-га, і за сценамі тэатральнага будынка не шчыруюць ні спонсарства, ні мецэнацтва, а бушуе інфляцыя. Так што выказнікам грамадскай патрэбы ў мастацкім самапазнанні праз такі надзвычай складаны і дарагі жанр, як опера, — г.зн. заказчыкам музыкі можа быць /пакуль што!/ толькі дзяржава.

**Па-другое, дзяржаўны заказ — гэта таксама палітыка.** Гісторыя оперы «Князь Наваградскі» пачыналася з п'есы Л.Пракопчыка, якую паставіў Гродзенскі драматычны тэатр. Затым тую п'есу «невыпадкова» прапанавалі пагартаць маладому гродзенскаму кампазітару А.Бандарэнку. У яго ўжо быў напісаны шэраг твораў высокага духоўнага ладу, склаўся самабытны, выразны музычны стыль. Тэмай, закранутай у «Князі Наваградскім», не магла не заразіцца В.Іпатава з яе тонкім паэтычным дарам і самаадданым стаўленнем да нацыянальнай гісторыі. І гэтаксама, зусім невыпадкова, пазнаёміўшыся з першымі эскізамі будучай оперы, захоплена ўзяўся за матэрыял С.Штэйн і, нягледзячы на ўсе звыклыя ўнутрытэатральныя перашкоды, здаў оперу «пад ключ». Таму што ён не толькі буйны майстра опернай рэжысуры, а і бліскучы спрактыкаваны арганізатар.

Вось у гэтай «невыпадковасці» — два важныя прынцыпы палітыкі ў галіне куль-

**ВІНШУЕМ!**

5 красавіка споўнілася 50 гадоў паэту Мар'яну Дуксу. Калектыў штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» віншуе Мар'яна Мікалаевіча, аднаго са сваіх пастаянных аўтараў, з днём нараджэння, жадае яму творчага натхнення і паэтычных адкрыццяў.



Мар'ян ДУКСА

## МАДОННА Ў БУФЕЦЕ

Стаміліся ад гаварыльні ўсе мы.
Як вострыя косткі ў горле — праблемы.
«Ах, хопіць! — бурчаць паэтычныя снобы. —
Паслухаем лепей фантазіі Глобы
ці штосьці пад Рыльке,
пад Блока,
пад Фета...»
Не хочаце лірыкі чыстай з буфета?
Тут можна за стосік нікчэмных паперак
узяць кілаграм навагодніх цукерак...
Стаяла ў чарзе незямная мадонна,
трымаючы неба у зрэнках бяздонных.
Свяцілася, быццам святая нядзеля —
нібыта чакала яна Рафаэля.
Вось прыйдзе, вось зойдзе мастак геніяльны
і воблік яе пакладзе абаяльны
на аркуш паперы, прасторны і чысты —
і ўспыхне адбітак прывабна-святлісты:
і спелыя свежыя вуснаў суніцы,
і сонечна-дымны пагляд чараўніцы...
І ў гэта імгненне зашчоўкала ў касе —
і бітва чарговая тут пачалася...
У наступ ішлі дзецюкі-джэнтльмены,
напружыўшы біцэпсы, нібы бязмены.
Ім, пэўна, здалося ў такія хвіліны:
мо Зімні штурмуюць, мо сцены Берліна.
Паколькі разбіты варожыя стаўкі,
час выпаў грудзямі ісці на прылаўкі.
Мы ж любім, як любіць род зэкаўскі турмы,
штодзённыя неверагодныя штурмы.
У іх і раней сваю злосць мы тапілі,
і зараз — ад шокавай тэрапіі...
«Дэсантнікі», вы па якому закону
далёка убок адпіхнулі мадонну?
Вам так падабаецца грубая сіла,
а ёй вось цукерак усё ж не хапіла.
Стаіць яна вунь, пазіраючы хмура,
твар болей не ззяе, і згасла аура...
Пагляд не іскрыцца, ён сумна цвярозы,
і ледзьве не коцяцца першыя слёзы.
Хіба ў яе воблік цяпер ідэальны?
Няхай не прыходзіць мастак геніяльны.
Не хоча яна у такія часіны
пакінуць нашчадкам адчай магазінны.

●

Снуюць наўкруг дзяўчаткі порсткія,
загорнутыя ў курткі польскія.
Навокал світэры нямецкія,
скуранкі чорныя турэцкія.
Плывуць, раздзьмутыя ўбакі,
кітайскія пухавікі.
А джынсы — процьма іх! —
тайваньскія.
Красоўкі стракацяць германскія...
А дзе вы, цуда-чаравікі,
што вырабіў наш Мінск вялікі?
А дзе ж вы, віцебскія боцікі,
што лётаюць у танцы борздзенька?
Дзе туфелькі, скажыце, лідскія,
што аж люстэркамі пабліскваюць?
Дзе ж вы, сукенкі гожа-вузкія
ўсё нашы — пінскія, бабруйскія?
А дзе ж вы, футры маладзечанскія
для ўсіх паненак маладзенькіх?
Дзе блюзкі зыркія і людскія —
барысаўскія і навагрудскія?
Ды намі ж не такое зграна —
няўжо ні крапелькі не сорамна,
гаспадары айчынна-нашыя?
Карміць вас нельга нават кашаю!
Няўжо ні трошачкі не мучыць
вас лідэрства чужой анучы?
Няўжо ў Гародні альбо ў Оршы
майстры на сто працэнтаў горшыя?
Усе, хто ў крэслах мяккіх туліцца,
вы хоць бываеце на вуліцы?
Вы зараслі зусім паперамі,
а мы ўраслі ў чужое пер'е.
Ляжаць паперы тыя Альпамі,
а мы вось-вось — і станем малпамі!

## ЛАРЫСА ГЕНІЮШ У ПРАЗЕ

Ларыса Геніюш у Празе...
Ідзе, гуллівая, ў берэце.
Душа і цела ў поўным цвеце.
Такая шчасная — на разе...
Ларыса Геніюш у Празе.
Заліта сонцам брукаванка.
Лёс зверху ззяе, як заранка.
Бяду не трэба мець на ўвазе.
Ларыса Геніюш у Празе.
А збоку — чалавек найлепшы.
Красуюцца на вуснах вершы,
дзе жаўранкі у кожным сказе.
Спакой і ціша — наабапал,
людской даверлівасці свята.
А фюрэр быў далекавата,
яшчэ далей — крамлёўскі д'ябал.
Яшчэ з радні усе жывыя,
сярпом не жнуцца душы з танка...
Ах, сонечная брукаванка,
не йдзі, не йдзі ў саракавыя.
Застынь, застанься без працягу
і грэй, цалуй людскія ногі —
не ўліся ў страшную дарогу,
што дойдзе да варот ГУЛАГа.
Яшчэ пабудзь добразычлівай,
спрыяй жа беларускай Музе —
бяжы й бяжы па светлым крузе
з Ларысай Геніюш шчаслівай.

# АСАНА МІНУЛАМУ І ЯГО ПРАВАДЫРАМ?

*(Пачатак на стар. 5)*

карыстаўся аўтарытэтам.

У П.Машэрава было ўсё — і добрае, і благое. І кадры ён і хваліў, і сек, ды так, што ажно гай шумеў; «кадры» сядзелі ў зале ў час яго выступлення, як мышы пад венікам.

Мне даводзілася неаднаразова бачыць Пятра Міронавіча «в деле», слухаць яго выступленні на сходах партыйна-гаспадарчага актыву, на розных нарадах, семінарах. Размову ён вёў далёка не ў мажорным, лагодным тоне.

Прыгадваецца, як у Брэсце дзесьці ў пачатку 70-х гадоў праходзіў семінар-нарада па пытаннях «новай аграрнай палітыкі» партыі. Выступалі многія практыкі, вучоныя з Мінска. Вялікую прамову сказаў і П.Машэраў. Як звычайна, кагосьці хваліў, некага крытыкаваў. І вось у часе перапынку адзін старшыня калгаса (не буду называць яго прозвішча, жыве ён зараз у Брэсце) падышоў да Пятра Міронавіча і сказаў, што ў яго прамове дапушчаны недакладнасці. Разгарэлася спрэчка. Вакол іх сабраўся гурт. П.Машэраў даў тэрміновае ўказанне свайму памочніку праверыць факты. Не ведаю, на чыім баку была праўда, але хутка стала вядома, што той старшыня ўжо не працуе ў калгасе, яго перавялі ў другое месца.

Той семінар шырока асвятлялі сродкі масавай інфармацыі. Усё, што датычылася асобы першага сакратара ЦК КПБ, давалася для публікацыі толькі з яго дазволу. Такі дазвол атрымалі і мы, журналісты абласнога радыё і тэлебачання. Аднак у час падрыхтоўкі рэпартажу рэдактары трохі скарацілі тэкст, бо ён не супадаў з відэарадам, з кінастужкай. На бяду, перадачу глядзеў Машэраў, ён абурыўся, што тэкст далі скарочаны. Кіраўнікоў студыі і аўтараў рэпартажу паклікалі ў абком партыі, запатрабавалі тлумачэнняў, выпытвалі, хто такі смелы, што самачынна стаў скарачаць тэкст, зрабілі моцнае «ўнушэнне», строга папярэдзілі. Вось у такіх умовах даводзілася працаваць нам, журналістам, а мы ж таксама былі «кадры».

Гаворачы пра кадры, хачу звярнуць увагу на адну вельмі важную, прынцыповую пазіцыю, якая замоўчваецца. У час Машэрава, да яго і пасля яго, амаль усю вышэйшую партыйную і дзяржаўную эліту Савецкай Беларусі складалі ўраджэнцы дзвюх абласцей — Віцебскай і Гомельскай. Казлоў, Мазураў, Машэраў, Зімянін, Кісялёў, Клімаў, Аксёнаў, Сурганаў, Бровікаў, Палякоў, Слюнькоў, Дземянцей, Малафееў — усе гэтыя вышэйшыя кіраўнікі прадстаўлялі гомельска-віцебскі клан. У апарат ЦК КПБ ураджэнцаў Заходняй Беларусі, за рэдкім выключэннем, не пускалі. За больш чым 50 гадоў пасля ўз'яднання толькі аднаму ўраджэнцу Заходняй Беларусі С.Прытыцкаму ўдалося прабіцца на пасаду сакратара ЦК КПБ. Тое ж было і ў Савеце Міністраў, дзе цалкам верхаводзілі ўраджэнцы Гомельшчыны і Віцебшчыны. У Брэсцкай і Гродзенскай абласцях за ўвесь час ні разу не выбіраўся першым сакратаром абкома партыі выхадзец з Заходняй Беларусі. П.Машэраў ні на ёту не адступаў ад гэтай традыцыі, падбіраў і вылучаў кадры на высокія кіруючыя пасады па зямляцкім прынцыпе.

Спрабуючы павысіць імідж Пятра Міронавіча, журналісты В.Драгавец і У.Вялічка ў фармулёўцы сваіх пытанняў падкрэсліваюць яго «высокую культуру», «бясспрэчную духоўную перавагу над фаварытамі старэючага генсека» (Л.Брэжнева), намякаюць на нейкі міфічны «крамлёўскі холад» да П.Машэрава. Дарэмна вы гэта, спадары! Навошта валіць усё на Брэжнева і яго «фаварытаў»! Назавіце хоць адзін факт, калі крамлёўскае кіраўніцтва «холадна» адносілася да Пятра Міронавіча, і, наадварот, калі П.Машэраў праяўляў «нелаяльнасць» да Масквы? Ды і што, Брэжнеў усё старэў, а П.Машэраў заставаўся маладым, яго «не браў» час? П.Машэраў быў звычайным, тыповым, ні лепшым, ні горшым, чым іншыя кіраўнікі такога рангу, і не трэба ніякіх нацяжак, не трэба рабіць з яго культу. Ён быў закончаным прадуктам свайго складанага, драматычнага часу, той сістэмы, якой пісаліся вершы і оды, якую ўслаўлялі, як толькі маглі. Ён не мог і не хацеў перайначваць гэтую сістэму, беззапаветна служыў ёй кожнай кропляй сваёй крыві, кожнай сваёй клеткай. За гэта яго не трэба ні хваліць, ні асуджаць. Усе мы былі рабамі гэтай сістэмы, і ўсе мы імкнуліся ёй служыць бездакорна кожны на сваім месцы, пакуль не зайшлі ў тупік. Сістэма доўгі час была мацней за нас. Абставіны часта мацнейшыя за чалавека. Я не ўпэўнены, што кожны з нас, апынуўшыся на месцы П.Машэрава, дзейнічаў бы лепшым чынам. Гэтаксама абараняў бы сацыялізм і савецкую ўладу з усіх сіл.

Раней нас вучылі любіць будучыню, цяпер — мінулае. Гісторыя дала нам унікальны шанц глянуць па-новаму на наша мінулае, ацаніць яго без ранейшай апалагетыкі, зняўшы ідэалагічныя шоры. Гісторыю не перапішаш, ад мінулага не адмовішся, яно было з намі і будзе. Мінулае трэба цвяроза пераасэнсаваць.

У савецкі перыяд было шмат гераічнага і трагічнага. У нас былі светлыя, казачныя ідэалы. Мы з дзіцячай наіўнасцю верылі ў «бязвоблачную будучыню», апантана, безразважна крочылі шматмільённым гуртам да «ззяючых вяршынь камунізму». А вяршыні гэтыя, чым больш мы ішлі, тым больш ад нас аддаляліся. У імя гэтай, па ўсім відаць, утапічнай, ідэі савецкае грамадства прынесла велізарныя людскія і матэрыяльныя ахвяры. Дзесяткі мільёнаў людзей склалі свае галовы ў барацьбе за савецкую ўладу. Чаго яны дамагліся, якое грамадства пабудавалі, якую ўладу абаранялі? Народную, блізкую і дарагую людзям? У нас была жорсткая, далёка не народная, таталітарна-аўтарытарная ўлада, у эпіцэнтры якой знаходзілася КПСС. Нягледзячы на палітычную і эканамічную несвабоду, народ будаваў, выпускаў машыны, вырошчваў збожжа, вучыўся. Мы стварылі гіганцкія прадукцыйныя сілы, першымі паслалі чалавека ў космас, мелі самую магутную ў свеце, аснашчаную сучасным узбраеннем, добра абучаную, вымуштраваную армію, а масы народа жылі бедна, адчувалі сябе няўпэўнена і няўтульна. Крычалі на ўвесь свет, што ў нас «самы прагрэсіўны лад», і ў той жа час павесілі «жалезную заслону», каб ні да нас, ні ад нас ніхто не збег. Савецкая ўлада не вырашыла аніводнага лозунга, з якім ішлі на барыкады рэвалюцыянеры 1917 года.

Сёння, расстаўляючы вехі на заўтра, выпрацоўваючы новую мадэль грамадскага ўладкавання, вельмі важна ўсім нам добра ўсвядоміць, ад якой спадчыны і чаму мы адмаўляемся, даць аб'ектыўную ацэнку тым людзям, якія былі нашымі палітычнымі павадырамі, хто шмат гадоў вёў нас па камуністычным азімуце.

Да саратнікаў П.Машэрава прыпісалі Панамарэнку і Чарвякова. Гэта былі розныя людзі, і ставіць іх на адну дошку нельга. Панамарэнка ўзначаліў ЦК КПБ у чэрвені 1938 года і пры ім гінулі людзі. Ёсць дакументы архіваў, яны абнародаваны. Гэтую асобу ніяк нельга паставіць побач з П.Машэравым, тым больш з А.Чарвяковым — ахвярай сталіншчыны. Дзіўна, што рэспубліканская «Звязда» паспяшалася апублікаваць здымак семнаццацігадовай даўнасці: Машэраў і Панамарэнка крочаць побач.

Летась была круглая дата ў А.Р.Чарвякова — 100-годдзе з дня нараджэння. Але, здаецца, ніхто з сённяшніх кіраўнікоў Беларусі не сказаў юбілейнае слова пра гэтага выдатнага чалавека. А многія імёны слаўных сыноў беларускай зямлі наогул забыты і аднаўляюцца энтузіястамі з асяроддзя патрыятычна настроенай інтэлігенцыі.

На гэтым можна было б паставіць кропку. Але ў інтэрв'ю ёсць выказванні па-за рамкамі машэраўскага юбілею. Так, прэм'ер не без гонару заяўляе, што ён «з самага пачатку быў перакананы ў правале гарбачоўскіх рэформаў». Гэтую цытату варта прывесці цалкам: «Вы не паверыце, але я з самага пачатку быў перакананы ў правале гарбачоўскіх рэформаў, бо яны будаваліся на заведама памылковай ідэалогіі — на перакрэсліванні гістарычных заслуг народа, на бессаромнай зняваже яшчэ нядаўна паважаных лідэраў, на здрадніцтве таварышам і адмаўленні мінулага, аб чым, дарэчы, я адкрыта сказаў на сесіі Вярхоўнага Савета СССР у 1989 годзе».

Мяне здзівіла гэткая бязмежная шчырасць В.Кебіча і яго «аракульскае прадказанне» наконт таго, што ў Гарбачова нічога не атрымаецца. Ці не зашмат тут нацяжак? Па-першае, Гарбачоў ніколі не перакрэсліваў «гістарычныя заслугі народа», «не зневажаў паважаных лідэраў», нікому не здраджваў. Па-другое, рэформы Гарбачова — не яго выдумка, капрыз, самадзейнасць, а аб'ектыўная неабходнасць, заканамерны ход самой гісторыі. Велізарная заслуга Міхаіла Сяргеевіча ў тым, што ён першы зразумеў гэта і не лёг упоперак гістарычнага працэсу, не імкнуўся спыніць даўно наспеўшыя, жыццёва неабходныя перамены. Наадварот, сваёй велізарнай уладай падштурхнуў іх. Па-трэцяе, Гарбачоў ніколі і нікому не абяцаў, што ўсё пойдзе гладка і на нас пасыплецца манна нябесная, ён бачыў цяжкасці, гаварыў пра іх шмат і адкрыта, шукаў сам і запрашаў іншых шукаць разам з ім выйсце з крызісу. Па-чацвёртае, не можа быць ніякай гаворкі аб правале гарбачоўскіх рэформаў. Яны па сутнасці толькі распачынаюцца, ідуць марудна, цяжка, хваравіта. Але яны абавязкова прынясуць плён. Аднак для гэтага патрэбна сама мала — вера ў рэформы і самаадданая праца на іх карысць. Найперш у рэформы трэба верыць нашым кіраўнікам, тым, у чыіх руках знаходзяцца ўсе рычагі ўлады.

Ці не таму ў Беларусі рэформы ідуць праз пень-калоду, што ў іх мала верыць сам прэм'ер? Хто вінаваты, што ажывіліся хапугі, мафіёзныя сілы, рознага ладу махляры? Апазіцыя, на якую абрынуўся Вячаслаў Францавіч? Я не падзяляю многіх поглядаў апазіцыі, але яна ніяк не перашкаджае дзейнасці беларускага ўрада. Яна ў нас вельмі слабая і бяззубая. Я не ведаю ніводнага апазіцыянера, які «з ходу кінуўся ўладкоўваць свае асабістыя справы, як толькі дарваўся да запаветнай пасады і партфеля». Затое ў Брэсце ўпарта ходзяць чуткі, што некаторыя сённяшнія і ўчарашнія кіраўнікі (не апазіцыянеры) вобласці і асобных абласных арганізацый прама ці ўскосна замешаны ў махінацыях, звязаных з купляй-перапродажам матэрыяльных каштоўнасцей, што дазваляе ім мець добры барыш,

Вячаслаў Францавіч увесь час з кімсьці ваюе ў інтэрв'ю: я — за рынак, але я супраць дзікіх цэн, супраць збяднення народа. Дык хто ж перашкаджае спыніць дарагоўлю і зніжэнне дабрабыту? Дзейнічайце, урадаўцы, у вас велізарная выканаўча-гаспадарчая ўлада. Савет Міністраў мае поўнае права выдаваць цыркуляры, загады, распараджэнні, накіраваныя на ўтаймаванне рознага роду хапуг і раскрадальнікаў народнага багацця і сацыяльную абарону людзей. Упэўнены, што апазіцыя вас горача падтрымае.

Драматызм часу ў тым, што мы быццам ужо ўсвядомілі, што трэба рабіць, але не ведаем, як рабіць. Нам не хапае ні ведаў, ні вопыту, бо жылі мы ў другім асяроддзі, перавернутым, ірацыянальным свеце, выхоўваліся на іншых каштоўнасцях, ідэалах і ідалах. Мінулае моцна трымае нас у сваіх абдымках, і яшчэ доўга будзе сказвацца на нашай псіхалогіі, маралі, думках, учынках, дзеяннях. Чалавек — істота вельмі кансерватыўная.

**Мікола ЯРМАШЭВІЧ, журналіст**

*г.Брэст*

# НАША АКАДЭМІЯ НАВУК

## КРЫЗІС ЦІ АГОНІЯ?

НА ПРАСПЕКЦЕ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ ў Мінску кожнаму госцю сталіцы Беларусі непазбежна кідаецца ў вочы велічны гмах з арыгінальнай канструкцыяй: масіўныя калоны, злучаныя зверху дугой, як быццам збіраюцца папярэджваць усіх, хто накіруецца ў гэты будынак, што тут не што-небудзь так сабе, а храм навукі, а гэта значыць, што ісці сюды можна толькі з узнёслым настроем і ўрачыстасцю ў душы.

Сваім ладам жыцця, усёй сваёй сутнасцю акадэмія больш, чым любое ведамства, установа, арганізацыя, адгароджана ад знешняга свету, ад людзей, якія не маюць да яе непасрэднага дачынення. Нават усемагутныя райкам і гаркам партыі не мелі над ёю ўлады, бо толькі ў ЦК і Савеце Міністраў вырашаліся ўсе арганізацыйныя і фінансавыя справы на аснове найглыбейшай павагі да акадэмічнага кіраўніцтва, рэжыму найбольшага спрыяння і поўнага ўзаемаразумення.

Справядлівасць патрабуе адзначыць, што асігнаваннямі акадэмію не абдзялялі. Адзін за адным узводзіліся новыя будынкі, нараджаліся інстытуты, вызначаліся і забяспечваліся фінансамі новыя напрамкі навуковых даследаванняў. У сценах АН утварылася цэлая магутная армія спецыялістаў найвышэйшай кваліфікацыі. А яшчэ Акадэміі навук далі магчымасць пабудаваць добры санаторый-прафілакторый, выдзелілі ўчасткі пад дачы, а калі раённае і абласное чыноўніцтва па старой савецкай традыцыі неаднаразова прадпрымала спробы ўтыкаць палкі ў колы, то найвышэйшыя рэспубліканскія і партыйныя інстанцыі аказваліся на баку акадэміі.

Але паспрабуем зірнуць на становішча навуковага работніка ў тыя часы з іншага боку. Максімальны — нязменны на працягу цэлых дзесяцігоддзяў — аклад старшага навуковага супрацоўніка (кандыдата навук) у акадэмічным інстытуце II катэгорыі (гэта значыць, ва ўсім Аддзяленні грамадскіх навук) складаў 250 рублёў у месяц (да грашовай рэформы 1961 г. — 2500 руб.).

Калісьці ва універсітэце на лекцыях па палітэканоміі нам паведамілі пра такую нядобрую заканамернасць жыцця капіталістычнага грамадства, як «абсалютнае і адноснае збядненне» («абсолютное и относительное обнищание») працоўных. Што значыць слова «абсалютнае» — мабыць, ясна. Гэта — той выпадак, калі чалавек за свой заробак з кожным новым годам усё менш можа купіць. Так бывае тады, калі зарплата застаецца нязменнай, а цэны растуць.

А што гэта за з'ява — «адноснае збядненне»? Растлумачваю (у мяне па палітэканоміі была адзнака «выдатна» — і атрымалася так, што некаторых яе палажэнняў я не забыў да сённяшняга дня): гэта той выпадак, калі заробак адной катэгорыі працоўных застаецца нязменным, а ў іншых — расце.

Прашу прабачыць за такія сухаватыя і нават зусім засушаныя разважанні. Але навуковы курс палітэканоміі пакуль што абыходзіцца без мастацкіх тропаў, метафар ці чагосьці падобнага. Затое ж ён больш любіць лічбы. І мы пакарыстаемся імі.

Нядаўна, у снежні 1992 г., у друк трапілі афіцыйныя статыстычныя звесткі аб росце сярэдняй месячнай зарплаты ў СССР, пачынаючы з 1950 г. Тады яна складала лічбу 53 рублі 70 капеек (у новым маштабе цэн, уведзеным у 1961 г.). Здаецца, не так ужо цяжка падлічыць, што аклад 250 рублёў перавышаў сярэдні заробак у 4,65549 раза.

З кожным годам сярэдні заробак у краіне рос наступнымі тэмпамі: у 1960 г. ён складаў 63,2 руб., у 1970 — 106,4 руб., у 1980 — 150 руб., у 1990 — 264,5 руб. І так непрыкметна сярэдні заробак стаў на чатырнаццаць з палавінаю рублёў большы за максімальны аклад старшага навуковага супрацоўніка акадэмічнага інстытута гуманітарнага профілю.

Ці падыходзіць такая статыстыка пад паняцце «адноснае збядненне»? Як на мой розум — то яшчэ і як!

А як быць з другім паказчыкам — з «абсалютным збядненнем»? Можа, хоць яго не было?

Афіцыйных звестак я не маю і таму паспрабую тое-сёе ўспомніць. У 1950 г. я працаваў настаўнікам у дакалгаснай Любчы. Сёння гэта Наваградскі раён, а тады сама яна з'яўлялася раённым цэнтрам. За пакой з добрым харчаваннем я плаціў 300 рублёў на старыя грошы (30 па сённяшняй афіцыйнай статыстыцы). Перад ад'ездам дадому ў Мінск на рынку ў Любчы я купіў масла па 18 рублёў за кілаграм (1 р. 80 кап.) і вялікі вэнджаны кумпяк па 13,5 руб. (1 р. 35 кап.) за кілаграм. Фантастыка? Для нас сёння гэта так. Аднак і там вельмі хутка калгасны лад пакончыў з такімі дробнабуржуазнымі перажыткамі дасацыялістычнай эпохі.

Калі мы вось так зірнём на «бытие» навуковага работніка, то акажацца, што і ў эпоху хрушчоўскага разгорнутага будаўніцтва камунізму, і ў часы брэжнеўскага развітога сацыялізму, і ў гады гарбачоўскай перабудовы яно не з'яўлялася празмерна ідылічным. А ўжо сёння адбываецца — толькі што паскоранымі тэмпамі — тое, што было запраграмавана (у нас жа ўсё адбывалася па плану!) яшчэ ў далёкія часы самаўладнага панавання вернага ленінца Мікіты Сяргеевіча, які ўнутры краіны па-гаспадарску эканоміў сродкі, каб было чым паскорваць сусветную пралетарскую рэвалюцыю і набліжаць шчасце працоўных усяго свету.

Ну, а што ў нашы дні адбываецца з навукай? У якім яна стане? Наогул пытанне аб тым, што робіцца сёння і куды мы крочым, непазбежна ўзнікае і будзе ўзнікаць на кожным кроку: і тады, калі мы будзем параўноўваць цэны з заробкамі або пенсіямі ці ацэньваць рэальны ўзровень ганарараў і калі станем назіраць за становішчам навукі, культуры або за дзейнасцю дзяржаўнага кіраўніцтва і мясцовай адміністрацыі. І пры гэтым ніяк не ўцячом, не схаваемся ад таго, што не можа не кідацца ў вочы: калісьці ад нас шмат забіраў Цэнтр — і з даходаў прамысловых прадпрыемстваў ці калгасаў, і са зберажэнняў (недатыкальнасць якіх усё ж такі забяспечвалася больш-менш надзейна), і з пазык, і г.д. У наш час усё як быццам застаецца на месцы. Але куды яно дзяецца? Некуды сплывае. Не хапае сродкаў, каб забяспечыць самае неабходнае, нават і тое, без чаго вялікая бяда пагражае самому існаванню рэспублікі.

Навісла бяда і над навукай. 2 мая 1992 г. газета «Звязда» вымушана была прызнаць: «У багатай біяграфіі айчыннай навукі былі дзве чорныя паласы — час сталінскіх рэпрэсій і гады Вялікай Айчыннай вайны. Не паварочваецца язык сказаць, толькі мусім: здаецца, пачынаецца трэцяя».

А яшчэ паслухаем, што кажуць самі кіраўнікі акадэміі. У пачатку года нашы вучоныя забілі трывогу. У сакавіку 1992 г. калектыўны зварот да дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь апублікавалі нашы найбольш аўтарытэтныя акадэмікі М.Барысевіч, Р.Гарэцкі, Л.Сушчэня, Ф.Фёдараў і старшыня РК прафсаюзаў работнікаў АНБ А.Матусевіч. Яны папярэдзілі Вярхоўны Савет аб тых катастрафічных выніках, якія можа мець палітыка, накіраваная на прыдушэнне акадэміі. З трывогай яны пісалі: «Калі не будзе ўратавана ад распаду акадэмія і навука ў Беларусі ў цэлым, то дабіцца ўздыму гаспадаркі і культуры рэспублікі будзе практычна немагчыма».

У лютым — сакавіку гг. газета «Навіны Беларускай акадэміі» друкуе серыю артыкулаў пад красамоўнымі загалоўкамі: «Прекрасный шанс угробить науку», «Наши законодатели твердо решили удушить науку» і інш. Вось як характарызуецца ў першым з іх Закон «Аб падатку на нерухомасць»: «Яго дзеянне прывядзе да таго, што навуковыя арганізацыі будуць вымушаны знішчаць свае асноўныя фонды, накопленыя за дзесяцігоддзі... У адпаведнасці з новым законам усе арганізацыі рэспублікі, у тым ліку і навуковыя, абавязаны плаціць 5% ад кошту асноўных фондаў штогод. Асноўныя фонды для нас — гэта даследчае абсталяванне». «Новае абсталяванне мы купіць не можам, а старое павінны знішчаць».

Можа, нам варта што-небудзь успомніць і нагадаць? Нешта ж вельмі блізкае ўжо было ў нашай гісторыі. Ну, хоць бы тое, як калісьці абкладалі падаткамі такія «асноўныя фонды», як кожная яблынька ці груша на прысялібных участках калгаснікаў. І да чаго гэта прывяло? Дык чаму нашы заканадаўцы пераймаюць іменна такі вопыт? Чаму людзі з падобнымі ўяўленнямі вырашаюць пытанні, ад якіх залежыць наш агульны лёс?

А перад навукай вырастаюць усё новыя і новыя праблемы і завалы. Пачытаем, што паведамляе акадэмік Р.Гарэцкі: «Вялікае падаражанне ўтрымання будынкаў, аплата энергіі, паслуг, прыбораў, рэактываў, транспарту, камандзіровак і г.д. не дазваляе наладзіць працу, а патрабуе небывалага скарачэння супрацоўнікаў — ад 30 да 60 працэнтаў і нават больш. А гэта ўжо разгром навуковых кадраў».

Пры чытанні такога пасля кожнага сказа хочацца ставіць тры клічнікі. А ўсё новыя і новыя праблемы набягаюць і накручваюцца. Адно павелічэнне кошту білетаў «прыводзіць да поўнай ізаляцыі нашых навукоўцаў». І яшчэ: «Зараз немагчымасць выпісаць з прычыны адсутнасці валюты замежныя навуковыя часопісы і кнігі не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах СНД прыводзіць да адсутнасці інфармацыі. Усё гэта адначасова ўзводзіць магутную «жалезабетонную заслону», якая вядзе да хуткага заняпаду навукі».

Р.Гарэцкі ведае гэтыя справы з уласнага горкага вопыту — і як дырэктар аднаго з вядучых акадэмічных інстытутаў, і апошнім часам — як віцэ-прэзідэнт АН. Яму з поўнай падставай можна верыць. Таксама, як і прэзідэнту АН Л.Сушчэню, які ў інтэрв'ю штотыднёвіку «7 дней» (№ 44) з трывогай канстатаваў: «Сёння Акадэмія навук, гэты гігант, які дасягнуў навуковых вышынь і сусветнага прызнання, аказаўся пад пагрозай крушэння». І далей ён удакладніў: «Вось ужо два гады навуковыя інстытуты пазбаўлены магчымасці абнаўляць прыборы і навуковы інструментарый. Калі толькі па гэтым параметры пратрымаць нас на «галодным пайку» некалькі гадоў, усё разваліцца.

Другі шлях развалу — інфармацыйная блакада вучоных. Два апошнія гады мы не можам выпісаць ніводнага замежнага часопіса ў фундаментальную бібліятэку — няма валюты. Усе інфармацыйныя каналы абрываюцца...

Няма не толькі валюты, але і рублёў. Бюджэту, які выдзяляецца АН Беларусі, ледзь хапае на выплату зарплаты і падаткаў з зарплаты і з усяго астатняга — мы абкладзены імі амаль як вытворчая сфера (плацім велізарны падатак за зямлю, за дадатковы кошт (добавленную стоимость) і інш.» Ці выпадкова акадэмік Р.Гарэцкі называў у друку такія адносіны да АН падатковым «бандытызмам»?

Тут неяк закрадваецца пытанне: а можа, Беларусі Акадэмія навук непатрэбна? Не было ж яе ў часы Вялікага княства Літоўскага. Мабыць, няма яе, скажам, у Эфіопіі або ў Самалі? Ды нават і ў Злучаных Штатах, калі не памыляюся, няма такой цэнтралізаванай навуковай структуры? Няма то няма, але ў Амерыцы універсітэты і прамысловыя карпарацыі ствараюць магутныя, самыя сучасныя лабараторыі. То, можа, і ў нас хоць не карпарацыі, дык гаспадары вулічных гандлёвых кіёскаў захочуць фінансаваць развіццё навукі? Ці не на гэта разлічваюць кіраўнікі нашай рэспублікі?

Сёння можна сцвярджаць з упэўненасцю, што калі дапусціцца развал акадэміі, то Беларусь канчаткова павінна будзе развітацца з надзеяй вырвацца з дрыгвы эканамічных і духоўных праблем, заняць не то што «пачэсны пасад між народамі», але і наогул дасягнуць таго, каб з нашым народам хоць колькі-небудзь лічыліся ў свеце.

Гэтага як быццам не адмаўляюць і прадстаўнікі нашага дзяржаўнага кіраўніцтва. Намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.Дзямчук нядаўна прызнаваў: «Што датычыць Беларусі, то я перакананы — яна не мае іншых рэзерваў выйсця на цывілізаваны шлях свайго развіцця, акрамя навукі і ўвогуле інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі».

Канстатаваць можна, аказваецца, і такое. Але вельмі не шкодзіла б, каб з гэтага рабіліся нейкія практычныя вывады. А іх штосьці не відаць.

А задач перад навукай шмат, куды ні кінь: і адшукаць схаваныя скарбы нашай зямлі, і думаць пра новыя тэхналогіі — такія, пры якіх зберагаліся б сыравіна з энергіяй, ды і каб з нашымі таварамі не брыдка было паказацца ў цывілізаваным свеце. А якое поле дзейнасці перад нашымі біёлагамі, хімікамі, фізікамі, праграмістамі, тарфянікамі, медыкамі, эканамістамі! І хто ж за нас будзе займацца праблемамі нацыянальнай літаратуры, гісторыі, фалькларыстыкі, лінгвістыкі, педагогікі? Калі справы так далей пойдуць, то неўзабаве не будзе каму. Хуткімі тэмпамі набліжаецца катастрофа, калі колькасць скарачэнняў і ўсе тыя змены, што адбываюцца, перарастуць у новую якасць — у такую бяду, з якой надта ж цяжка будзе выбірацца нашым нашчадкам.

Разбураць можна ўсё «до оснований», «да тла», «дашчэнту». Мы ўжо бачылі, як гэта робіцца. А што пабудуецца на руінах? Замест акадэмічных інстытутаў павялічыцца колькасць камерцыйных кіёскаў? Ці не ў гэтым ратунак для нашай дзяржавы?

Калі забяруць зберажэнні ў пенсіянера ды яшчэ ў некалькі разоў знізяць ягоны жыццёвы ўзровень, то дзяржава на гэтым падэканоміць. Калі з той сумы, якую дзяржава брала ў 1990 г. у якасці беспрацэнтнай мэтавай пазыкі, аддасць усяго толькі сотую частку, то таксама заробіць. Сумленна ці не — гэта ўжо іншая справа. Нашы людзі прызвычаіліся да ўсяго і са скаргай не пойдуць ні ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый, ні ў Міжнародны суд у Гаагу. Можна нават не хваляваецца і з той прычыны, што такая палітыка вядзе да паглыблення бездані, якая на працягу ўсёй гісторыі адгароджвала ўлады ад народа і народ ад улады.

А паспрабуйце эканоміць на пашы для каровы або на кармах для парасяці ці курэй — і што атрымаецца? Такім будзе і эфект эканоміі сродкаў на навуку.

Гісторыя прымусіла наш народ вырашаць небывала складаную галаваломку. Дзяржава пераўтварылася ў свайго роду кубік-рубік, у якім паасобныя часткі існуюць як быццам самі па сабе, самі для сябе. Аднак кожнаму ясна, што ні адна сфера грамадска-палітычнага жыцця дзяржаўнага арганізму — эканоміка, навука, культура, народная адукацыя, ахова здароўя — не можа існаваць, адгарадзіўшыся ад усіх іншых, без падтрымкі ўсёй сістэмы. Кожная з іх працуе на сістэму, а сістэма на яе. І задача дзяржаўнага кіраўніцтва заключаецца ў тым, каб дасягнуць, дамагчыся іх арганічнага ўзаемадзеяння ў сённяшніх экстрэмальных умовах. Спробы падмяць пад сябе слабейшых, выкарыстоўваючы манапольнае становішча ў вытворчасці або ў сферы размеркавання (у гандлі), абапіраючыся пры гэтым на дзяржаўныя органы і структуры, вядзе да паглыблення ўсеагульнага хаосу.

Вядома, нас набліжае да пропасці эканоміка і палітыка нашых найбліжэйшых суседзяў з поўначы, усходу і поўдня, ад якіх мы пакуль што не маем магчымасці адарвацца. Але ці заўсёды апраўданай і абгрунтаванай з'яўляецца палітыка нашага рэспубліканскага кіраўніцтва? Ажно страх бярэ, калі паглядзіш, як у нас вырашаюцца розныя жыццёва важныя справы, што датычаць і паасобных людзей і лёсу рэспублікі ў цэлым.

Ва ўмовах абвастрэння і паглыблення крызісу ва ўсіх сферах жыцця патрэбны неадкладныя нестандартныя рашэнні, не прадугледжаныя ніякімі тэорыямі. Толькі калектыўная мудрасць можа дапамагчы знайсці выхад з сітуацыі. Гарбачоўская «перабудова» захлынулася таму, што ў кіраўніцтве дзяржавай падабраўся штаб людзей, надзіва некампетэнтных, і ў іх не хапіла розуму, каб успрымаць шматлікія каштоўныя парады, якія траплялі на старонкі друку. Тое самае здарыцца і з беларускім дзяржаўным будаўніцтвам, калі наша кіраўніцтва не выкарыстае калектыўную мудрасць народа, не паклапоціцца аб збіранні і выкарыстанні найбольш каштоўных прапаноў.

У час нечаканага абвастрэння энергетычнага крызісу капіталістычныя краіны Захаду і Далёкага Усходу адразу ж прыстасавалі сваю эканоміку да новых умоў. Сацыялістычная ж сістэма не прарэагавала ніяк, наглядна прадэманстраваўшы сваю кансерватыўную непаваротлівасць, заскарузласць, закасцянеласць, стратэгічную бесперспектыўнасць. А праз нейкі час яна не вытрымала выпрабавання, якое прынесла з сабой толькі спроба ўвесці некаторыя дэмакратычныя элементы ў кіраванне дзяржавай і народнай гаспадаркай.

Недальнабачнасць палітыкі нашага кіраўніцтва выяўляецца ў ягоных адносінах да навукі, без якой не можа быць ні эканамічнага, ні палітычнага прагрэсу. Японія і азіяцкія так званыя «малыя драконы» толькі дзякуючы выкарыстанню інтэлектуальнага патэнцыялу і адпаведнай арганізацыі працы дасягнулі небывалага росту вытворчасці.

Калі трэба — то нашы людзі працаваць могуць. Але ці збіраецца хтосьці паклапаціцца, каб стварыць адпаведныя ўмовы ў нас, на месцы? Штосьці не відаць. Вучоным раяць самім шукаць сродкі. Яны і шукаюць. Але калі ў пошуках іх пабягуць, куды вочы глядзяць, то што застанецца акадэміі?

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

## МЁД І ДЗЁГАЦЬ

ВОСЬ ТАК, НАБІРАЮЧЫ РАЗГОН, коціцца Беларуская акадэмія з горкі. А наогул -- што яна сабой уяўляла ў той час, калі яшчэ нішто не прадказвала набліжэння бяды? Ці варта сёння думаць толькі пра захаванне або адраджэнне ў непарушным выглядзе ўсяго таго, што пакінула нам недалёкае мінулае? Пішуць жа некаторыя аўтарытэты — на вельмі высокім узроўні, — што наша акадэмічная сістэма (разам з усёй практыкай падрыхтоўкі і атэстацыі кадраў) складвалася многія дзесяцігоддзі і ва ўсіх адносінах заўсёды сябе апраўдвала.

Яно, можа, і так, калі пазіраць на ўсё зверху або здалёк. А зблізку і знізу? Хоць і вядома, што вялікае бачыцца на адлегласці, але ці можна здалёк прачытаць тое, што напісана ў кнізе або што адкрывае перад намі мікраскоп? Так што часамі, мабыць, не шкодзіла б і наблізіцца да прадмета, каб пабачыць, як ён выглядае па-

сапраўднаму і чаго ён варты. Каб не атрымалася, як з міражом у пустыні: вочы могуць пабачыць незвычайны пейзаж, але паспрабуй дабрацца да яго.

Працуючы ў Акадэміі навук з лютага 1959 г., я неаднаразова задаваў сабе пытанне, на якое не здолеў знайсці адказу: дзе больш недарэчная сістэма кіравання і арганізацыя працы — у сельскай гаспадарцы, у ведамстве замежных спраў ці ў навуцы? Праўда, я меў на ўвазе толькі грамадскія навукі.

З сельскай гаспадаркай, здаецца, ясна. Краіна перамогшага і найразвіцейшага сацыялізму, займаючы шостую частку зямлі, купляла збожжа, велізарныя колькасці яго, бязлітасна рабуючы прыродныя багацці, якімі павінны былі б карыстацца нашы нашчадкі.

А замежныя справы? Я не раз бываў у працяглых камандзіроўках у Польшчы і кожны раз здзіўляўся з небывалай тупасці чыноўніцтва гэтага ведамства. У Варшаву з Мінска кіламетраў каля 500. Але я спачатку павінен быў ехаць у Маскву, а адтуль у Варшаву (праз Мінск, вядома). Пасля заканчэння камандзіроўкі вяртаўся у Мінск зноў праз Маскву. Такім чынам, да тысячы кіламетраў прыплюсоўваўся халасты праезд даўжынёю 2800 кіламетраў і 5 дзён камандзіровачных.

Але гэта дробязь. У 1977 г. я правёў у Польшчы паўгода. І колькі разоў работнікі пасольства або консульстваў мяне проста ашарашвалі сваімі паводзінамі або разважаннямі.

Усяго толькі адзін прыклад. Савецкі консул (па-мойму, у Познані) скардзіўся, што вось польскія таварышы ніяк не хочуць праводзіць калектывізацыю. А які ж сацыялізм без яе?

Такое мог у тых умовах сказаць чалавек без клёпак у галаве. У Польшчы добра адчувалася набліжэнне буры. Я памятаў пра хваляванні 1968 г., пра подых навальніцы ў 1970 г., пра падзеі ў Радаме ў 1976 г., пра ўтварэнне Камітэта абароны рабочых. Краіна на вачах ператваралася ў бочку з порахам. Я гэта адчуваў асабліва выразна, таму што мяне ад палякаў не аддзяляў моўны бар'ер. А гэтаму «дыпламату» прыспічыла праводзіць калектывізацыю. Тое самае, што раскладваць агонь на бочцы з порахам. Думаецца, што ён выказваў не асабісты жаль з прычыны недастатковай сацыялістычнай свядомасці польскіх «таварышаў».

А як у гэту сельскагаспадарча-дыпламатычную сістэму ўпісваецца акадэмічная? Няўжо яна не ўзвышаецца над імі сваімі эпахальнымі здзяйсненнямі? Як гэта ні дзіўна, але па некаторых паказчыках навука ў нас дасягнула таго, чаго ніколі не дала б рады сельская гаспадарка. Паўтараю, што я маю на ўвазе толькі так званыя грамадскія навукі (сёння яны называюцца «гуманітарнымі»).

Скажам, ці маглі б мы сабе ўявіць калгас, у якім планавалася б вырасціць той ці іншы ураджай, а потым **арганізавана, у планавым парадку** нішчыць нейкіх 40% яго? (На самай справе нішчылася, мажа, і больш, але толькі з прычыны нядбальства). У сельскай гаспадарцы ніхто такога не прыдумаў. А вось у Акадэміі навук прыдумалі. Напрыклад, планавалася ў інстытуце напісаць нейкіх 150 аўтарскіх аркушаў у год. Выкананне гэтага аб'ёму забяспечваў сектар або аддзел, потым правярала камісія вучонага савета, дырэкцыя, затым камісія, прызначаная бюро Аддзялення грамадскіх навук (абавязкова з удзелам навукоўцаў збоку). План ёсць план, і аб'ёмы выконваліся, што пацвярджалася і адзначалася ў справаздачах.

Справаздачная гарачка, якая расцягвалася амаль на тры месяцы, заканчвалася паспяхова. І тады пачынаўся працэс паэтапнай ліквідацыі напісанага. Інстытут меў права друкаваць у год прыкладна 90—100 аркушаў. І пачыналася скарачэнне гатовых работ. Тут да поту стараліся дырэкцыя, вучоны савет, навуковыя і выдавецкія рэдактары. Пашанай карысталіся тыя, хто згаджаўся добраахвотна не ўключаць у план выданняў свае працы.

Да справы планавання яшчэ вернемся. А пакуль што хацелася б правесці адну гістарычную паралель. У першай палавіне 60-х гадоў у колішнім Конга (сённяшнім Заіры) ішла грамадзянская вайна з-за багатай мінеральнай сыравінай правінцыі Катанга (Шаба). Нечакана камандуючы ваеннай акругай увёў асаднае становішча і падняў сваё воінства на выкананне важнай баявой задачы. Перашуквалася ўся падначаленая яму тэрыторыя, абследаваўся кожны куточак.

Праз нейкі час высветлілася прычына. Дасціпныя заходнія журналісты схавалі родавыя амулеты камандуючага, без якіх ён не меў права даваць загады падначаленым. Таму і ўзнялася баявая трывога.

Такая гісторыя,можа,успрымалася б і весела, калі б паводле падобнага генеральнага прынцыпу не дзейнічала наша акадэмічная сістэма. Калі ў чалавека былі дыпломы і званні, то ён карыстаўся самымі разнастайнымі правамі — і на любую акадэмічную пасаду, і на небывалае для колішніх умоў матэрыяльнае забеспячэнне, і на жыллё па вышэйшых нормах, прытым без чаргі, на спецлячэнне і санаторнае абслугоўванне. Дастаткова нагадаць, што акадэмік з усесаюзнай акадэміі ў пасляваенны час толькі за званне атрымліваў 5000 рублёў (пасля 1961 г. — 500 р.), у рэспубліканскай — 3500 (350). А яшчэ ж кожны акадэмік займаў пасаду, якая прыносіла ў ягоны бюджэт больш, чым званне. Для параўнання нагадаю, што аклад настаўніка з вышэйшай адукацыяй у сельскай мясцовасці быў усяго толькі 580 (58) рублёў у месяц.

Вядома, былі акадэмікі і членкоры, якія пасапраўднаму ўзбагачалі нашу навуку. У апошнія дзесяцігоддзі невыпадкова нашым вучоным (праўда, не гуманітарнага профілю) прысуджаліся найбольш ганаровыя і прэстыжныя прэміі і прысвойваліся найвышэйшыя званні былога Саюза. Былі ў нас правадзейныя члены і членкоры Усесаюзнай АН, лаўрэаты Ленінскай і Дзяржаўных прэмій СССР.

Многія нашы вучоныя добра вядомы ў Еўропе. Сучаснае кіраўніцтва Акадэміі навук карыстаецца належным аўтарытэтам. Застаецца пажадаць, каб сваімі справамі яно зберагло і памножыла крэдыт даверу, як бы цяжка гэта ні было рабіць.

Побач з гэтым наша навука — і колішняя расійская і пазнейшая ўсесаюзная — нейкім чынам давала надзейны прытулак і людзям, пра якіх А.Ваейкаў у паэме «Дом сумасшедших» (1814—1838) пісаў:

*Ничего не сочиняет,*
*Ничего не издает, —*
*Три оклада получает*
*И столовые берет.*

Так было сказана пра дзеяча Расійскай акадэміі навук.

Праблема, як бачым, не новая. І не толькі расійская. Яна калісьці (не ведаю, як сёння) набывала больш шырокі, проста-такі,скажам, інтэрнацыянальны абсяг. Бо яшчэ Ф.Шылер у адной з эпіграм пісаў, што навука — для адных — багіня нябесная, дастойная, а для другіх — усяго толькі карова дойная.

Настала пара прыводзіць павучальныя (рускі чалавек сказаў бы: назидательные) прыклады з нашага жыцця. Быў адзін акадэмік філосаф. Калі стваралася наша нацыянальная энцыклапедыя (БелСЭ), яму — гэта само сабой разумеецца — прысвяцілі артыкул. Там павінны былі назваць найбольш выдатныя працы вучонага. І ў нашага філосафа знайшлі ўсяго толькі адзін артыкул, напісаны ў 1930 годзе, за 50 год да смерці. Можна сабе ўявіць, які пералом у сусветнай навуцы зрабіў ён сваім артыкулам.

Адзін знаёмы вучоны (праўда, не прадстаўнік грамадскіх навук) апавядаў мне гісторыю. Разгарнуў ён перад акадэмікам манаграфію і паказаў адно месца. Той даў адпаведную ацэнку прачытанаму: «Чушь».

— А як вы такое пусцілі ў свет?

— Чаму я?

Тут ён адгарнуў вокладку і пабачыў, што сааўтарам кніжкі з'яўляецца ён сам.

— Я не думаў, што ён такое глупства напіша.

«Ён» — гэта значыць рэальны аўтар. А той «сааўтар», аказваецца, нават не палічыў патрэбным прачытаць кніжку перад яе выхадам у свет. Я зірнуў у энцыклапедыю і пабачыў там значную колькасць манаграфій з такім красамоўным удакладненнем: «У сааўтарстве».

Сапраўдная навуковая работа патрабуе напружання, пошуку, гарэння. Але далёка не кожны чалавек захоча перанапружвацца і гарэць ні за што, ведаючы, што ягоны заробак ніяк не звязаны з вынікамі яго працы. Сітуацыя, пры якой акадэмік атрымліваў за адно званне на 100 рублёў у месяц больш, чым старшы навуковы супрацоўнік за рэальную творчую работу, а за канкрэтную навуковую прадукцыю — ні капейкі, культывавала звычайны паразітызм. Цяжка ўявіць сабе большы абсурд.

Права на такое сааўтарства закладзена было ў самой сістэме акадэмічнага планавання і аплаты працы навуковых работнікаў — таленавіта распрацаванай і дбайна адшліфаванай.

Па-першае, лічылася ледзь не злачынствам планаванне індывідуальных работ, бо гэтым самым дапускалася б так званае «мелкотемье». Слова гэтае мела зняважлівы і абразлівы сэнс. Яно было амаль што раўназначным з прафанацыяй навукі. Трэба было планаваць праблемныя, маштабныя калектыўныя працы, дзе прозвішчы выканаўцаў падаваліся скопам. А тое, што пад адной шапкай змяшчаліся самыя разнастайныя, часта ніяк не звязаныя паміж сабой работы, гэта нікога не бянтэжыла. І ў плане можна было не канкрэтызаваць, хто за што адказвае.

Чым больш аўтарскіх аркушаў значылася ў плане, тым лепш. Хоць кожны з планавікоў добра ведаў, што ў выдавецтве не возьмуць кнігу памерам 60, 40 і нават 25 друкаваных аркушаў. Пасля справаздач праца рассыпалася на свае састаўныя часткі. Калі б план трэба было лічыць законам, то працэс драблення гатовых тэм быў бы нелегальным. Але ён існаваў рэальна.

Бясспрэчна, былі і сапраўды калектыўныя тэмы, як, напрыклад, гісторыя літаратуры, біябібліяграфічны слоўнік і іншыя. Але ў асноўным тэмы лічыліся калектыўнымі толькі па назве.

**У акадэмічнай сістэме плацілі грошы не за выкананую работу, не за публікацыі, а за пасаду, ступень і званне.** Чым вышэйшая пасада і званне, тым менш было адказнасці, тым больш проста было раствварыцца ў групе выканаўцаў. Акадэмік або членкор атрымліваў належную яму суму незалежна ад таго, ці ён напісаў 10 аркушаў у год, ці ніводнага. За рэальную навуковую прадукцыю ён усё роўна не атрымліваў ні капейкі. Але і не адказваў, калі такой прадукцыі не было зусім.

Ступені і званні часта не былі звязаны з рэальнымі навуковымі дасягненнямі, і нават найбольш салідныя працы самі па сабе не прыносілі іх аўтарам ні званняў, ні ўзнагарод. Канкрэтныя прыклады просяцца самі сабою. Быў таленавіты літаратурны крытык-самародак Рыгор Саламонавіч Бярозкін. Выдаў ён не адну кніжку па гісторыі беларускай літаратуры. Многім нашым дактарам навук такога ўзроўню публікацыі маглі толькі сніцца. Але іх аўтар не меў права нават на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка, бо не закончыў інстытута. Яшчэ перад вайной яго арыштавалі, калі ён быў студэнтам. Сваю вышэйшую жыццёвую школу ён праходзіў у сталінскіх турмах. Вайна не дазволіла яму адбыць увесь тэрмін. Ва ўмовах неразбярыхі ў самым пачатку вайны ён добраахвотна пайшоў у армію і ваяваў да дня перамогі, пасля якой яго забралі зноў адбываць той стары тэрмін.

Былі, аднак, людзі, для якіх лёс аказаўся больш ласкавым. Здаецца, ці не 17 гадоў сакратаром ЦК КПБ па ідэалогіі быў Ц.Гарбуноў. Каб умацаваць акадэмічныя кадры, вырашылі яго ўзвесці ў сан акадэміка і прызначыць акадэмікам-сакратаром Аддзялення грамадскіх навук. Каб даць уяўленне пра ягоныя навуковыя кругa- і далягляды, прывяду канкрэтны прыклад. У адным з выступленняў ён спаслаўся на тое, што ў верасні 1939 г. заходнія славяне аб'ядналіся з усходнімі. Ён цвёрда ведаў, што беларусы і ўкраінцы — гэта славяне. І для яго само сабой разумелася, што заходнія беларусы і ўкраінцы — гэта і ёсць заходнія славяне. Так па-навуковаму разважаў гісторык са званнямі акадэміка і прафесара, шматгадовы кіраўнік усёй рэспубліканскай ідэалогіі, а ў сценах АН — апякун і духоўны бацька ўсіх грамадскіх навук. Так праяўляла сябе на практыцы тая сістэма атэстацыі навуковых кадраў, якая складвалася на працягу дзесяцігоддзяў і «дастаткова добра сябе зарэкамендавала», як лічаць некаторыя нашы сучаснікі.

Зірнём яшчэ на парадак, а лепш сказаць, на працэдуру прысуджэння вучоных ступеняў. Каб стаць доктарам навук, недастаткова было апублікаваць адпаведную працу. Нават найлепшая, найгрунтоўнейшая манаграфія сама па сабе нічога не вырашала і не давала правоў на ступені і званні. А калі б цвяроза разважаць, то магло б здавацца, што пасля выхаду ў свет саліднай працы дастаткова было б адпаведнаму кампетэнтнаму форуму разгледзець яе і зрабіць належныя вывады.

Але не тут то было. Прэтэндэнт на атрыманне вучонай ступені абавязаны быў падрыхтаваць машынапісны варыянт работы, прытым толькі на рускай мове, бо маскоўская Вышэйшая атэстацыйная камісія (ВАК) не давала рады знаходзіць спецыялістаў, якія б маглі нешта цяміць на беларускай мове. (Калі гаварыць па сутнасці, то гэта была адна з формаў дыскрымінацыі яе, яскравы паказчык таго, як з ёю ў Маскве лічыліся). Дысертант яшчэ быў абавязаны напісаць аўтарэферат і падрыхтаваць цэлы том дакументаў, прытым за любое адступленне ў іх ад вакаўскіх патрабаванняў дысертацыю маглі забракаваць, незалежна ад яе навуковага ўзроўню.

Маючы салідныя манаграфіі, нашы вядомыя даследчыкі В.Каваленка, А.Мальдзіс, М.Мушынскі, В.Жураўлёў і многія іншыя вымушаны былі ствараць рускамоўныя машынапісныя дысертацыйныя варыянты сваіх даследаванняў. Можна запытацца ў іх, якую карысць навуцы або ім самім прынесла ўся тая работа?

Каб не трэба было вось такім чынам пераліваць з пустога ў парожняе, то нармальны творчы работнік за час падрыхтоўкі дысертацыі мог бы напісаць новую кнігу. Усё гэта рабілася для таго, каб максімальна затрымаць прасоўванне ўверх па службовай лесвіцы навуковых работнікаў. Бо так эканоміліся дзяржаўныя сродкі. Інтарэсы і рэальныя патрэбы самой навукі пры гэтым менш за ўсё ўлічваліся.

Новых акадэмікаў выбіралі толькі акадэмікі ўсіх профіляў. За літаратараў галасавалі фізікі ці хімікі, а філолагі выбіралі матэматыкаў. Аказваецца, што нейкі біёлаг лепш мог ведаць, каго, скажам, з мовазнаўцаў можна пасвяціць у акадэмікі, чым самі лінгвісты!

Я не збіраўся пералічваць усе недарэчнасці нашай акадэмічнай сістэмы. І вельмі сумна, што былы прэзідэнт АН Беларусі акадэмік Платонаў паехаў вучыць амерыканцаў (вось што і сёння могуць беларусы!), а ў сваёй акадэміі не сабраўся навесці парадак.

*(Працяг будзе)*

АНОНС

## ДОМ ЛІТАРАТАРА Ў КРАСАВІКУ

«Белвідэацэнтр» падрыхтаваў яшчэ адзін дакументальны фільм: «Белая вежа — цемра густая» (аўтар сцэнарыя Р.Барадулін, рэжысёры В.Купрыянаў і М.Андруковіч). Калі ласка, не забудзьцеся, прэм'ера пройдзе 9 красавіка. Заадно можна будзе паглядзець і мастацкі фільм «Мыс страху» (вытворчасць ЗША, 1992 год).

Вечар памяці А.Бачылы «Радзіма мая дарагая», прымеркаваны да 75-годдзя з дня нараджэння творцы, прызначаны на 13 красавіка.

Вечарына ж лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь адбудзецца 14 красавіка.

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла новая кніга паэзіі Ю.Свіркі «Узаемнасць». Аўтар і Дом літаратара запрашаюць на яе прэм'еру 15 красавіка.

Бліжэй пазнаёміцца з творчасцю кампазітара А.Чыркуна можна будзе 20 красавіка ў час вечарыны «Беларуская паэзія ў музыцы кампазітара Алега Чыркуна».

Віктару Шымуку спаўняецца 60 гадоў. Творчы вечар яго пройдзе 23 красавіка.

100 гадоў назад нарадзіўся пісьменнік, пра якога на поўны голас мы загаварылі нядаўна — А.Мрый. Гэтай падзеі прысвечана вечарына 29 красавіка.

**Усе згаданыя мерапрыемствы пачынаюцца ў 18 гадзін 30 мінут.**

Секцыя перакладу СП Беларусі збіраецца ў 15 гадзін 22 красавіка.

Пасяджэнне рады СП на тэму «Аб стане беларускага правапісу» запланавана на 14 гадзін 28 красавіка.

## ЛЯЛЕЧНІКІ СУСТРЭНУЦЦА Ў МІНСКУ

З 20 па 27 мая ў Мінску мае адбыцца 2-гі Міжнародны фестываль тэатраў лялек. Першы такі фестываль з вялікім поспехам прайшоў у маі 1990 года.

Арганізатары фестывалю — Саюз тэатральных дзеячаў, Міністэрства культуры РБ, упраўленне культуры Мінгарвыканкама звяртаюцца да грамадскіх устаноў і прыватных асоб, якім неабыякавы лёс беларускай нацыянальнай культуры, з прапановай надаць фестывалю фінансавую падтрымку.

Да нас з'едуцца госці з ЗША, Аўстрыі, Бельгіі, Германіі, Іспаніі, Італіі, Нідэрландаў, Польшчы, Фінляндыі, Францыі, Чэхіі, Швецыі; сярод іх — майстры з сусветнымі імёнамі.

Наша сталіца заўсёды добра сустракала гасцей. Спадзяёмся, што і цяпер Мінск зможа прэтэндаваць на званне тэатральнага горада, а Мінскі міжнародны фестываль тэатраў лялек зробіцца традыцыйным.

**Разліковы рахунак фестывалю N 700426 у Гарадской дырэкцыі Белбізнесбанку МФО 764.**

**АРГКАМІТЭТ**

## НАШ КАЛЯНДАР

75 гадоў з дня выхаду ў Пецярбурзе першага нумара першай савецкай газеты на беларускай мове **«Дзянніца»** споўнілася 1 сакавіка. Выдавалася да 24 лютага 1919 года, з 6 красавіка 1918-га — у Маскве.

110 гадоў з дня нараджэння мовазнаўцы, аўтара «Краявога слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» **Івана Бялькевіча** споўнілася 6 сакавіка /1883 — 1960/.

70 гадоў з дня нараджэння празаіка **Алеся Рылько** споўнілася 27 сакавіка /1923 — 1976/. Пісаў таксама для дзяцей, аўтар аднаактовак.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Ніне Мацяш з прычыны напаткаўшага яе гора -- смерці сястры МАРЫІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, намесніку дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі Гніламёдаву Уладзіміру Васільевічу з прычыны напаткаўшага яго гора -- смерці БАЦЬКІ.**

СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

# УСЁ ВЫРАШАЕ САМА ЦАРКВА...

***Гэтыя нататкі выкліканы артыкулам З.Пазняка «Брэйгелеўскі шлях», змешчаным у «Звяздзе» 20 студзеня г.г. На жаль, мае нататкі «Звязда» надрукаваць не змагла. Таму звяртаюся ў «ЛіМ» — балазе, інтэрв'ю мітрапаліта Філарэта было апублікавана на старонках штотыднёвіка»****

ЧЫТАЮЧЫ артыкул З.Пазняка, звярнула ўвагу на тое, што цытата з адказу Патрыяршага Экзарха Беларусі Мітрапаліта Філарэта на прэс-канферэнцыі для замежных журналістаў дадзена са скарачэннем, якое змяняе сэнс. Я была на той прэс-канферэнцыі, рыхтавала з фанаграмы тэкст інтэрв'ю для «ЛіМа» (8 студз. 1993 г.), таму і пішу.

У кантэксце размовы аб экуменізме было запытанне: «Як вы лічыце, Уладыка: адраджэнне Грэка-уніяцкай царквы на Беларусі з'яўляецца пагрозай для Царквы Праваслаўнай?»

Спадар Зянон цытуе адказ так: «Пагроза была і ёсць. Унія — гэта непраўдзівы шлях да адзінства ў Царкве», і на гэтым будуе далейшыя абвінавачанні. Мітрапаліт казаў інакш: «Пагроза была і ёсць — гэта наша пасіўнасць у захаванні веры бацькоў, прынятай у Хрышчэнні Русі. Пагроза ў паўтарэнні гістарычных памылак у адносінах паміж цэрквамі. У прынцыпе унія — гэта непраўдзівы шлях да адзінства ў Царкве і, на мой погляд, гісторыя нас навучыла, што унія прыводзіць не да адзінства, а да канфліктаў і да паглыблення падзелу паміж Праваслаўем і Рыма-каталіцтвам. Аб гэтым вельмі яскрава сведчыць гісторыя уніяцкага руху на Беларусі ў мінулым і сучасныя падзеі на Украіне... — гэта нецаркоўны, палітычны шлях да царкоўнага адзінства. Я разумею, што ўсім нам, экуменістам, хочацца як мага хутчэй бачыць аднаўленне адзінства ў Царкве. Але гэта цяжкі шлях багаслоўскага дыялога, практычнага набліжэння адзін да аднаго, пераадолення грэху падзелу. А шлях палітычны, шлях адміністратыўнага аб'яднання — ён, вядома, хутчэй дасягне знешняй мэты, але гэта шлях непраўдзівы. Такі мой прынцыповы погляд на гэту праблему, які, натуральна, не выключае магчымасці існавання уніяцкай царквы... Не выключае права на стварэнне уніяцкіх абшчын».

Узбурана падкрэслівае спадар Зянон словы Мітрапаліта, што штучнае ўтварэнне уніяцкіх абшчын кіруецца «хутчэй толькі палітычнымі і нацыяналістычнымі ідэямі», але ж шырока вядомы экстрэмізм уніятаў на Украіне, што ўчынілі ў наш час сапраўдныя ганенні на праваслаўных: забіралі храмы, урываліся на богаслужэнні, выганялі вернікаў пад крыкі — «гэць, маскалі, з Украіны» (гэта і да праваслаўных украінцаў!), ухваляючы справы Бандэры. Былі і крывавыя ахвяры. Хіба гэта не палітычная дзейнасць пад выглядам адраджэння уніяцкай царквы?

Аб гэтым пісалася ў прэсе, працавала міжнародная камісія. Гэта і меў на ўвазе Мітрапаліт у больш пашыраным кантэксце інтэрв'ю. У нас на Беларусі, дзякуй Богу, такога няма, але добрае насенне беларусізацыі часам трапляе на дрэнную глебу і дае ганебны плён: у Праваслаўную Царкву неаднойчы прыходзяць вельмі агрэсіўна настроеныя хлопцы, што называюць сябе уніятамі, і патрабуюць адмяніць «чужую» царкоўна-славянскую мову богаслужэнняў, бо гэта, маўляў, «расейшчына». Быў нават выпадак, калі чалавек казаў рэктару семінарыі епіскапу Канстанціну: «Я маю вышэйшую адукацыю і, вядома, атэіст, але я уніят і патрабую не прапагандаваць расейшчыну праз набажэнства»...

Свавольна звузіўшы праблему ролі уніі ў экуменічным руху да мясцовых амбіцый, спадар Зянон абвінавачвае Мітрапаліта ў нехрысціянскім, партыйным, кадэбісцкім падыходзе, у зняважлівых адносінах да маладых беларускіх уніятаў. Сведчу: гаворкі аб іх на прэс-канферэнцыі наогул не было.

У артыкуле шмат аднабаковасці ў асвятленні гістарычных падзей, выкарыстаны толькі каталіцкія і уніяцкія крыніцы. Так, з болем гаворачы аб «пакутніцкай Уніі», аўтар забываецца, з якім прымусам, пры магутнай падтрымцы караля-католіка і Ватыкана, яна ўводзілася ў праваслаўнай Беларусі і Украіне; як зачыняліся і апаганьваліся манастыры і храмы, разбуралася саборнае жыццё Царквы, якая сталася па-за законам ВКЛ, як змагаўся беларускі народ, праваслаўныя брацтвы за захаванне сваёй веры, сваіх святынь, колькі перанёс ён за два стагоддзі, пакуль скарыўся да уніяцтва. Захаваліся дакументы эпохі, сведчанне царкоўнай памяці: выступленне на Варшаўскім сейме 1620 г. і вядомы «Дыярыуш» закатаванага ігумена Афанасія Філіповіча, «Плач Царквы Усходняй» Мялеція Смятрыцкага, страшэнныя факты здзекаў з выступлення на тым жа сейме Лаўрэнція Дравінскага і інш. Аб прымусовых метадах увядзення уніі сведчыць ліст 1621 г. канцлера Вялікага княства Літоўскага каталіка Льва Сапегі да уніяцкага Мітрапаліта Іосіфа Руцкага аб дзеях Іасафата Кунцэвіча. У лісце 1622 г. да апошняга канцлер дакарае арцыбіскупа Кунцэвіча ў празмернай жорсткасці, папярэджвае, што яна можа прывесці да народнага бунту з пагрозай жыццю самога арцыбіскупа: «мне ніколі ў галаву не прыходзіла, што вы будзеце прыцягваць да уніі такімі жорсткімі спосабамі»...

У артыкуле гаворыцца таксама пра «самадзяржаўна-праваслаўны генацыд на Беларусі» супраць беларусаў-уніятаў, але ж рэпрэсіі супраць паўстанцаў 1830 г. праводзіла не Царква, а царскі ўрад, для якога яны былі варожымі палітычнымі супраціўнікамі, паўстанцамі супроць парадку, улады, змагарамі за аднаўленне бунтуючай Польшчы. Хаця рэпрэсіраваныя былі уніятамі, зараз ужо немагчыма сказаць, што ўсе яны былі барацьбітамі за веру уніяцкую, бо палітычную барацьбу вялі нават людзі ў сутанах. Для Царквы ж беларусы былі адзінаверцамі, што трапілі ў духоўную няволю.

Ніводнай рэлігіі, веры народа нельга раптам знішчыць рэпрэсіямі: яны, наадварот, умацоўваюць яе. Вяртанню народа да веры прадкаў садзейнічала праваслаўная памяць вякоў і рэлігійна-асветніцкая дзейнасць Праваслаўнай Царквы на нашых землях пасля адыходу іх да Расіі. Многа гадоў рыхтавалася ўз'яднанне былых праваслаўных, што канчаткова адбылося на Полацкім уніяцкім саборы 1839 г. У дарэвалюцыйных даследаваннях, у архівах багаслоўскіх дысертацый МДА і СпбДА ёсць матэрыялы аб гэтым. Перш за ўсё гэта дзейнасць выдатных праваслаўных прапаведнікаў — магілёўскіх архіепіскапаў Георгія Каніскага, Еўсевія Арлінскага, што словам сваім наварочвалі да праваслаўя тысячы беларусаў, Мінскага епіскапа Віктара Садкоўскага, архіепіскапа Ніканора, гэта і актыўная дзейнасць за ўз'яднанне беларускіх уніяцкіх епіскапаў Іраклія Лісоўскага, Васіля Лужыцкага, Антонія Зубко і асабліва мітрапаліта Літоўскага Іосіфа Сямашкі. На Беларусь былі прысланы праваслаўныя святары, духоўная літаратура, была адчынена семінарыя, з'явілася мясцовая царкоўная перыёдыка, вернікі змаглі далучыцца да агульна-праваслаўных святыняў: было пабудавана 10 тысяч храмаў, бо існаваўшыя прыйшлі ў страшэнны заняпад. Знімаўся ўціск паланізацыі. У Пецярбурзе выдаюцца працы беларускіх даследчыкаў і багасловаў Г.Каніскага, І.Грыгаровіча. Іншая справа — адносіны ўлад да беларускай мовы, дзяржаўнасці, дойлідства. Былі і вострыя выступленні супроць уз'яднання з боку часткі уніяцкіх святароў і іх атачэння і адміністратыўная высылка іх за «бунтарскую дзейнасць сярод народа». У царкоўных даследаваннях такія метады асуджаюцца, але факты ёсць факты. Усё вельмі неаднязначна, толькі не трэба ствараць міф аб крывавым знішчэнні беларусаў за тое, што яны беларусы!..

Пытанні гэтага вельмі складанага перыяду нашай гісторыі нельга, на маю думку, вырашаць у запале палітычнай барацьбы і пошуку ворагаў. Патрэбна аб'ектыўнае навуковае даследаванне, і гэта абавязак перад народам нашага Скарынінскага цэнтра ў кантакце з царкоўнымі гісторыкамі розных канфесій. Трэба быць аб'ектыўнымі ў адносінах да фактаў. Напрыклад, да таго, што Праваслаўная Царква ў Расіі ніколі не панавала над царамі і імператарамі: Іван Жахлівы забіў уласнаю рукою Прадстаяцеля Царквы мітрапаліта Філіпа, бо той узняў голас супраць ягоных крывавых дзеяў, а Пётр Першы наогул на два стагоддзі пазбавіў Царкву патрыярха, а значыцца, і пэўнай магчымасці мець свой голас у справах дзяржаўных. Толькі ў 1917 г. атрымала Руская Праваслаўная Царква магчымасць зноў жыць нармальным саборным жыццём, абрала патрыярха, але амаль адразу ж пачаліся крывавыя ганенні на веру, якіх не было з часоў Рымскай Імперыі — такі крыж Царквы Хрыстовай на Русі. У кожнай царквы — свой, як і ў чалавека...

Найбольш шкоднае ў артыкуле для беларускай справы і самога спадара Зянона, як лідэра БНФ і свядомага хрысціяніна-католіка, мне бачыцца ў наступным:

Артыкул прасякнуты імкненнем не толькі павучаць, але і знішчыць другога словам, і пры гэтым — абвінавачванне Мітрапаліта і святароў у адсутнасці хрысціянскай любові... Безумоўна, гэта не выклікае даверу да сапраўднасці хрысціянскіх пазіцый аўтара.

З вялікай самаўпэўненасцю Зянон Станіслававіч павучае Царкву, нават прадказвае ёй пагібель на Беларусі, калі не пойдзе шляхам, які ён ёй вызначыў. Між тым кожны вернік ведае з Бібліі, што жыццё Царквы, як і кожнага з нас, у руках Божых, Хрыстос жа сказаў, што заснаваў Царкву і «брамы пякельныя не адолеюць яе» (Мф. 16, 18). Абвінавачваючы ўладыку Філарэта ў «згубнай маскоўска-палітыканскай традыцыі» і зняважлівых адносінах да братоў сваіх у Хрысце — маладых грэка-католікаў, аўтар не ўлічвае, што Мітрапаліт ніколі і нідзе не выказваўся супроць вернікаў іншых канфесій і абрадаў і вельмі ветліва прымае кожнага, хто прыходзіць да яго — і вернікаў і атэістаў. Гэта шырока вядома. У адносінах да праваслаўных такое выказванне аўтара яшчэ і абраза, бо яны любяць і паважаюць свайго Мітрапаліта — за ягоныя пропаведзі, дар слова, за зробленае для адраджэння старажытных беларускіх епархій, храмаў, манастырскага жыцця, багаслоўскай адукацыі, за добрыя сувязі Беларускай Праваслаўнай Царквы з вернікамі іншых краін і канфесій, за аднаўленне царкоўнай перыёдыкі і пачатак беларускіх біблейскіх перакладаў — шмат за што. Варта толькі пагля дзець, як горача сустракае яго народ пры ўваходзе ў храм — у Менску, і на перыферыі. Не лічыцца з гэтым — вялікая памылка для палітыка.

Вольна ці міжвольна лідэр БНФ зневажае права Праваслаўнай Царквы і вернікаў самім вырашаць свае царкоўныя справы. Спадар Пазняк падкрэслівае, што БНФ шмат зрабіў для аўтакефаліі БПЦ. Аб барацьбе за аўтакефалію Царквы чуваць і з вуснаў іншых. Але з кім і чаму трэба змагацца? Хто прасіў аб дапамозе і чаму менавіта царкоўнае пытанне аўтакефаліі бяруцца вырашаць людзі, якія нават не з'яўляюцца членамі Праваслаўнай Царквы? Думаецца, ад некампетэнтнасці або ганарлівага жадання дыктаваць. Але трэба было б ведаць, што ў Праваслаўнай Царкве ад апостальскіх часоў існуе кананічны прынцып саборнасці рашэнняў. Жыццёва важныя пытанні царкоўнага ўладкавання вырашаюцца толькі саборам епіскапаў, святароў, вернікаў адпаведна асвечанай традыцыі. Аўтакефалія (аддзяленне ў самастойнасць) зацвярджаецца не толькі саборам епіскапаў, але і ўсімі Праваслаўнымі Цэрквамі, патрыярхамі. Да аўтакефаліі памесная царква ідзе доўгі час — часам стагоддзі, праз выпрабаванне жыццём яе духоўнай моцы, арганізацыю епархій, магчымасць мець свае кадры святароў, эканамічную самастойнасць і г.д. Гістарычныя ўмовы жыцця Праваслаўнай Царквы ў Беларусі былі для гэтага адмоўныя і адраджэнне яе зараз — справа складаная і нялёгкая, але яно ідзе актыўна, зроблена шмат, таму і атрымала самастойнасць Экзархата і ў гэтым прызнанне яе высокага духоўнага і кананічнага аўтарытэту.

Аўтакефалія — гэта не дзяржаўны суверэнітэт, і за яе няма патрэбы «змагацца»: у нармальных умовах усё вырашаецца Царквою саборна, мірна і добраахвотна. Самадзейнае аддзяленне ў некананічную «аўтакефалію» — гэта царкоўны раскол, і не трэба хацець яго для Беларусі, абвінавачваць Мітрапаліта: ён, як епіскап, выконвае абавязак кананічнай адпаведнасці.

Зараз нам патрэбны спакой для хрысціянскага духоўнага адраджэння нацыі. Імкненне шукаць ворагаў і весці бясконцую барацьбу — ад бязбожнага мінулага, і калі мы сапраўды хочам будаваць сваю дзяржаву на фундаменце хрысціянскага гуманізму, то трэба як мага трымацца запаветаў Хрыста: «не судзіце, каб не былі судзімыя, бо якім судом судзіце, такім вас судзіць будуць; і якою мераю мераеце, такою і вам будуць мераць» (Мф. 7, 1—2)...

**Валянціна ДЫШЫНЕВІЧ**

---

**«ЛіМ» друкуе нататкі В.Дышыневіч, не зважаючы на пэўны верніцкі суб'ектывізм аўтаркі, якога, на жаль, яна не здолела пазбегнуць. Ды інтарэсы грамадскага, міжцаркоўнага дыялога вымагаюць, на нашу думку, такіх публікацый. Нельга не пагадзіцца з аўтаркай у тым, што пытанні рэлігійнай гісторыі і царкоўных дачыненняў «нельга вырашаць у запале палітычнай барацьбы і пошуку ворагаў». Дадамо, што і канфесійны патрыятызм — таксама не самы канструктыўны шлях для наладжання духоўнага сумоўя і паразумення: тут патрэбны сапраўды аб'ектыўныя, бесстаронні я даследаванні.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:
Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара -- 33-25-25; адказны сакратар -- 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Тыраж 15.000.
Нумар падпісаны 8.04.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12